28 лістапада 2014 | № 45 (414)

Новы час

novychas.info

• КУЛЬТУРА • ГРАМАДСТВА • ЭКАНОМІКА • ЛЮДЗІ • ПАДЗЕІ • ФАКТЫ

ISSN 2218-2144

«У НАШАЙ ПРАЦЫ САМАЕ ГАЛОЎНАЕ — НЕ ЎПУСЦІЦЬ ЧАС!» стар. 6



**28** АНГОЛЬЦЫ ЗАХАПІЛІ ПАРТУГАЛІЮ

Калі раней ангольцы ехалі ў Партугалію зарабляць грошы, то цяпер яны едуць пазбаўляцца ад іх. Заможныя ангольцы становяцца інвестарамі Партугаліі

**9–24** Літаратурная Беларусь

**30–31** ЗАХОДНЕБЕЛАРУСКІ ПАЭТ ЯЗЭП ВІЛЬКОЎШЧЫК

Свае паэтычныя творы Язэп Вількоўшчык пачаў друкаваць у заходнебеларускіх выданнях у пачатку 1930 гадоў

# Ні Кангрэсу, ні «адзінага»?

## Перамовы па адзіным кандыдаце ў прэзідэнты ад апазіцыі скончыліся нічым



Сяргей ПУЛЬША

**Першы «апошні званок» працэдуры абрання «адзінага» прагучаў яшчэ 17 лістапада.**

Тады чатыры ўдзельнікі перамоўнага працэсу (Беларуская сацыял-дэмакратычная партыя (Грамада), рух «За Свабоду», кампанія «Гавары праўду!» і Партыя БНФ), заявілі пра падпісанне пагаднення аб працэдуры вылучэння адзінага кандыдата.

Яны таксама далучылі аргкамітэт па стварэнні партыі «Беларуская хрысціянская дэмакратыя». І заявілі, што «адзінага» будуць вылучаць на Кангрэсе, які пройдзе аж у маі 2015 года.

Гэта выклікала скандал. Па-першае, пагадненне было падпісана за спінамі іншых перамоўшчыкаў — Аб'яднанай грамадзянскай партыі і партыі левых «Справядлівы свет». Па-другое, была парушаная ранейшая дамоўленасць інфармацыю ў СМІ да 1 снежня не даваць. Па-трэцяе, дата Кангрэсу — май 2015 года — увогуле не была ўзгодненая нават паміж падпісантамі.

«Трэба было рабіць нейкія нават у пэўнай ступені радыкальныя крокі, каб паскорыць дасягненне згоды, — тлумачыў лідар Партыі БНФ Аляксей Янукевіч. — Менавіта таму было вырашана прапісаць працэдуру, якая ўлічвае элементы, прапанаваныя прадстаўнікамі розных арганізацый. Было прапанавана: давайце мы гэтую працэдуру ўжо сёння прапішам, паставім жывыя подпісы — і скончым пустыя размовы».

«Заяву 17 лістапада» можна было б зразумець як добрую правакацыю з мэтай падштурхнуць перамоўны працэс і змусіць некаторыя структуры ў гэтым працэсе паварушыцца. Але ў той форме, як гэта было зроблена, — з парушэннем дамоўленасцяў і новай датай правядзення Кангрэсу, — атрымаўся адваротны эфект.

Ужо 25 лістапада з кансультацый па КДС фактычна выйшла АГП. На прэс-канферэнцыі яе лідар Анатоль Лябедзька агучыў, што АГП будзе ўдзельнічаць у прэзідэнцкай кампаніі па сваім сцэнары. Гэты сцэнар прадугледжвае «двухузроўневую» прэзідэнцкую кампанію. Узровень першы — з мэтай у чарговы раз пацвердзіць тое, што ў краіне няма выбараў, ствараецца ініцыятыўная група па вылучэнні кандыдатам у прэзідэнты палітвязня Мікалая Статкевіча. Зразумела, з прычыны таго, што Статкевіч сядзіць у турме, ягоную ініцыятыўную групу не рэгіструюць. Другі ўзровень — гэта вылучэнне «дублёрам» Статкевіча кандыдата ад АГП, які мае засяродзіцца падчас кампаніі на сацыяльна-эканамічных пытаннях. Пры гэтым АГП пакідае за сабой права зняцца з прэзідэнцкай кампаніі на любым яе этапе.

З фактычным пачаткам сваёй прэзідэнцкай кампаніі, у АГП лічаць марнаваннем часу і правядзенне Кангрэсу дэмсілаў. Па словах ганаровага старшыні АГП Станіслава Багданкевіча, Кангрэс павінен быў зацвердзіць «адзінага» з некалькіх прэтэндэнтаў. На сённяшні дзень, апроч Лябедзькі, іншых прэтэндэнтаў проста няма. «Мілінкевіч адмовіўся, паэт (маецца на ўвазе Уладзімір Някляеў — аўт.) адмовіўся. Значыць, Кангрэс склікаецца толькі для таго, каб разглядзець кандыдатуру Лябедзькі? Ці сапраўды гэта патрэбна?» — задаўся пытаннем Багданкевіч.

Як заявіў Лябедзька, пазіцыю па арганізацыі і ўдзеле ў Кангрэсе дэмакратычных сілаў АГП узгодніць з кааліцыяй «Талака». То бок, фактычна, з Сяргеем Калякіным і ягоным «Справядлівым светам». І наўрад ці Калякін будзе пераконваць Лябедзьку, што збор Кангрэсу патрэбны.



**Апазіцыя пацвердзіла сваю няздольнасць дамовіцца**

Такім чынам, схема дамоўленасцяў па правядзенні Кангрэсу дэмсіл развальваецца. Дамова павінна была быць рэалізаваная па схеме «кансенсус мінус адзін». Зараз ёсць «мінус два» — БПЛ «Справядлівы свет» і АГП. Не факт, што не адваліцца і БХД: у іх заяве з нагоды «заявы 17 лістапада» падкрэсліваецца, што «толькі ў такім фармаце (кансенсус мінус 1) БХД гатова ўдзельнічаць у Кангрэсе».

Ёсць некалькі варыянтаў развіцця падзей. Першы: падпісанты «заявы 17 лістапада» ўсё ж збіраюць Кангрэс па сваіх правілах і вылучаюць «адзінага», які пасля супернічае з Лябедзькам. Думаць пра тое, што гэтым «адзіным» будзе сам Лябедзька — на ўзроўні фантастыкі.

Другі варыянт: праводзіцца тэхнічны Кангрэс, які падтрымлівае кандыдатуру Мікалая Статкевіча, выказваючы яму сваю маральную падтрымку. Але «сямёрка» ўжо адмовілася ад вылучэння адзіным Статкевіча. Ён у турме і не здолее асабіста падаць подпісы для рэгістрацыі ягонай ініцыятыўнай групы, што з'яўляецца катэгарычным патрабаваннем Выбарчага кодэкса. Пры нерэгістрацыі ініцыятыўнай групы нельга правесці нічога — нават збіраць за яго подпісы.

Трэці варыянт — ад ідэі Кангрэсу адмаўляюцца ўсе, і ўсе ідуць на выбары самаходам. Гэта паўтор 2010 года з усімі выцякаючымі адсюль наступствамі.

Канешне, у апазіцыі заўсёды застаецца апошні варыянт, які з поспехам рэалізуе Кансерватыўна-хрысціянская партыя — БНФ: байкот выбараў. Але тады ўся ейная праца з насельніцтвам кшталту збораў подпісаў «за рэферэндум», за добраўпарадкаванне тэрыторыяў, за вырашэнне сацыяльных праблемаў грамадзян — сабаку пад хвост. А яны гэтым займаліся папярэднія тры гады...

Пакуль што адзіны вынік перамоўнага працэсу не сенсацыйны — апазіцыя ў чарговы раз пацвердзіла сваю няздольнасць дамовіцца. Сенсацыяй будзе, калі яна здолее вырвацца з гэтай пасткі, у якую сама ж сябе і загнала.

# Случчане патрабуюць

Зінаіда ЦІМОШАК

**Глыбокія яміны, патрэсканы асфальт, пакрыўленыя і месцамі паваленыя платы, адсутнасць святла ўначы робяць вуліцу Якуба Коласа ў Слуцку не толькі непрывабнай, але і небяспечнай.**

Звычайна вуліцам прысвойваюць прозвішчы выбітных людзей, каб ушанаваць іх памяць. З асаблівай увагай ставяцца да тых, хто ўпісаў свой радок у гісторыю роднага краю. Імя Якуба Коласа знаёма кожнаму беларусу з маленства. Вуліцу з яго прозвішчам можна знайсці ў кожным горадзе і вёсцы Беларусі, нават там, дзе Канстанцін Міхайлавіч ніколі не быў.

Слуцк жа знакаміты паэт не толькі наведваў, але і працаваў тут амаль месяц на палітыка-педагагічных курсах: выкладаў методыку і граматыку роднай мовы. Адбылося гэта ў ліпені 1923 года. Па ўспамінах сведкаў, Якуб Колас атрымаў добрыя ўражанні ад дапытлівых случчан-слухачоў, на адным з літаратурных вечароў у Слуцку першы раз чытаў «Новую зямлю».

Здавалася б, удзячны Слуцк павінен быў па-сапраўднаму ўшанаваць памяць пісьменніка. Ды здарылася іншае. Імем Якуба Коласа назвалі адну з вуліц, што месціцца ў прыватным сектары, а знешні выгляд вуліцы не ўшаноўвае, а зневажае памяць аб выбітным беларускім пісьменніку.

А яшчэ само імя вядомага аўтара «Новай зямлі» на некаторых шыльдах падаецца на рускай мове.

Па гэтай вуліцы асобы юнага ўзросту раніцай спяшаюцца ў 8-ю школу, дзе іх вучаць ганарыцца выбітным беларусам, а ў другой палове дня з асцярогаю вяртаюцца дадому па ямінах гэтай жа цёмнай напаўразбуранай вуліцы.

У лістападзе 2014 года актывісты кампаніі «Гавары праўду» ўрэшце звярнулі ўвагу на своеасаблівы здзек з памяці пісьменніка ў Слуцку. На працягу гэтага тыдня былі сабраныя амаль 150 подпісаў пад калектыўным зваротам случчан з патрабаваннем добраўпарадкаваць вуліцу і не здзекавацца з памяці аб пісьменніку. Пасля заканчэння збору подпісы будуць перададзены ў Слуцкі райвыканкам. Плануецца даслаць у райвыканкам не менш за 200 подпісаў.

Магчыма, калектыўная думка жыхароў Слуцка прымусіць кіраўніцтва горада прыняць захады па навядзенні парадку на вуліцы, якая носіць імя беларускага адраджэнца.

# Памяці ахвяраў Карлагу

Марат ГАРАВЫ

**Вечарам 25 лістапада ў Нацыянальнай бібліятэцы Беларусі адбылася прэзентацыя навукова-даследчага праекта «Карлаг: памяць у імя будучыні».**

Вечарыну арганізавалі навукоўцы Карагандзінскага ўніверсітэта «Болашак» (Казахстан) у межах дамовы пра намеры творчага і навуковага супрацоўніцтва з НББ.

Карлаг (1930–1959) — Карагандзінскі выпраўленча-працоўны лагер — адзін з найбольшых у сістэме ГУЛАГу НКУС СССР. Праз яго прайшлі каля мільёна ахвяраў сталінізму розных нацыянальнасцяў, у тым ліку і беларусы. Памерлых ад катаржнай працы ў лагеры клалі ў чыгуначны насып і закідвалі грунтам. Апроч выбітных прадстаўнікоў савецкай інтэлігенцыі, у Карлагу пакуталі і замежныя грамадзяне, у тым ліку — ваеннапалонныя.

За восем гадоў удзельнікі праекту «Карлаг: памяць у імя будучыні», ініцыяваным доктарам юрыдычных навук, членам-карэспандэнтам Нацыянальнай акадэміі навук Казахстана Нурланам Дулатбекавым, разам з міжнародным гісторыка-асветным, дабрачынным і праваабарончым таварыствам «Мемарыял» падрыхтавалі 12 выданняў. Гэта ўспаміны былых вязняў Карлагу, альбомы рэпрадукцый твораў мастацтва і здымкаў, нарысы гісторыі рэлігій і паўстанняў, факты і расследаванні, статыстыка, табліцы і мапы.

Усе гэтыя працы былі прадстаўленыя на прэзентацыі. У альбоме «Творчасць у няволі» распавядаецца пра вязняў-мастакоў, якія сваёй крывёю і карагандзінскім вугалем пісалі карціны. Сярод герояў серыі — брат вялікай рускай балерыны Маі Плісецкай Азарый, выбітны эканаміст Леў Вазнясенскі, у сям'і якога былі рэпрэсаваныя 21 чалавек на чале з дзядзькам — намеснікам старшыні Саўнаркама Мікалаем Вазнясенскім, заснавальнік пасіянарнай тэорыі этнагенезу Леў Гумілёў, японскія і венгерскія ваеннапалонныя, немцы Паволжа, дэпартаваныя ў Казахстан.

У планах Нурлана Дулатбекава — даследаванне тэматыкі рэпрэсаваных медыкаў, дзяцей Карлагу, вязняў асобных лагераў, ахвяраў 58-га так званага «контррэвалюцыйнага» артыкулу Крымінальнага кодэксу РСФСР і іншых савецкіх рэспублік.

Кнігі праекту «Карлаг: памяць у імя будучыні», што знаходзяцца ў шэрагу публічных, навуковых і ўніверсітэцкіх бібліятэк шматлікіх краінаў свету, былі падараваныя і Нацыянальнай бібліятэцы Беларусі.

# Спыніць пераслед

**Еўрапейская федэрацыі журналістаў і Беларуская асацыяцыя журналістаў у сувязі з пераследам віцебскіх калег накіравала ва УУС Віцебскага аблвыканкама і ў аддзел аховы правапарадку і прафілактыкі АУС Чыгуначнага раёна Віцебска адкрыты ліст, паведаміла прэс-служба БАЖ.**

«Напярэдадні 5 лістапада, Сусветнага дня «Станем за журналістыку», група віцебскіх сябраў ГА «БАЖ» сфатаграфавалася на фоне будынка з вядомым гарадскім графіці — выявамі клетак, з якіх вылятаюць зробленыя з газеты птушкі. Цяпер удзельнікаў фотасесіі выклікаюць у Чыгуначны РАУС Віцебска, складаюць пратаколы за ўдзел у несанкцыянаванай акцыі (арт. 23.34 КаАП) і збіраюцца судзіць. Еўрапейская федэрацыя журналістаў і яе сябра — ГА «Беларуская асацыяцыя журналістаў» — лічаць абсурднымі выстаўленыя віцебскім калегам абвінавачанні», — гаворыцца ў лісце.

«Судзіць як за «несанкцыянаваную акцыю» за фотасесію на фоне гарадской сцяны — гэта анекдатычная сітуацыя, якая была б вартая жалю, калі б не адбівалася на лёсах канкрэтных людзей. На правядзенне фотасесіі не трэба падаваць заяўку, як на правядзенне масавай акцыі: фотасесія не лічыцца масавай акцыяй паводле Закона аб масавых мерапрыемствах у Рэспубліцы Беларусь. Аднак міліцыя расцаніла паводзіны ўдзельнікаў фотасесіі менавіта як «пікетаванне», — падкрэсліваюць аўтары ліста і заклікаюць аддзел аховы правапарадку і прафілактыкі АУС Чыгуначнага раёна Віцебска і асабіста яго начальніка Аляксандра Рыбакова тэрмінова адклікаць пратаколы, складзеныя ў дачыненні да ўдзельнікаў фотасесіі.

Таксама заклікаюць УУС Віцебскага аблвыканкама і асабіста намесніка начальніка ўпраўлення аховы правапарадку і прафілактыкі УУС Аляксандра Каліноўскага тэрмінова адклікаць з АУС Чыгуначнага раёна Віцебска распараджэнне аб прыцягненні да адказнасці ўдзельнікаў вулічнай фотасесіі.

А суд, у які могуць паступіць пратаколы пра ўдзел гэтых людзей у «несанкцыянаванай акцыі», заклікаюць аб'ектыўна і ўсебакова ацаніць іх справы і вынесці рашэнні, заснаваныя на законе і здаровым сэнсе.

Нагадаем, што гэта далёка не першы выпадак пакарання за «пікетаванне шляхам фатаграфавання» — ноў-хаў беларускай Феміды. Фатограф Юлія Дарашэвіч і журналістка Ірына Козлік атрымалі па 30 базавых велічынь штрафу за фотаздымак з плюшавым мішкам. Штраф атрымалі наваполацкія актывісты Сяргей Малашонак і Яўген Парчынскі за размешчанае ў інтэрнэце фота з партрэтам Алеся Бяляцкага. Гродзенскія праваабаронцы Уладзімір Хільмановіч, Раман Юргель і Віктар Сазонаў былі аштрафаваныя спачатку за фотаздымкі з партрэтам Алеся Бяляцкага, праз год з лішкам — за фота з украінскай сімволікай. І, нарэшце, 25 лістапада гэтага Уладзімір Хільмановіч атрымаў штраф за тое, што фатаграфаваўся на фоне бел-чырвона-белага сцяга, а акрэдытаваны журналіст Радыё «Свабода» Міхаіл Карневіч — за тое, што знаходзіўся побач з помнікам Каліноўскаму і «перасоўваўся ў складзе арганізаванай групы».

# Нас чакаюць структурныя рэформы?

Генадзь КЕСНЕР

**26 лістапада намеснік міністра фінансаў Беларусі Максім Ермаловіч на канферэнцыі па макраэканоміцы паведаміў, што ўрад падрыхтаваў папярэдні план па структурным рэфармаванні эканомікі. Што гэта азначае? Па тлумачэнні «Новы Час» звярнуўся да эканаміста Льва Марголіна.**

***— З якой радасці ўрадаўцы загаварылі пра структурныя рэформы ў эканоміцы?***

— Эканоміка дайшла да такой сітуацыі, што не казаць пра структурныя рэформы папросту нельга. Але вельмі сумнеўна, што справа пойдзе далей за размовы. Бо структурныя рэформы — гэта вельмі балючая справа, калі трэба пазбаўляцца ад стратных прадпрыемстваў, калі трэба даваць «зялёную вуліцу» індывідуальнаму прадпрымальніцтву, прыватнаму бізнесу, замежным інвестыцыям. Што, як вядома, заўжды пагражае рэжыму аўтарытарнай улады. Таму наколькі далёка пойдзе гэтая структурная перабудова, будзе залежаць ад цяжкасці сітуацыі.

***— Ці звязаны словы чыноўніка з электаральнай кампаніяй, якая чакаецца ў 2015 годзе, ці краіну насамрэч дзяўбе смажаны певень?***

— Мяркую, што ўрад гэтая электаральная кампанія цікавіць у апошнюю чаргу. Ім зараз абы выжыць. Справа ў тым, што сёлета, апроч расійскай дапамогі, нічога не дачакаліся. Налета, апроч адмены паралічэнняў вывазных мытаў на нафтапрадукты ў расійскі бюджэт, таксама нічога не прадбачыцца, але гэтага яўна недастаткова.




**Эканоміка дайшла да такой сітуацыі, што не казаць пра структурныя рэформы папросту нельга. Але вельмі сумнеўна, што справа пойдзе далей за размовы. Бо структурныя рэформы — гэта вельмі балючая справа,**

Ацэньваючы сітуацыю ў расійскай эканоміцы, можна сказаць, што ім таксама будзе цяжкавата ў ранейшых памерах датаваць беларусаў. Так што пачынае патыхаць смажаным.

***— Можна ўзгадаць, што ніколі раней з вуснаў чыноўнікаў словы «структурныя рэформы эканомікі» нават не гучалі.***

— Мяркую, гэта своеасаблівы адказ на тое, што пастаянна кажуць незалежныя эксперты. Бо практычна кожны адказ на пытанне, што рабіць, зводзіцца да структурных рэформаў у эканоміцы. Не проста дазволіць прадпрымальнікам наймаць трох чалавек, калі тых самых прадпрымальнікаў жывых амаль не засталося. У грамадстве, відаць, саспела патрэба ў сапраўдных рэформах, і гэтыя словы былі спробаю адказаць на гэты грамадскі запыт.

***— Ці разумеюць самі ўлады, што такое структурныя рэформы?***

— Гэта ясна нават студэнту першага курса эканамічнага факультэта, як і многім не эканамістам. Нельга пастаянна цягнуць прадпрыемствы, якія без старонняй дапамогі не могуць утрымацца на плыву. Бо дзяржава дапамагае неэфектыўным прадпрыемствам выраблядь прадукцыю, якая нікому не патрэбная і якая ляжыць на сховішчах.

Ці не прасцей зачыніць гэтыя прадпрыемствы і плаціць гэтым людзям заробкі ці прыстойную дапамогу па беспрацоўі? Бо, па меншай меры, мэтавыя сыравінныя рэсурсы не будуць выкарыстоўвацца задарма. Гэта не вышэйшая матэматыка. Могуць быць розныя падыходы ў дэталях, умовах, тэхналогіях, тактычныя, але стратэгічна — што такое структурныя рэформы эканомікі, цудоўна разумеюць і ва ўрадзе, і ў экспертнай супольнасці, і ў апазіцыі, і гэтак далей.

ТЫДНЁВЫ АГЛЯД

# Да звыклай кепскай нормы

Сяргей САЛАЎЁЎ

**Пад Новы год Расія вырашыла правесці рэвізію сваіх надзённых справаў. Гэта даволі балюча адбіваецца на Беларусі. А значыць, нам зноў давядзецца раскашэльвацца.**



Рассельгаснагляд пачаў радыкальна прыводзіць да розуму расійскае эмбарга на харчы. З 30 лістапада транзіт падкантрольнай ветэрынарнай службе прадукцыі праз тэрыторыю Расіі ў Казахстан і трэція краіны дазваляецца толькі праз пункты пропуску на расійскім участку мяжы Мытнага саюза, а канкрэтна — у Бранску ці Пскове. Усё, што праходзіць па-за межамі гэтых пунктаў, будзе лічыцца кантрабандай і падлягаць «расстрэлу на месцы без папярэджанняў». Адначасна Рассельгаснагляд звярнуўся да Мінсельгасхарчу Беларусі з просьбай з 30 лістапада бягучага года адмяніць усе дазволы на транзіт тавараў праз Беларусь, маршрут руху якіх праходзіць праз тэрыторыю Расіі, і спыніць іх афармленне і выдачу, у тым ліку дазволаў на транзіт у Казахстан і трэція краіны.

Карацей, накрылася тая схема, калі еўрапейскія харчы ішлі транзітам праз Беларусь у Казахстан, а «знікалі» недзе ў Маскоўскай вобласці. Разам з гэтай схемай накрыўся і Мытны саюз, і яшчэ не пачаўшы дзейнасць Еўразійскі эканамічны саюз. Бо знікае падставовая база для дзейнасці гэтых арганізацый — свабоднае перамяшчэнне тавараў, паслуг і працоўнай сілы. Які можа быць Мытны саюз, калі Расія фактычна ўвяла дагляд грузаў Беларусі ў Казахстан?

На гэта і ўпірае былы прэм'ер Беларусі, а зараз міністр па прамысловасці і аграпрамысловаму комплексу Еўразійскай эканамічнай камісіі Сяргей Сідорскі. Так, ён жывы і працягвае прыносіць карысць Радзіме. Ён прапанаваў Рассельгаснагляду не ўводзіць абмежаванні на транзіт праз Беларусь тавараў, забароненых для імпарту ў РФ. Свае патрабаванні Сідорскі матываваў тым, што меры і абмежаванні Рассельгаснагляду «не будуць спрыяць рэалізацыі мэтаў функцыянавання Мытнага саюза».

Рашэнне расійскага ведамства падрывае базавыя асновы функцыянавання ЕАЭС — свабоднае перамяшчэнне тавараў і паслуг. Канфлікт інтарэсаў можа апынуцца невырашальным, і ЕАЭС праз месяц не запрацуе.

Акрамя таго, Пуцін падпісаў закон аб правядзенні падатковага манеўру ў нафтавай галіне. Дакумент накіраваны на падрыхтоўку ўмоў, неабходных для мінімізацыі страт бюджэту Расіі ў сувязі са стварэннем ЕАЭС з Казахстанам і Беларуссю. У межах падатковага манеўру за тры гады паэтапна скарачаюцца вывазныя мытныя пошліны на нафту ў 1,7 разы, і на нафтапрадукты — у 1,7–5 разоў. Яны замяняюцца расійскім падаткам на здабычу карысных выкапняў (ПЗКВ): на нафту ў 1,7 разы і на газавы кандэнсат — у 6,5 разы.

Гэта значыць, што Беларусь, якая ў абмен на ЕАЭС мае права пакідаць экспартныя пошліны на нафту, не далічыцца прыбытку. І чым далей — тым больш. А яшчэ і за газ прыйдзецца плаціць больш, таму што тым жа законам прадугледжваецца абкладанне расійскім унутраным акцызам прыроднага газу. Раней гэта быў «непадакцызны тавар».

Вось такія сюрпрызікі. Самае крыўднае, што льготы па нафце і газу Расія дала не нам, вечным саюзнікам РФ, а кітайцам — аж на 15 гадоў. Той жа закон вызначае льготы па ПЗКВ і падатку на маёмасць арганізацый для праекта паставак газу ў Кітай па газаправодзе «Сіла Сібіры». Усталёўваецца нулявая стаўка ПЗКВ на працягу першых 15 гадоў распрацоўкі радовішчаў, якія знаходзяцца ў межах Іркуцкай вобласці і Якуціі.

Навошта нам такі сквапны саюзнік?

Карацей, трэба шукаць грошы. Дзе? Напрыклад, улады Мінска да 10 снежня падвысяць кошт праезду ў транспарце да 4.500 рублёў.

Варта зазначыць, што кошт праезду за год падвысіўся амаль удвая. У снежні 2013 года ён падвысіўся з 2.500 рублёў да 3.000. У красавіку 2014-га — з 3.000 да 3.700 рублёў. У жніўні — да 4.000. Зараз — да 4.500.

Увесь час нам кажуць, што наш кошт праезду не пакрывае затратаў транспартнікаў. Давайце палічым. Кошт літра саляркі для аўтобусаў зараз — 11.700 рублёў. Гэта значыць, правоз трох чалавек з лішкам акупляе літр салярак. Расход паліва аўтобуса — 30–35 літраў на 100 км. То бок, каб акупіць 100 км прабегу, аўтобус павінен перавезці 90 чалавек.

90 чалавек свабодна ўлезуць у адзін аўтобус-«гармошку». Самы доўгі маршрут аўтобуса ў Мінску — 23 кіламетры. Улічваючы, што людзі заходзяць і выходзяць не толькі на канцавых прыпынках, 100 км прабегу акупляюцца за адзін рэйс у адзін бок. Астатнія тры рэйсы ў межах стокіламетровага расходу саляры — чысты прыбытак транспартнікаў.

Канешне, могуць сказаць, што ў іх ёсць і іншыя выдаткі — абслугоўванне парку, запчасткі, заробак кіроўцам і гэтак далей. А я скажу, што ў «Мінсктрансе» ёсць маршруты не па 23, а і па два, і па тры, і па пяць кіламетраў, за якія людзі таксама плацяць поўны кошт праезду. Калі ў такіх варунках і пры такіх коштах грамадскі транспарт стратны — значыць, у самой ягонай сістэме нешта не так.

Знайшоўся яшчэ адзін эканомны — новы мэр Мінска Андрэй Шорац заявіў, што ўлады сталіцы больш не будуць выдаткоўваць грошы на дваровыя пляцоўкі.

«Дзяржава абавязана ўсталяваць на дваровай тэрыторыі мінімальнае абсталяванне, добраўпарадкаваннем жа пляцовак павінны займацца тыя, хто пражывае ў гэтым двары. Нашы грамадзяне павінны разумець, што добраўпарадкаванне двара — гэта іх задача, бо тут адпачываюць яны са сваімі дзецьмі», — заявіў Шорац.

Шчыра кажучы, я — цалкам «за». Хай грамадзяне самі добраўпарадкоўваюць тэрыторыю свайго дома. Але, кажучы «а», трэба казаць і «бэ». Калі грамадзяне самі клапоцяцца пра свае двары, трэба ліквідаваць ЖЭСЫ і ЖРЭА. Перадайце іх функцыі таварыствам гаспадарнікаў. А тое мы самі пра свой двор клапоцімся, а ім яшчэ за гэта і плацім?

Як вы думаеце, ці дастане ў гэтага чыноўніка імпэту не эканоміць на дзіцячых пляцоўках, а паламаць наскрозь прагнілую сістэму ЖКГ? І не проста паламаць, а стварыць на ёй нешта лепшае?

ФІГУРЫ ТЫДНЯ

## Юрый Жадобін



**Аляксандр Лукашэнка вызваліў генерал-лейтэнанта Юрыя Жадобіна ад пасады міністра абароны і звольніў яго з вайсковай службы ў запас па ўзросце з правам нашэння вайсковай формы адзення і знакаў адрознення.**

Юрый Жадобін нарадзіўся 14 лістапада 1954 года ў Днепрапятроўску, у 1976-м скончыў Казанскае вышэйшае танкавае каманднае вучылішча, у 1985 годзе — каманды факультэт Ваеннай акадэміі бранятанкавых войскаў.

У 1999 годзе прызначаны на пасаду намесніка міністра ўнутраных спраў — камандуючым унутранымі войскамі, а ў верасні 2003 года — кіраўніком Службы бяспекі прэзідэнта. 17 ліпеня 2007 года быў прызначаны старшынёй КДБ. На гэтай пасадзе ён усіх весяліў: заявіў пра тое, што ведае дакладную колькасць «дэструктыўных элементаў» у Беларусі (1767), шыхтаваў на плацу КДБоўцаў, а таксама прымушаў «байцоў нябачнага фронту» быць бачнымі — хадзіць на працу ў форме.

15 ліпеня 2008 года прызначаны дзяржаўным сакратаром Савета бяспекі. Па словах Лукашэнкі — найгоршы з кіраўнікоў СБ: «Вы прайграеце ўсім папярэднім дзяржсакратарам».

4 снежня 2009 года прызначаны міністрам абароны Рэспублікі Беларусь і праспаў «Плюшавы дэсант» 4 ліпеня 2012 года.

## Павел Вінаградаў



**Актывіст арганізацыі «Zмена» вырашыў з'ехаць з Мінску да бацькі ў Беразіно. Як патлумачыў сам Вінаградаў: «Не хачу быць паліталкаголікам».**

Мы ўжо прызвычаіліся да таго, што Вінаградава садзяць на суткі адміністрацыйнага арышту, якая б акцыя ў Мінску ні прайшла. Прайшла акцыя — да яго прыходзяць дадому і адпраўляюць у Цэнтр ізаляцыі правапарушальнікаў за тое, што ён «лаяўся матам». Але апошнім часам у пратаколах сталі дадаваць: «У нецвярозым стане». Такім чынам, актывіст ужо мае тры спагнанні не проста за хуліганства, а за хуліганства ў стане алкагольнага ап'янення, што дае магчымасць накіраваць яго ў ЛТП. Зразумела, гэтыя пратаколы абскарджваюцца, аднак у пазітыўны вынік Вінаградаў не верыць.

«Ёсць палітзняволеныя, ёсць палітпрызыўнікі, а я вось буў бы першым паліталкаголікам», — патлумачыў Павел Вінаградаў.

Чым зоймецца ў Беразіно, Вінаградаў пакуль не ведае. У яго ёсць тры спецыяльнасці: цырульнік, слесар і зваршчык.

Мінскім журналістам будзе вельмі не хапаць такой яркай асобы. Але, спадзяемся, ад гэтага выйграе Беразіно.

## Сяргей Міхалок



**Вядомы беларускі музыка і ягоны наваствораны гурт «Brutto» паспрабавалі арыгінальным чынам абысці забарону на выступы ў Беларусі.**

«Brutto» павінен быў выступіць з 20-хвілінным сэтам (чатыры песні) на «Мінск-Арэне» 29 лістапада перад матчам чэмпіянату КХЛ «Дынама» — «Медвешчак». Але «фішка не пракацiла».

Інфармацыя пра выступ «Brutto» з'явілася раніцай у пятніцу, 21 лістапада, на сайце «Дынама». Яна ж была пацверджаная і ў акаўнце гурта ў Facebook. Аднак у другой палове таго ж дня інфармацыя пра выступ з сайта «Дынама» знікла, а затым знікла з акаўнта гурта. Замест гэтага там з'явілася паведамленне, што «ў ХК «Дынама» перадумалі».

«Мы вельмі хацелі, каб у YouTube з'явіліся дзясяткі відосаў, як Міхалок з братвой спявае «Наша возьме» ў «Мінск-Арэне». Нумар амаль прайшоў. Будзем спрабаваць трапіць на Дажынкі», — пракаментаваў гэта Сяргей Міхалок.

А шкада, што «Дынама» перадумала. Ім трэба было б як мага больш разрэкламаваць такі выступ. Тады гэты шараговы матч КХЛ сабраў бы народу больш, чым фінал Чэмпіянату свету.

# Захаваць незалежнасць Беларусі мірным шляхам




Марат ГАРАВЫ

**Усебеларускі кангрэс за незалежнасць запланаваны на 21 снежня. Яго збяруць дзеля таго, каб захаваць незалежнасць Бацькаўшчыны мірным шляхам.**

Пра гэта 25 лістапада на прэсавай канферэнцыі ў Мінску заявілі каардынатар аргкамітэту кангрэсу, мовазнаўца і грамадская дзеячка Алена Анісім, сустаршыні кангрэсу — педагог і кінарэжысёр Уладзімір Колас, доктар юрыдычных навук Міхаіл Пастухоў, гісторык і грамадскі дзеяч Алег Трусаў.

Яны пазнаёмілі журналістаў з праектам Маніфесту ў абарону незалежнасці. На што акцэнтавалі ўвагу удзельнікі прэсавай канферэнцыі?

Вылучэнне прадстаўнікоў на кангрэс будзе адбывацца сярод тых, хто неабыякавы да пытання незалежнасці Беларусі. У залежнасці ад колькасці такіх людзей у тым ці іншым са 118 раёнаў краіны, на кангрэс можа быць абрана ад 1 да 5 прадстаўнікоў. Прычым, яны сваім коштам будуць аплачваць удзел у гэтым мерапрыемстве. Апроч таго, запрашэнні на кангрэс накіраваныя ўсім дэмакратычным партыям і грамадскім аб'яднанням. Станоўчы адказ пра ўдзел у кангрэсе гэтых структураў грамадзянскай супольнасці будзе садзейнічаць яе кансалідацыі.

На думку арганізатараў кангрэсу, мінімальная колькасць яго ўдзельнікаў павінна складаць не меней за 300 чалавек з большасці раёнаў Беларусі, бо галоўнае — прадстаўнічасць форуму. Мяркуецца зрабіць кангрэс пастаянна дзеючым, абраць раду кангрэса і збіраць яго сесіі для абмеркавання найбольш актуальных пытанняў нацыянальнага жыцця. Такім чынам, гаворка ідзе пра доўгатэрміновую грамадскую ініцыятыву.

Арганізатары кангрэсу падкрэслілі, што змест маніфесту носіць канструктыўны характар, тычыцца менавіта вострай праблемы захавання незалежнасці краіны і не ўздымае пытанне пра змену ўлады. І каб мірным шляхам захаваць незалежнасць Беларусі, трэба шукаць паразуменне з прадстаўнікамі розных галінаў дзеючай улады.

Такая цярпімасць арганізатараў кангрэсу сведчыць пра высокі ўзровень іх унутранай свабоды, што вельмі важна для сённяшняга беларускага грамадства, дзе апошнім часам пануе агрэсіўная нецярпімасць, якая носіць не стваральны, а разбуральны характар. А высокі ўзровень прадстаўніцтва, што чакаецца на кангрэсе, будзе мець адпаведныя наступствы, як гістарычныя (сведчанне прынцыповай пазіцыі прадстаўнікоў беларускага народу ў адстойванні незалежнасці Бацькаўшчыны), так і прававыя (запатрабаванасць гэтага юрыдычнага дакументу будучай дэмакратычнай беларускай уладай).

Напрыканцы прэсавай канферэнцыі старшыня ГА «Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны» Алег Трусаў уручыў сяброўскі білет аб'яднання Міхаілу Пастухову.



Алег Трусаў уручае білет сябры ТБМ Міхаілу Пастухову

## Маніфест у абарону незалежнасці Беларусі

Мы, удзельнікі Усебеларускага кангрэса, усведамляючы сваю адказнасць за лёс Беларусі, жадаючы захаваць нацыянальныя каштоўнасці і традыцыі беларускага народа, усведамляючы прыярытэт нацыянальных інтарэсаў перад прыватнымі палітычнымі амбіцыямі, кіруючыся імкненнем забяспечыць суверэнітэт і свабоду нашай Бацькаўшчыны і вярнуць дзяржаўныя структуры Рэспублікі Беларусь на шлях служэння беларускаму народу, дзейнічаючы ў межах нашых законных правоў, прымаем наступны Маніфест.

* * *

Мы нагадваем, што дзяржаўны суверэнітэт нашай краіны быў абвешчаны 27 ліпеня 1990 года ў Дэкларацыі Вярхоўнага Савета Беларусі. 25 жніўня 1991 г. Дэкларацыя набыла статус канстытуцыйнага закона.

У артыкуле 1 Дэкларацыі адзначаецца, што Беларусь — суверэнная дзяржава, якая паўстала на аснове ажыццяўлення беларускай нацыяй яе неад'емнага права на самавызначэнне, дзяржаўнасці беларускай мовы, вяршэнства народа ў вызначэнні свайго лёсу.

У артыкуле 2 Дэкларацыі падкрэсліваецца, што носьбітам суверэнітэту і адзінай крыніцай дзяржаўнай улады ў краіне з'яўляецца беларускі народ, які складаюць грамадзяне ўсіх нацыянальнасцяў.

Канстытуцыя Рэспублікі Беларусь, прынятая 15 сакавіка 1994 г., пацвердзіла асноўныя палажэнні Дэкларацыі аб дзяржаўным суверэнітэце. Так, у артыкуле 1 Канстытуцыі замацоўваецца, што Рэспубліка Беларусь валодае вяршэнствам і паўнатой улады на сваёй тэрыторыі, самастойна ажыццяўляе ўнутраную і знешнюю палітыку.

Аднак папраўкі, прынятыя ў выніку рэферэндумаў 1995 і 1996 гадоў, прывялі да парушэння фундаментальных нормаў Дэкларацыі і Канстытуцыі Беларусі.

Сур'ёзная пагроза суверэнітэту дзяржавы ўзнікла ў сувязі з заключэннем дамоваў з Расійскай Федэрацыяй аб стварэнні так званай «Саюзнай дзяржавы», што выклікала пратэст дэмакратычнай грамадскасці і скліканне Усебеларускага з'езда 29 ліпеня 2000 года. На ім быў прыняты Акт аб незалежнасці Беларусі, у якім адзначалася, што «суверэнітэт краіны не можа быць абмежаваны або скасаваны праз рашэнні дзяржаўных асоб і органаў, а нават праз рэферэндум». У ім таксама было прызнана, што не маюць законнай сілы любыя пагадненні і рашэнні, скіраваныя на скасаванне альбо абмежаванне суверэнітэту Беларусі.

Новую сур'ёзную пагрозу незалежнасці краіны нясе ў сабе Дагавор аб Еўразійскім эканамічным саюзе, ратыфікаваны 9 кастрычніка беларускімі ўладамі. Шэраг палажэнняў гэтага Дагавора супярэчаць агульнапрызнаным нормам міжнароднага права, Дэкларацыі аб дзяржаўным суверэнітэце і Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь. Гэтая пагроза ўзмацняецца значнымі зменамі ў геапалітыцы, выкліканымі імкненнем кіраўніцтва Расійскай Федэрацыі ўсталяваць новы сусветны парадак.

Мы заяўляем:

Беларусь — гэта наш дом, які мы атрымалі ў спадчыну ад продкаў і павінны захаваць для нашчадкаў. Мы і наша зямля – не «шчыт», «фарпост» ці «буфер» для суседніх дзяржаваў. Размяшчэнне замежных вайсковых кантынгентаў і базаў на тэрыторыі Беларусі недапушчальнае. Усе замежныя войскі павінны пакінуць нашу тэрыторыю.




Беларусь — краіна, якая найбольш пацярпела ад Чарнобыльскай катастрофы. Гэта адбіваецца на здароўі нашых суайчыннікаў. Кіраўніцтва краіны павінна спыніць шматгадовую практыку замоўчвання і ігнаравання наступстваў чарнобыльскай праблемы. Вялікую трывогу выклікае будаўніцтва атамнай электрастанцыі на тэрыторыі Беларусі, рашэнне аб якім было прынята без уліку меркавання народа.

Мы занепакоены і тым, што народ на працягу апошніх 20 гадоў фактычна пазбаўлены магчымасці абіраць сваіх прадстаўнікоў у органы мясцовай і вышэйшай улады.

Мы не можам заставацца абыякавымі да дэмаграфічнай сітуацыі ў краіне. Нацыя старэе і паступова вымірае. Нам неабходна зрабіць палітычныя і эканамічныя захады, якія б давалі магчымасць для самарэалізацыі моладзі на радзіме, спрыялі стварэнню сям'і, заахвочвалі да нараджэння і гадавання дзяцей.

Наша зямля і яе нетры не павінны бескантрольна аддавацца ва ўласнасць ці арэнду замежным грамадзянам або дзяржавам. Усе інвестыцыйныя праекты, звязаныя з новым будаўніцтвам, павінны прымацца са згоды і пад кантролем грамадства.

* * *

Прымаючы пад увагу, што ўступленне ў сілу з 1 студзеня 2015 года Дагавора аб Еўразійскім эканамічным саюзе можа стаць асновай для страты дзяржаўнага суверэнітэту Рэспублікі Беларусь, прывесці да далейшага знішчэння беларускай мовы, ператварыць Беларусь у адзін з суб'ектаў Расійскай Федэрацыі, мы патрабуем ад уладаў неадкладна скасаваць Дагавор аб Еўразійскім эканамічным саюзе або ўнесці ў яго тэкст адпаведныя змены.

Мы заяўляем, што ўсе пагадненні і дагаворы, якія былі заключаны з парушэннем Канстытуцыі і якія ставяць пад пагрозу незалежнасць нашай краіны, павінны быць перагледжаны.

Мы аб'яўляем ўсім краінам і народам, міжнародным і рэгіянальным арганізацыям, што Рэспубліка Беларусь была і застаецца суверэннай, нейтральнай і без'ядзернай дзяржавай.

Мы заклікаем палітычныя партыі, грамадскія аб'яднанні і рухі, патрыятычна настроеных грамадзян падтрымаць гэты Маніфест і далучыцца да агульнанацыянальнай кампаніі ў абарону незалежнасці нашай краіны.

Маніфест прыняты на пасяджэнні Кангрэса і адкрыты для падпісання іншымі суб'ектамі грамадзянскай супольнасці.

# Як адмяняецца смяротнае пакаранне?

Сяргей ПУЛЬША

**У беларускіх уладаў няма палітычнай волі на тое, каб адмяніць смяротную кару. Яны пастаянна спасылаюцца на вынікі рэферэндуму 1996 года, калі большасць насельніцтва прагаласавала за захаванне такой меры пакарання. Але адмена смяротнага пакарання на рэферэндуме не вырашаецца, і не вырашалася ніколі.**







Да адмены смяротнага пакарання грамадства не было гатовае нідзе. Тым не менш, без гэтага віду кары Еўропа выдатна абыходзіцца.

### Без рэферэндумаў

Амаль паўсюль у Еўропе і на прасторах былога СССР, аказваецца, гэтая праблема развязвалася рашэннем уладаў. З адной простай прычыны: палічыць «гатоўнасць грамадства да адмены смяротнай кары ў працэнтах» немагчыма. Які працэнт тых, хто выступае супраць смяротнага пакарання павінен быць, каб грамадства было залічана ў лік «гатовых»? Гэтага ніхто не ведае.

Грамадская думка пастаянна вагаецца. Згодна з апытаннямі, падчас працэсу над Канавалавым і Кавалёвым колькасць праціўнікаў смяротнай кары зраўнялася з колькасцю яе прыхільнікаў. Выклікана гэта было не самім смяротным пакараннем, а недаверам да суда. Калі судовы працэс скончыўся, колькасць прыхільнікаў смяротнай кары ізноў папаўзла ўверх.

Людзі не ведаюць, што смяротнае пакаранне — гэта не момантавае дзеянне, не «стрэл у галаву», а працэс. З выкананнем пакарання ён не пачынаецца і не заканчваецца. У якіх умовах «смертнікі» чакаюць выканання прысуду? Як і дзе іх хаваюць? Чаму целы не выдаюцца сваякам? Шмат пытанняў, без адказаў на якія грамадзянін проста не можа абгрунтавана адказаць: за ці супраць ён смяротнай кары.

Таму ні на якім рэферэндуме і ніколі мы не атрымаем зялёнае святло для адмовы ад смяротнага пакарання. Такая адмова — заўсёды прэрагатыва ўладаў.

### Смерць і злачыннасць

Даўно вядома, што наяўнасць альбо адсутнасць у краіне смяротнага пакарання не звязана з узроўнем злачыннасці. Смяротная кара не ёсць стрымліваючым фактарам. Злачыннасці ўсё роўна, ёсць у краіне смяротнае пакаранне, альбо яго няма.

У шматлікіх краінах, якія адмянялі смяротнае пакаранне, узровень цяжкай злачыннасці кшталту забойстваў і рабаўніцтваў зніжаўся. Так было ў Расіі, Украіне, Румыніі і Албаніі. Але гэта не звязана з наяўнасцю смяротнага пакарання альбо з яго адсутнасцю. Гэта больш звязана з ростам дабрабыту насельніцтва. Калі дабрабыт павялічваецца — менш падставаў для злачынстваў. Менавіта ўзровень дабрабыту скарачае гвалтоўныя злачынствы: эфектыўней становіцца ўзламаць банкаўскую картку ці рахунак, чым падпільноўваць чалавека з нажом у цёмным завулку.

Да таго ж, большасць цяжкіх злачынстваў здзяйсняюцца на побытавай глебе, часцяком — у стане алкагольнага альбо наркатычнага ап'янення.

Таму, калі мы хочам скараціць злачыннасць, трэба не захоўваць смяротнае пакаранне, а займацца эканомікай, прапагандай здаровага ладу жыцця, культурай спажывання спіртнога і, зразумела ж, змагацца з наркатызацыяй грамадства. Смяротная кара тут ні пры чым.

### Незаўважнае пакаранне

Самае цікавае ў тым, што праблема смяротнага пакарання застаецца грамадствам незаўважанай. З гэтай прычыны нашы парламентары і ўладныя чыноўнікі робяць высновы: грамадства выступае за смяротнае пакаранне, і нічога змяняць не трэба.

А калі паглядзець на гэта з іншага боку?

Адказ на пытанне «так, я за захаванне смяротнага пакарання» — адказ фармальны, кансерватыўны і больш эмацыйны, чым аргументаваны. Тое, што грамадства выступае за смяротную кару — гэта вялікі міф. Насамрэч, проста ўсім гэта абыякава.

Ні ў адной краіне былога СССР альбо так званага «савецкага лагеру» адмена смяротнага пакарання не выклікала якіх-небудзь узрушэнняў, масавых хваляванняў, пратэстаў і гэтак далей. То бок, за захаванне смяротнага пакарання ніхто ні ў адной краіне не змагаўся, як кажуць «з пенай ля роту». Адмянілі — і адмянілі, Бог з імі.

Чаму б не паспрабаваць Беларусі зрабіць хаця б мараторый на смяротнае пакаранне? Калі будуць пратэсты — можна вярнуць смяротную кару назад. Але нешта я сумняваюся, што такія пратэсты будуць.

# У кутузку за кнігу

Сяргей ПУЛЬША

**Звыклы артыкул Кодэкса адміністрацыйных правапарушэнняў пра «дробнае хуліганства» (17.1) пачаў прымяняцца міліцыяй не толькі супраць вядомых апазіцыянераў. Зараз «лаяцца матам» на пустым месцы пачалі і шараговыя грамадзяне.**



Гісторыя Аляксандра Вайцешыка з Баранавічаў адначасова і парадаксальная, і павучальная. У адной з кавярняў Нясвіжа ён папрасіў кнігу скаргаў. Гэтая кніга, па ідэі, павінная выдавацца па першым патрабаванні спажыўца. Аднак выдаць яму яе адмовіліся. Аляксандр Вайцешык выклікаў міліцыю.

Прыбыўшыя на месца здарэння міліцыянты, павітаўшыся з кіраўніцтвам кавярні за руку, перакваліфікавалі Вайцешыка з заяўніка ў асобу, у адносінах да якой вядзецца адміністрацыйны працэс. Па версіі міліцыянтаў і складзенага імі пратаколу, Вайцешык, нібыта, выказваючы просьбу аб прадстаўленні кнігі заўваг і прапаноў і будучы цвярозым, лаяўся матам.

Паказальна, што разам з Вайцешыкам міліцыя затрымала за тое ж «дробнае хуліганства» і яшчэ двух грамадзян — Дзяніса Чурака і Віталя Ермаковіча. Затрыманыя яны былі за тое, што папрасілі ў кавярні выдаць ім чэк аб аплаце рахунку, бо падазравалі, што іх аблічылі.

Такім чынам, 17 лістапада Вайцешык быў змешчаны ў Нясвіжскі Ізалятар часовага ўтрымання, дзе ён прабыў два дні да суда.

Менавіта ўтрыманне ў гэтым ІЧУ прымусіла Вайцешыка напісаць заявы ў Генеральную пракуратуру і Рэспубліканскую санітарна-эпідэміялагічную станцыю МУС аб закрыцці Нясвіжскага ізалятара.

Па меркаванні Вайцешыка, у ІЧУ Нясвіжа парушаецца ўсё, што толькі можна. На шэсць чалавек у камеры — адна паліца на 4 аддзяленні, адзін стул і адзін стол. У перыяд знаходжання ў камеры Вайцешыка не працавала ані ацяпленне, ані вентыляцыя. Уначы Вайцешык не мог заснуць ад холаду, а ўдзень — ад тытунёвага дыму сукамернікаў. З-за такіх умоваў утрымання яму нават прыйшлося выклікаць хуткую дапамогу.

Пасцельную бялізну выдалі толькі Вайцешыку, дый тое толькі адну навалачку і адну прасціну. Астатнія абыходзіліся голымі матрацамі.

Самае галоўнае — у камеры №4, дзе знаходзіўся Вайцешык, адсутнічае прыбіральня. Замест яе — пластыкавае вядро. Як есці побач з такой «прыбіральняй»? Па словах Вайцешыка, такая сістэма «прыбіральняў» існуе і ў іншых камерах. Па запаўненні яны выстаўляліся ў калідор, і адзін з арыштаваных іх выносіў. Гэтая «прыбіральня» нават не дэзынфекуецца.

Зразумела, такія ўмовы прывялі да таго, што Вайцешык два дні трымаў «вымушаную галадоўку». Гэта таксама было цяжка, бо ў камеры вады няма. Яе набіралі з кранаў у прыбіральні ў пластыкавыя бутэлькі, аднак пітной такую ваду наўрад ці можна назваць. Тым больш, што ў «нармальную прыбіральню» затрыманых выводзяць, як Бог на душу пакладзе. Маглі вывесці два разы на дзень, а маглі не выводзіць увогуле. Туалетная папера і мыла ў ІЧУ Нясвіжа адсутнічаюць як клас. На вуліцу для прагулак у Нясвіжскім ІЧУ нікога не выводзяць: ні адміністрацыйна затрыманых (арыштаваных), ні затрыманых да суда.

Варта нагадаць, што Вайцешык у ІЧУ Нясвіжа чакаў судовага рашэння па сваёй адміністрацыйнай справе. Ён яшчэ не быў асуджаны і прызнаны вінаватым. То бок, яшчэ ні ў чым не вінаваты чалавек жыў два дні ў такіх умовах утрымання…

Вайцешык справядліва палічыў, што ўмовы ягонага ўтрымання ў ІЧУ з 17 па 19 лістапада ў сукупнасці парушаюць ягоныя правы, «прадугледжаныя артыкуламі 25 Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь, артыкулам 7 Міжнароднага пакта аб грамадзянскіх і палітычных правах, ст. 18.3 ПВКаАП Рэспублікі Беларусь і Правілаў, зацверджаных пастановай Міністэрства ўнутраных спраў Рэспублікі Беларусь ад 08.08.2007 г. № 194, і складаюць жорсткае, бесчалавечнае і прыніжаючае маю чалавечую годнасць абыходжанне».

Зараз Вайцешык просіць ад Генпракуратуры і санітарна-эпідэміялагічную станцыю МУС закрыць Нясвіжскі ІЧУ. Калі мераў не будзе прынята, у яго ёсць усе магчымасці дайсці са скаргай на жорсткае, бесчалавечнае і прыніжаючае чалавечую годнасць абыходжанне» да Камітэту ААН па правах чалавека. А гэта ўжо будзе справа не аб парушэнні правоў на свабоду сходаў або асацыяцыяў, а наўпростая справа аб катаванні ў Беларусі людзей — яшчэ нават не асуджаных да пакарання.

# «У нашай працы самае галоўнае — не ўпусціць час!»



**Юлія Коўган — адна з тых, да каго звяртаюцца ў першую чаргу, калі чалавек знікае без вестак. Чаму ў сучасных умовах, калі нават у маленькіх дзяцей ёсць мабільны тэлефон, людзі знікаюць без вестак? Чаму адны праходзяць міма чужой бяды, а іншыя дапамагаюць незнаёмым людзям — пра гэта мы гутарым з Юліяй Коўган, інфармацыйным каардынатарам пошукава-выратавальнага атрада «Анёл».**

— У нашых грамадзян ёсць сур'ёзная, нават небяспечная памылка: яны думаюць, што ў міліцыю трэба звяртацца праз трое сутак, а раней пошукавая дзейнасць ажыццяўляцца не будзе. Мы ў сваёй працы з гэтым часта сутыкаемся, і бывае проста неверагодна шкада, што людзі страцілі каштоўны час праз свае памылкі і адсутнасць інфармацыі пра тое, як правільна сябе паводзіць, калі ёсць падставы хвалявацца за блізкага чалавека.

***— А што з'яўляецца падставай для хвалявання і якой павінная быць схема паводзінаў?***

— Напрыклад, чалавек сышоў і не вяртаецца значна даўжэй за ўмоўлены час або паехаў у іншы горад і не тэлефануе па прыездзе, хоць пра гэта дамаўляліся. Нядаўна быў выпадак: пажылы мужчына, у якога праблемы з сэрцам, з'ехаў на машыне, павінен быў з працы заехаць у краму — і дадому. Аднак ён не вярнуўся ў прызначаны час, тэлефон спачатку не адказваў, потым стаў недаступны, машыны нідзе на той дарозе не было. Аказалася, яму проста стала кепска, ён выклікаў хуткую дапамогу, у бальніцы папрасіў паведаміць сваякам, а там не паведамілі.

Трэба звяртаць увагу на любыя нетыповыя паводзіны сваіх родных і знаёмых, цалкам можа выявіцца, што ім патрэбная дапамога. Па вопыце працы магу сказаць, што калі ў вас узнікла нагода для хвалявання, то лепш перастрахавацца і адразу патэлефанаваць у 102, паведаміць, што знік блізкі чалавек і вы хочаце падаць заяву. Калі трывога акажацца ілжывай, той, пра каго турбаваліся, напіша потым заяву, што з ім усё добра. Ніякіх негатыўных наступстваў накшталт пастаноўкі на асаблівы ўлік у міліцыі гэтае дзеянне не нясе — гэта яшчэ адна аблуда нашых грамадзян.

Да званка ў міліцыю можна звярнуцца ў бюро рэгістрацыі няшчасных выпадкаў, куды сцякаецца ўся інфармацыя з міліцыі, бальніц, моргаў пра ДТЗ і няшчасныя выпадкі, і там паспрабаваць высветліць, ці не паступала інфармацыя пра пэўнага чалавека. Дарэчы, напісаць заяву аб знікненні могуць не толькі сваякі, але і суседзі і сябры.

***— Хто часцей за ўсё знікае ў Беларусі?***

— Пажылыя людзі, у якіх ёсць праблемы са здароўем і здараюцца страты памяці. Значна радзей, у параўнанні з РФ у нас знікаюць дзеці. Часцяком яны знаходзяцца за некалькі гадзін. У сезон нам значна дадаюць працы грыбнікі і ягаднікі, якія губляюць арыентацыю, захапіўшыся зборам, альбо ім робіцца кепска, і яны не могуць самастойна выйсці з лесу.

Вялікі працэнт зніклых без вестак складаюць людзі, якія з'язджаюць на заробкі ў Расію. Статыстыка паказвае, што 70–80 адсоткаў такіх выпадкаў заканчваецца тым, што людзі трапляюць у рабства. Існуе добра арганізаваная злачынная схема, калі пад уздзеяннем псіхатропных прэпаратаў людзей вывозяць у Дагестан, дзе яны аказваюцца без дакументаў і грошай, і ім даводзіцца працаваць, таму што іншага выйсця папросту няма. Калі нейкім цудам гэтым людзям удаецца паведаміць родным, што з імі здарылася бяда, нам даводзіцца разам з іх сваякамі і нашымі калегамі з расійскага аб'яднання «Альтэрнатива» арганізоўваць іх вяртанне, бо чалавеку без дакументаў вельмі складана трапіць на радзіму, нават калі паміж дзяржавамі няма межаў.




***— Чаму ўзнікла неабходнасць у вашай арганізацыі?***

— Калі чалавек знік, то самы важны момант — не ўпусціць час. Чым больш аператыўна пачынаецца пошук, тым больш шанцаў знайсці чалавека жывым і здаровым. І ў гэтым плане дзяржаўным сілавым структурам дзейнічаць аператыўна часам перашкаджаюць бюракратычныя затрымкі, напрыклад, неабходнасць атрымання пісьмовых дазволаў ад кіраўніцтва, што не заўсёды можна зрабіць хутка. А мы з моманту падачы заявы ў міліцыю і паступлення да нас заяўкі можам за гадзіну сабраць групу і выехаць на пошукі чалавека. Акрамя таго, у МНС і МУС даволі шырокі спектр дзейнасці, а ў нас вельмі вузкая спецыялізацыя, і з моманту свайго стварэння ў 2012 годзе наш атрад неаднаразова дэманстраваў, што ў гэтым ёсць несумненныя перавагі.

Толькі ў 2013 годзе мы дапамаглі ў пошуку чатырохсот пяцідзесяці чалавек. Даказваць сваю патрэбнасць грамадскасці і дзяржаўным структурам нам ужо не трэба — за нас красамоўна кажуць вынікі. Цяпер мы ў працэсе рэгістрацыі грамадскага аб'яднання «Поисково-спасательный отряд "Ангел"». Гэта дазволіць нам атрымліваць дзяржаўнае фінансаванне, адпаведна, паляпшаць матэрыяльную базу атрада, праводзіць навучанне і тым самым удасканальваць працу.

***— Што заахвоціла асабіста вас займацца такой складанай у эмацыйным плане дзейнасцю?***

— Пра дзейнасць «Анёла» я даведалася ад камандзіра атрада Сяргея Коўгана. Мяне вельмі ўразіла, што ёсць вось такія хлопцы. А калі ім спатрэбіўся памочнік для вядзення групы і размяшчэння інфармацыі на сайце, я выказала жаданне дапамагчы. Мне быў цікавы гэты кірунак, паступова я пачала ўдзельнічаць у пошуках. Цяпер Сяргей — мой муж, і цалкам лагічна, што я і далей буду ісці за ім.

Безумоўна, наш атрад сутыкаецца з рознымі сітуацыямі, часам нам не ўдаецца знайсці чалавека або дапамога прыходзіць занадта позна. Перыядычна хочацца адасобіцца на нейкі час, забыцца пра пошукі і проста адпачыць. У такія хвіліны нам вельмі дапамагае псіхолаг, які, дарэчы, таксама добраахвотнік і працуе з намі бясплатна. Аднак у нашай дзейнасці досыць шмат гісторый са шчаслівым фіналам, і ў такія моманты адчуваеш велізарнае маральнае задавальненне і неймаверны душэўны ўздым, які вельмі стымулюе працягваць справу.

***— Якую інфармацыйную падтрымку аказваюць вам СМІ, і што неабходна зрабіць у гэтым плане, каб у вашага атрада было як мага менш працы?***

— Мы вельмі шчыльна супрацоўнічаем з парталам tut.by, праграмай «Белорусское времечко», электронным часопісам «Человек и закон», наша дзейнасць добра прадстаўленая ў сацыяльных сетках. Аднак практыка паказвае, што неабходна задзейнічаць як мага больш інфармацыйных крыніц, каб прыцягваць да пошуку зніклых без вестак тыя пласты насельніцтва, якія не карыстаюцца інтэрнэтам, а чытаюць газеты, напрыклад. Асабліва гэта датычыцца сельскай мясцовасці.

Што да спосабаў інфармавання нашых грамадзян аб злачыннасці, то мне здаецца, што з гэтым у нас відавочны перакос. Навінавыя выпускі больш чым напалову складаюцца з крымінальнай хронікі, у рэпартажах крывавыя падрабязнасці проста смакуюцца ў надзеі прыцягнуць як мага больш гледачоў. Але мне здаецца, што мэтай такіх перадач мусіць быць не ўзняцце рэйтынгу канала, а нагода папярэдзіць людзей, што трэба быць асцярожнымі і прадбачлівымі, а таксама праінфармаваць, як пазбегнуць такіх сітуацый у сваім жыцці.

Напрыклад, існуе інфалінія 113, дзе можна атрымаць інфармацыю пра бяспечны выезд і знаходжанне за мяжой. Але ці многія пра яе чулі? Дзякуючы сацыяльнай рэкламе нашы людзі навучыліся захоўваць чэк з крамы, а вось пра тое, як не трапіць у рабства, з'язджаючы на працу ці адпачынак, ведаюць і цікавяцца нямногія, асабліва на перыферыі.

Дзяржава таксама павінная надаваць больш увагі прафілактыцы самагубстваў. На жаль, мы ў сваёй працы вельмі часта сутыкаемся з гэтай праблемай, у асноўным гэта маладыя людзі ва ўзросце ад сямнаццаці да дваццаці пяці гадоў. Гэта ўзрост моцных пачуццяў, першых сур'ёзных дарослых праблем і памылак. Для многіх маладых людзей моцныя негатыўныя эмоцыі, неразуменне і адсутнасць увагі з боку блізкіх і сяброў робіцца настолькі невыносным, што яны не знаходзяць для сябе іншага выйсця, як скончыць жыццё самагубствам. А ў нас жа ёсць службы даверу, псіхалагічныя гарачыя лініі, але інфармацыя пра іх распаўсюджваецца недастаткова эфектыўна.

***— За некалькі гадоў вы прайшлі дарогу ад групы энтузіястаў па аказанні дапамогі ў пошуку зніклых без вестак да сур'ёзнага аб'яднання прафесіяналаў высокага ўзроўню. Чым вы асабліва ганарыцеся і пра што даводзіцца шкадаваць?***

— Кожнае выратаванае жыццё — гэта перамога, кожная страта — гэта падстава для глыбокага аналізу і непазбежных душэўных пакутаў: а ці ўсё мы зрабілі, што маглі? Аднак статыстыка паказвае, што зніклых без вестак стала менш, чым у мінулыя гады. Прыемна ўсведамляць, што ў гэтым ёсць і наша заслуга. Акрамя таго, сваякі і сябры знойдзеных намі людзей кажуць, што наяўнасць атрада і інфармацыя аб яго дзейнасці дае людзям псіхалагічную апору, веру ў тое, што ў крытычнай сітуацыі на дапамогу прыйдуць спецыялісты. Гэта вельмі важна — разумець, што ты не адзін. Бо ніхто не застрахаваны ад праблем, у любую сям'ю можа прыйсці бяда. Вельмі хацелася б, каб людзі пра гэта памяталі і былі больш памяркоўнымі і больш уважлівымі адно да аднаго.

На жаль, далёка не кожны ў нас падыдзе да чалавека, які ляжыць пад лаўкай ці на клумбе. Большасць вырашыць, што ён п'яны, і пройдзе міма. Такія сцэны можна бачыць паўсюдна, асабліва ў вялікіх гарадах. А ў гэты ж час, магчыма, сваякі або сябры ўжо збіліся з ног, шукаючы гэтага чалавека, і адзін званок у міліцыю або хуткую дапамогу можа стаць для яго выратавальным.

**Ганна Трубачова,**
**Юлія Капусціна;**
**Фота — Аляксандр Tarantino Ждановіч, Журналісцкае агенцтва «Таранціны і сыны»; праект "Будзьма беларускімі"**

TV

## 3 СНЕЖНЯ, СЕРАДА

### 1 Беларусь

**06.00, 07.20, 08.15** Добрай раніцы, Беларусь!
**07.00, 08.00 (з сурдаперакладам), 09.00, 12.00, 15.00, 19.00, 00.45** Навіны.
**07.05, 08.05** Навіны эканомікі.
**07.10, 08.10** Зона Х.
**09.10** Дэтэктыўны серыял «След» (Расія).
**11.00, 13.00, 16.00** 90 секунд.
**11.05** Сямейная сага «Зроблена ў СССР».
**12.10** Серыял «Сямейныя меладрамы-2».
**13.05** Дзень у вялікім горадзе.
**14.00** Серыял «Ластаўчына гняздо» (Расія).
**15.15, 18.40** Навіны рэгіёну.
**15.25** Камедыйны серыял «Сваты-4» (Украіна). 1-я серыя.
**16.35** Серыял «Сямейныя меладрамы-2».
**17.30** Беларуская часіна.
**19.20** Сфера інтарэсаў.
**19.40, 00.05** «Зона Х». Крымінальныя навіны.
**20.00** Сямейная сага «Зроблена ў СССР».
**21.00** Панарама.
**21.45** Дэтэктыўны серыял «След» (Расія).
**23.45** Актуальнае інтэрв'ю.
**00.25** Сфера інтарэсаў.
**01.00** Дзень спорту.
**01.15** Камедыйны серыял «Сваты-4» (Украіна). 1-я серыя.

### Н

**06.00, 06.30, 07.00, 07.30, 08.00, 08.30, 09.00, 11.00, 13.00, 16.00, 18.00, 20.30, 23.10** Нашы навіны.
**06.05** АНТ прадстаўляе. «Наша раніца».
**09.05** «Жыць здарова!».
**10.25** «Кантрольная закупка».
**11.05** Навіны спорту.
**11.10** «Фазэнда».
**11.55** «Модны прысуд».
**13.05** Навіны спорту.
**13.10** «Мужчынскае / Жаночае».
**14.15** «Сам-насам з усімі».
**15.15** «Час пакажа».
**16.10** Навіны спорту.
**16.15** «Час пакажа».
**16.50** «Давай пажэнімся!».
**18.15** Навіны спорту.
**18.20** Серыял «Зайцаў + 1».
**18.50** «Хай кажуць».
**20.00** Час.
**21.00** Навіны спорту.
**21.05** «Спакуса». Тэлесерыял.
**23.10** «Як выйсці замуж за мільянера». Тэлесерыял.
**01.05** Начныя навіны.

### ТВ

**06.00, 07.30, 10.30, 13.30, 16.30, 19.30, 22.30** «24 гадзіны».
**06.10** «Міншчына».
**06.20** «Раніца. Студыя добрага настрою».
**07.40** «СТБ спорт».
**09.00** «Мінск і мінчане».
**09.35** «Цэнтральны рэгіён».
**10.05** «Аўтапанарама».
**10.40** «Званая вячэра».
**11.35** «Сямейныя драмы».
**12.35** «Не хлусі мне!».
**13.50** Фільм «Туз» (Італія, 1981 г.).
**15.35** «Татальны распродаж».
**16.50** «Следакі».
**17.20** «Міншчына».
**17.30** «Званая вячэра».
**18.30** «Нам і не снілася».
**20.00** «Сталічныя падрабязнасці».
**20.10** «СТБ спорт».
**20.15** Фільм «Моцны шлюб» (Расія, 2012 г.).
**22.05** «Глядзець усім!».
**22.55** «СТБ спорт».
**23.00** «Гарачы лёд».
**23.20** «Сардэчна паскардзіцца».
**23.40** «Сакрэтныя тэрыторыі».
**00.30** «Меч». Серыял.

### 2 Беларусь

**07.00** Раніца.
**09.00** Тэлебарометр.
**09.05** Меладраматычны серыял «Сашка».
**10.10** Беларуская кухня.
**10.45** Вострасюжэтны дэтэктыў «Асабістыя матывы» (Расія).
**11.45** Серыял «Віртуозы» (Вялікабрытанія).
**12.55** Вышэй за дах.
**13.30** Камедыйны серыял «Універ» (Расія).
**15.45** Рэпарцёр.
**16.35** Меладраматычны серыял «Сашка».
**17.50** Камедыйны серыял «Таксі» (Украіна).
**18.50** Кіпень.
**19.10** Біятлон. Этап кубка свету. Мужчыны. Індывідуальная гонка. Прамая трансляцыя.
**21.20** Тэлебарометр.
**21.25** Спортлато 5 з 36.
**21.30** КЕНО.
**21.35** Камедыйны серыял «Універ» (Расія).
**22.40** Вострасюжэтны дэтэктыў «Асабістыя матывы» (Расія).
**23.40** Хачу ў тэлевізар!
**23.45** Спартыўная камедыя «Усё або нічога».

### 3 Беларусь

**07.15** «Дабраранак».
**07.45** «Хачу ўсё ведаць!» Навукова-папулярны відэачасопіс для дзяцей.
**08.00, 12.35, 19.15, 00.10** «Калейдаскоп».
**08.10, 12.45, 19.25** «Музычны скарб Беларусі».
**08.15** «Рахманая». Драма (СССР, 1960 г.).
**09.25, 17.15** «Дыя@блог». «Пра мову».
**09.50** «І на каменнях растуць дрэвы». Прыгодніцкая драма. 1-я і 2-я серыі (СССР, 1985 г.).
**12.10, 23.45** «Святло далёкай зоркі». Памяці акцёра і рэжысёра Уладзіміра Маланкіна.
**12.50** «Музеі Беларусі». Мастацкая галерэя Міхаіла Савіцкага.
**13.15** «Наперад у мінулае».
**13.45** «І з горкіх кветак пчала прыносіць мёд». Дакументальны фільм пра людзей з абмежаванымі фізічнымі магчымасцямі.
**14.40** «Таямніца душы». Гродзенская семінарыя.
**15.05** «Запаведнай сцежкай». Заказнік «Лебядзіны Мох-Патокі».
**15.30** «Лёсы палонных генералаў». Дак. серыял. Фільм другі «Украіна - мэта №1».
**16.25** «Пацалунак Сакрата». Дэтэктыўны серыял. Фільм другі «Каралі Неферціці». 1-я серыя (Беларусь, 2011 г.).
**17.40** «Джазавыя вечары ў філармоніі». Квінтэт Пятра Барона з праграмай «Kaddish» (Польшча).
**19.35** «Вакансія». Музычная камедыя (СССР, 1981 г.).
**20.45** Калыханка.
**21.15** «Пачаць ліквідацыю». Ваенная драма. 1-я серыя (СССР, 1983 г.).
**22.15** «Дыя@блог». «Пра прыгожае».
**22.40** «Пачаць ліквідацыю». Ваенная драма. 2-я серыя (СССР, 1983 г.).

### 5 Беларусь

**07.00** PRO спорт. Навіны.
**08.00** Футбол. Чэмпіянат Англіі. «Манчэстар Юнайтэд» - «Хал Сіці».
**09.55** Футбол. Чэмпіянат Англіі. «Лестэр» - «Ліверпуль».
**11.45** Футбол. Чэмпіянат Англіі. «Вэст Бромвіч» - «Вэст Хэм».
**13.40** Спорт-кадр.
**14.10** Козел пра футбол.
**14.25** Гандбол. Ліга чэмпіёнаў. Відэачасопіс.
**14.55** Футбол. Чэмпіянат Беларусі. Пераходны матч. Першая гульня. ФК «Віцебск» - «Дняпро» (Магілёў). Прамая трансляцыя.
**16.55** Плаванне. Чэмпіянат свету на кароткай вадзе. Прамая трансляцыя.
**18.55** Хакей. КХЛ. «Лакаматыў» (Яраслаўль) - «Дынама» (Мінск). Прамая трансляцыя.
**21.15** Плаванне. Чэмпіянат свету на кароткай вадзе.
**22.40** Футбол. Чэмпіянат Англіі. «Чэлсі» - «Тотэнхэм». Прамая трансляцыя.

### БЕЛСАТ tv BELSAT

**07.00** Інфармацыйна-публіцыстычны блок.
**07.30** Рэпартэр (інфармацыйна-публіцыстычная праграма).
**08.00** Інфармацыйна-публіцыстычны блок.
**08.30** Аб'ектыў.
**08.50** Інфармацыйна-публіцыстычны блок.
**10.15** Два на два (тэледыскусія).
**10.45** Без рэтушы: «Простыя справы», рэпартаж, 2012 г., Беларусь.
**11.00** «Ранча», серыял.
**11.45** Над Нёманам (тэлечасопіс).
**12.00** Кулінарныя падарожжы Робэрта Макловіча.
**12.30** Інфармацыйна-публіцыстычны блок.
**13.00** Рэпартэр (інфармацыйна-публіцыстычная праграма).
**13.30** Інфармацыйна-публіцыстычны блок.
**14.00** Аб'ектыў.
**14.20** Інфармацыйна-публіцыстычны блок.
**15.45** Два на два (тэледыскусія).
**16.15** Без рэтушы: «Простыя справы», рэпартаж, 2012 г., Беларусь.
**16.30** «Генерал няскончанай вайны», дак. фільм, 2009 г., Беларусь: ч. 2.
**17.00** Над Нёманам (тэлечасопіс).
**17.20** Кулінарныя падарожжы Робэрта Макловіча.
**17.45** Моўнік: Дзе мы купляем?
**18.00** Рэмарка (культурніцкая праграма).
**18.30** Навіны.
**18.40** Агляд медыяў.
**18.45** Каментар эксперта.
**18.50** Стыль.
**18.55** Асабісты капітал.
**19.15** Гісторыя пад знакам Пагоні (спазнаваўчая праграма): Міхал Клеафас Агінскі.
**19.30** Навіны.
**19.35** Свет.
**19.50** Агляд падзеяў культуры.
**20.00** Навіны.
**20.10** Агляд медыяў.
**20.15** Гарачы каментар.
**20.30** Навіны.
**20.35** Гарачы каментар.
**20.50** Сальда (эканамічная праграма).
**21.00** Аб'ектыў (галоўнае выданне).
**21.25** Размова У. Мацкевіча / М. Жбанкова / С. Калінкінай.
**21.45** Маю права (юрыдычная праграма).
**22.05** 54 % (публіцыстычная праграма).
**22.25** «Лонданцы II», серыял.
**23.10** Эксперт (сатырычная праграма).
**23.35** Інфармацыйна-публіцыстычны блок.
**00.05** Асабісты капітал (эканамічная праграма).
**00.25** Гісторыя пад знакам Пагоні (спазнаваўчая праграма): Міхал Клеафас Агінскі.
**00.35** Аб'ектыў.
**01.05** Інфармацыйна-публіцыстычны блок.
**02.55** Маю права (юрыдычная праграма).
**03.15** 54 % (публіцыстычная праграма).

## 4 СНЕЖНЯ, ЧАЦВЕР

### 1 Беларусь

**06.00, 07.20, 08.15** Добрай раніцы, Беларусь!
**07.00, 08.00 з сурдаперакладам), 09.00, 12.00, 15.00, 19.00, 00.55** Навіны.
**07.05, 08.05** Навіны эканомікі.
**07.10, 08.10** Зона Х.
**08.50** Слова Мітрапаліта Паўла.
**09.10** Дэтэктыўны серыял «След» (Расія).
**11.00, 13.00, 16.00** 90 секунд.
**11.05** Сямейная сага «Зроблена ў СССР» .
**12.10** Серыял «Сямейныя меладрамы-2» .
**13.05** Дзень у вялікім горадзе.
**14.00** Меладраматычны серыял «Ластаўчына гняздо» (Расія).
**15.15, 18.40** Навіны рэгіёну.
**15.25** Камедыйны серыял «Сваты-4» (Украіна). 2-я серыя.
**16.35** Серыял «Сямейныя меладрамы-2».
**17.30** Беларуская часіна.
**19.20** Сфера інтарэсаў.
**19.40, 00.20** «Зона Х». Крымінальныя навіны.
**20.00** Сямейная сага «Зроблена ў СССР».
**21.00** Панарама.
**21.45** Дэтэктыўны серыял «След» (Расія).
**23.50** Вечар цяжкага дня.
**00.40** Сфера інтарэсаў.
**01.15** Дзень спорту.
**01.30** Камедыйны серыял «Сваты-4» (Украіна). 2-я серыя.

### Н

**06.00, 06.30, 07.00, 07.30, 08.00, 08.30, 09.00, 11.00, 13.00, 16.00, 18.00, 20.30, 23.10** Нашы навіны.
**06.05** АНТ прадстаўляе. «Наша раніца».
**09.05** «Жыць здарова!».
**10.25** «Кантрольная закупка».
**11.05** Навіны спорту.
**11.10** «Фазэнда».
**11.50** «Модны прысуд».
**13.05** Навіны спорту.
**13.10** «Мужчынскае / Жаночае».
**14.15** «Сам-насам з усімі».
**15.15** «Час пакажа».
**16.10** Навіны спорту.
**16.15** «Час пакажа».
**16.50** «Давай пажэнімся!».
**18.15** Навіны спорту.
**18.20** Серыял «Зайцаў + 1».
**18.50** «Хай кажуць».
**20.00** Час.
**21.00** Навіны спорту.
**21.05** «Спакуса». Тэлесерыял.
**23.10** «Што? Дзе? Калі? У Беларусі».
**00.25** «На ноч глядзячы».
**01.20** Начныя навіны.

### ТВ

**06.00, 07.30, 10.30, 13.30, 16.30, 19.30, 22.30** «24 гадзіны».
**06.10** «Міншчына».
**06.20** «Раніца. Студыя добрага настрою».
**07.40** «СТБ спорт».
**09.00** «Прыгоды дылетанта».
**09.40** «Гарачы лёд».
**10.05** «Сардэчна паскардзіцца».
**10.40** «Званая вячэра».
**11.35** «Сямейныя драмы».
**12.35** «Не хлусі мне!».
**13.50** Фільм «Моцны шлюб» (Расія, 2012 г.).
**15.35** «Татальны распродаж».
**16.50** «Следакі».
**17.20** «Міншчына».
**17.30** «Званая вячэра».
**18.30** «Нам і не снілася».
**20.00** «Сталічныя падрабязнасці».
**20.10** «СТБ спорт».
**20.15** Фільм «Выбух з мінулага» (ЗША, 1998 г.).
**22.15** «Глядзець усім!».
**22.55** «СТБ спорт».
**23.00** «Таямніцы свету з Ганнай Чапман».
**00.00** «Аўтапанарама».
**00.20** «Меч». Серыял.

### 2 Беларусь

**07.00** Раніца.
**09.00** Тэлебарометр.
**09.05** Меладраматычны серыял «Сашка».
**10.10** Беларуская кухня.
**10.45** Вострасюжэтны дэтэктыў «Асабістыя матывы» (Расія).
**11.45** Спартыўная камедыя «Усё або нічога» (ЗША).
**13.45** Пазнавальна-забаўляльная праграма «Разбуральнікі міфаў» (ЗША).
**14.45** Камедыйны серыял «Універ» (Расія).
**15.50** «Перазагрузка». Маладзёжнае ток-шоў.
**16.35** Меладраматычны серыял «Сашка».
**17.50** Камедыйны серыял «Таксі» (Украіна).
**18.50** Кіпень.
**19.10** Біятлон. Этап кубка свету. Жанчыны. Індывідуальная гонка. Прамая трансляцыя.
**21.20** Тэлебарометр.
**21.25** КЕНО.
**21.30** Камедыйны серыял «Універ» (Расія).
**22.40** Вострасюжэтны дэтэктыў «Асабістыя матывы» (Расія). Заключная серыя.
**23.45** Камедыйны серыял «Таксі» (Украіна).
**00.20** Пазнавальна-забаўляльная праграма «Разбуральнікі міфаў» (ЗША).

### 3 Беларусь

**07.15** «Дабраранак».
**07.45** «Хачу ўсё ведаць!» Навукова-папулярны відэачасопіс для дзяцей.
**08.00, 12.40, 19.00, 00.20** «Калейдаскоп».
**08.10, 12.50, 18.25** «Размовы пра духоўнае». Увядзенне ў храм Прасвятой Багародзіцы.
**08.25** «Вакансія». Музычная камедыя (СССР).
**09.35, 17.30** «Дыя@блог». «Пра прыгожае».
**10.00, 15.40, 19.10, 00.30** «Галасы з мінулага». Герой Савецкага Саюза Канстанцін Фролавіч Лазаненка.
**10.05** «Пачаць ліквідацыю». Ваенная драма. 1-я і 2-я серыі (СССР, 1983 г.).
**12.15, 23.50** «Святло далёкай зоркі». Памяці актрысы Ганны Абуховіч.
**13.00** «Сны Максіма». Кароткаметражны музычны фільм па вершах Максіма Багдановіча.
**13.30** «Я люблю тебя, жизнь!». Творчы вечар акцёра тэатра і кіно, спевака і кампазітара Анатоля Дускага.
**14.50** «Наперад у мінулае».
**15.20** «Непрыручаная птушка». Жыццё і творчасць паэтэсы Яўгеніі Янішчыц.
**15.50** «Лёсы палонных генералаў». Дак серыял. Фільм трэці «Кіеўская катастрофа».
**16.45** «Пацалунак Сакрата». Дэтэктыўны серыял. Фільм другі «Каралі Неферціці». 2-я серыя (Беларусь, 2011 г.).
**18.00** «Размаўляем па-беларуску». Тэлевіктарына.
**18.35** «Сіла веры».
**19.25** «Драма са старадаўняга жыцця». Мастацкі фільм (СССР, 1971 г.).
**20.45** Калыханка.
**21.10** «Ганна Карэніна». Драма. Частка 1-я (СССР, 1967 г.).
**22.20** «Дыя@блог». «Пра вечнае».
**22.50** «Ганна Карэніна». Драма. Частка 2-я (СССР, 1967 г.).

### 5 Беларусь

**07.00** PRO спорт. Навіны.
**08.00** Футбол. Чэмпіянат Беларусі. Пераходны матч. Першая гульня. ФК «Віцебск» - «Дняпро» (Магілёў).
**09.45** Хакей. КХЛ. «Лакаматыў» (Яраслаўль) - «Дынама» (Мінск).
**11.40** Футбол. Чэмпіянат Англіі. «Арсенал» - «Саўтгэмптан».
**13.30** Біятлон. Этап Кубка свету. Эстэрсунд. Індывідуальная гонка. Мужчыны.
**15.35** Футбол. Чэмпіянат Англіі. «Чэлсі» - «Тотэнхэм».
**17.25** Авертайм.
**17.55** Плаванне. Чэмпіянат свету на кароткай вадзе. Прамая трансляцыя.
**21.00** Футбол. Чэмпіянат Англіі. Агляд тура.
**21.55** Біятлон. Этап Кубка свету. Эстэрсунд. Індывідуальная гонка. Жанчыны.

### БЕЛСАТ tv BELSAT

**07.00** Інфармацыйна-публіцыстычны блок.
**07.25** Асабісты капітал.
**07.45** Гісторыя пад знакам Пагоні (спазнаваўчая праграма): Міхал Клеафас Агінскі.
**08.00** Інфармацыйна-публіцыстычны блок.
**08.30** Аб'ектыў.
**08.50** Інфармацыйна-публіцыстычны блок.
**10.15** Маю права (юрыдычная праграма).
**10.35** 54 % (публіцыстычная праграма).
**10.55** «Лонданцы II», серыял.
**11.40** Гісторыя пад знакам Пагоні (спазнаваўчая праграма): Максім Багдановіч.
**11.55** «Генерал няскончанай вайны», дак. фільм, 2009 г., Беларусь: ч. 2.
**12.25** Інфармацыйна-публіцыстычны блок.
**12.55** Асабісты капітал.
**13.15** Гісторыя пад знакам Пагоні (спазнаваўчая праграма): Міхал Клеафас Агінскі.
**13.25** Інфармацыйна-публіцыстычны блок.
**13.55** Аб'ектыў.
**14.15** Інфармацыйна-публіцыстычны блок.
**15.40** Маю права (юрыдычная праграма).
**16.05** 54 % (публіцыстычная праграма).
**16.25** «Ранча», серыял.
**17.15** «Лонданцы II», серыял.
**17.55** Моўнік (лінгвістычная праграма): Адкуль пайшлі найменні гарадоў.
**18.15** Без рэтушы: «Простыя справы», рэпартаж, 2012 г., Беларусь.
**18.30** Навіны.
**18.40** Агляд медыяў.
**18.45** Каментар эксперта.
**18.50** Профіль пакалення.
**18.55** Два на два (тэледыскусія).
**19.30** Навіны.
**19.35** Свет.
**19.50** Агляд падзеяў культуры.
**20.00** Навіны.
**20.10** Агляд медыяў.
**20.15** Гарачы каментар.
**20.30** Навіны.
**20.35** Гарачы каментар.
**20.50** Сальда (эканамічная праграма).
**21.00** Аб'ектыў (галоўнае выданне).
**21.25** Размова У. Мацкевіча / М. Жбанкова / С. Калінкінай.
**21.45** Рэпартэр.
**22.10** Відэма-невідэма.
**22.40** «Лёс адной сям'і – гісторыя трох народаў», дак. фільм, 2011 г., Літва.
**00.00** Інфармацыйна-публіцыстычны блок.
**00.30** Два на два (тэледыскусія).
**01.00** Інфармацыйна-публіцыстычны блок.
**01.30** Аб'ектыў.

Новы Час | 28 лістапада 2014 | № 45 (414) | «ЛІТАРАТУРНАЯ БЕЛАРУСЬ» | № 11 (99)



# Літаратурная Беларусь

Выпуск №11 (99)
(лістапад)

КУЛЬТУРНА-АСВЕТНІЦКІ ПРАЕКТ
Грамадскага аб'яднання «Саюз беларускіх пісьменнікаў» і «Новага Часу»

lit-bel.org
novychas. info

## Змест



# Культура чытання беларусаў

**У Мінску адбылася прэзентацыя вынікаў сацыялагічнага даследавання практыкі чытання і літаратурных зацікаўленасцяў беларусаў.**

Апытанне было праведзена Лабараторыяй «Новак» на замову ГА «Саюз беларускіх пісьменнікаў». У мерапрыемстве ўзялі ўдзел прадстаўнікі Нацыянальнага інстытута адукацыі, ААТ «Белкніга», Інстытута журналістыкі БДУ, пісьменнікі, выдаўцы і грамадскія дзеячы.

Круглы стол быў адкрыты прывітальным словам Барыса Пятровіча, у якім празаік адзначыў, што сацыялагічныя апытанні, праведзеныя ў 2011 і 2014 гадах, паказваюць зніжэнне цікавасці беларусаў да чытання на роднай мове. Большасць рэспандэнтаў называюць асноўнай прычынай гэтага недастатковае веданне мовы, якасць жа нашай літаратуры ў чытачоў сумневаў не выклікае.

— Сярод намінантаў на Нобелеўскую прэмію былі Васіль Быкаў, Алесь Разанаў, Рыгор Барадулін, Уладзімір Някляеў, Святлана Алексіевіч, што сведчыць пра належны ўзровень беларускай літаратуры ў кантэксце сусветнай. Літаратурныя прэміі «Дэбют» імя Максіма Багдановіча, імя Ежы Гедройца актуалізуюць сучасны літаратурны працэс. Але, нягледзячы на вялікую колькасць таленавітых пісьменнікаў і твораў, у цэлым цікавасць аўдыторыі да чытання па-беларуску падае, — адзначыў старшыня СБП.

Сацыёлаг Лідзія Міхеева прэзентавала вынікі даследавання, у межах якога метадам тэлефоннага інтэрв'ю ЛАД «Новак» апытала 1000 рэспандэнтаў розных узростаў і з розных рэгіёнаў пражывання.

Выявілася, што мастацкую літаратуру хоць бы раз у месяц чытаюць каля 57,9 % беларусаў. Колькасць людзей, якія ў прынцыпе не чытаюць кніг (ні мастацкіх, ні навукова-папулярных або дакументальных) складае каля 19 %.

Калі ў 2011 годзе апытаныя сярод жанраў выбіралі найбольш дэтэктывы, жаночыя раманы і фантастыку, то ў 2014 годзе папулярнасць набірае класічная літаратура і кнігі па гісторыі.

На пытанне «На якой мове Вы чытаеце мастацкую літаратуру?», якое давала магчымасць выбару некалькіх варыянтаў, 99,4% рэспандэнтаў назвала рускую, і 27,7 % – рускую і беларускую мовы. На пытанне «Літаратуры на якой мове Вы аддаяце перавагу?», 93,7 % адказалі «На рускай» і толькі 5 % – «На беларускай мове». У параўнанні з даследаваннем 2011 года на беларускай мове сталі чытаць меней.

Культуру чытання перадусім фарміруе агульнаадукацыйная школа і гуманітарныя прадметы, і толькі затым людзі называюць уплыў бацькоў і навучанне ва ўніверсітэце.

Адказваючы на пытанне «Якіх сучасных беларускіх пісьменнікаў вы ведаеце?», большасць апытаных не змаглі назваць якія-небудзь вядомыя ім імёны. Але незадаволеных беларускай літаратурай пасля знаёмства з яе творамі выказваюць толькі 7,2 % рэспандэнтаў.

Адметна, што пры набыцці кнігі беларусы ў першую чаргу звяртаюць увагу на імя аўтара, і вядомасць пісьменніка мае большае значэнне, чым кошт кнігі. Інакш кажучы, чытачы гатовыя плаціць за брэнд.

Пераважная большасць рэспандэнтаў, 80 %, ніколі не наведвалі літаратурныя мерапрыемствы, 15 % зрэдзьчас бываюць на падобных імпрэзах. Што датычыцца гендэрнага пытання, то чытаюць больш жанчыны, чым мужчыны.

Ацэньваючы дзейнасць дзяржавы ў развіцці культуры чытання, траціна рэспандэнтаў адзначыла, што дзяржава робіць недастаткова, і ёй варта ўзмацніць сваю падтрымку.

Сярод мераў, якія можна прыняць для паляпшэння сітуацыі, на погляд апытаных, — павялічыць колькасць занятках па мове і літаратуры ў школе, зрабіць болей тэматычных праграм на тэлебачанні, пісаць пра кніжныя навінкі ў СМІ.

Як падсумавала Лідзія Міхеева, агульная цікавасць да беларускай літаратуры расце, але родная мова як мова чытання год ад года страчвае свае пазіцыі, падае фактычнае валоданне ёй.

Што датычыцца кніжнага гандлю, то, як засведчыла начальнік аддзела гандлю ААТ «Белкніга» Святлана Гук, добра прадаецца толькі вучэбна-метадычная літаратура, з мастацкімі кнігамі — тэндэнцыя супярэчлівая.

Прадстаўнікі выдавецтваў «Галіяфы», «Логвінаў», «Кнігазбор» распавялі пра незапатрабаванасць чытачамі кніг невядомых, маладых аўтараў, а таксама малы продаж паэтычных зборнікаў. Адзначылі, што галоўнай праблемай з'яўляецца пашырэнне кола чытачоў на беларускай мове.



— Кансалідацыя дзяржаўных структур, грамадскіх арганізацый, творчай інтэлігенцыі надзвычай важная, — адзначыла каардынатар кампаніі «Будзьма беларусамі!» Алена Макоўская. — Павышэнне культуры чытання, развіццё адукацыйнай сістэмы, узаемадзеянне пісьменнікаў і СМІ немагчымае без супольных высілкаў усіх зацікаўленых бакоў.

— Маючы 12-гадовы досвед працы настаўніцай беларускай мовы і літаратуры, магу адзначыць два асноўных кірунку, у якіх можна было б дзейнічаць, — распавяла Інга Пінголь, навуковы супрацоўнік Нацыянальнага інстытута адукацыі. — Найперш, і гэтым ужо займаецца Нацыянальны адукацыйны партал, — раскрутка беларускіх літаратараў, акцыі, якія б дазволілі дзецям нестандартна ўспрымаць класічную літаратуру. Другое, на што варта звярнуць увагу, гэта праблема методыкі выкладання літаратуры ў школе. Доўгія гады мы падавалі творы ў аспекце «Што хацеў сказаць аўтар», у той час, калі сёння важна рабіць акцэнт на вучні, распрацоўваць метадычныя сродкі, якія б дапамагалі зразумець мову мастацкага тэксту, раскрываць асобасныя сэнсы, выхоўваць таленавітага чытача. Гэта няпроста, бо патрэбна мяняць самога настаўніка.

Круглы стол завяршыўся абмеркаваннем прапаноў, з якімі варта звярнуцца ў Міністэрствы адукацыі, інфармацыі і культуры Рэспублікі Беларусь, каб палепшыць культуру чытання беларусаў.

Дакумент (публікуецца ніжэй) быў дапрацаваны і прадстаўлены дзеля азнаямлення чыноўнікам і грамадскасці.

**Прэсавая служба СБП**

**ВЫСНОВЫ І ПРАПАНОВЫ паводле вынікаў даследавання практыкі чытання і літаратурных зацікаўленасцяў беларусаў, праведзенага Лабараторыяй «Новак» у чэрвені 2014 года на замову ГА «Саюз беларускіх пісьменнікаў»**

***Прапануем Міністэрству адукацыі Рэспублікі Беларусь:***

- павялічыць колькасць гадзінаў выкладання беларускай літаратуры і мовы ў школе;
- перагледзець школьныя і ўніверсітэцкія праграмы па беларускай літаратуры і мове, зрабіць іх больш разнастайнымі, актуальнымі, сучаснымі і цікавымі для навучэнцаў-чытачоў у адпаведнасці з іх узростам;
- змяніць методыкі выкладання беларускай літаратуры ў школах;
- павялічыць колькасць беларускамоўных садкоў і беларускамоўных груп у садках, колькасць беларускамоўных школаў і гімназіяў;
- стварыць цалкам беларускамоўную вышэйшую навучальную ўстанову;
- забяспечыць пісьменнікам, незалежна ад іх сяброўства ў творчых арганізацыях, роўны доступ да правядзення сустрэчаў з чытачамі ў навучальных установах краіны.

***Прапануем Міністэрству інфармацыі Рэспублікі Беларусь:***

- павялічыць колькасць беларускамоўных перадач з удзелам сучасных беларускіх літаратараў на цэнтральных і рэгіянальных тэлевізійных каналах, а таксама перадач, прысвечаных кніжным навінкам;
- увесці ці аднавіць рубрыкі, прысвечаныя навінкам сучаснай беларускай літаратуры, у грамадска-палітычных газетах, на радыё і тэлебачанні, павялічыць колькасць публікацый і перадач, прысвечаных пісьменнікам;
- забяспечыць роўны доступ да сеткі кніжнага гандлю і бібліятэк для дзяржаўных і недзяржаўных выдавецтваў;
- аднавіць кніжныя аддзелы ў крамах буйных мястэчак і гарадоў;
- выйсці з хадайніцтвам да Савета міністраў РБ аб істотным памяншэнні падаткаў на выраб і продаж кніжнай прадукцыі кнігавыдацоў у Беларусі.

***Прапануем Міністэрству культуры Рэспублікі Беларусь:***

- забяспечыць пісьменнікам, незалежна ад іх сяброўства ў творчых арганізацыях, роўны доступ да правядзення сустрэчаў з чытачамі ў бібліятэках краіны;
- павялічыць колькасць нацыянальных і міжнародных у Беларусі літаратурных фестываляў;
- выйсці з хадайніцтвам да Савета міністраў РБ пра змяншэнне арэнднай платы для кнігарняў і прызнанне кнігарняў установамі культуры, а не кропкамі гандлю.

# Альманах віцебскіх літаратараў

**Пабачыў свет першы выпуск «Ратушы», падрыхтаваны Віцебскім абласным аддзяленнем ГА «Саюз беларускіх пісьменнікаў».**




Нагадаем, што кожны з беларускіх рэгіёнаў дзякуючы СБП мае сваё штогадовае літаратурна-мастацкае выданне.

«Спытаеш, чаму «Ратуша»? (Да гэтага часу на Віцебшчыне выходзіў альманах «Дзвіна»). Адказ просты. Ратуша для Віцебска — гэта сімвал волі і росквіту. Ратуша — гэта любімае месца віцябчан. Гэта іх гісторыя і сённяшні дзень», — тлумачыць укладальніца зборніка, пісьменніца, старшыня Віцебскага абласнога аддзялення СБП Анастасія Лазебная.

Жанры, прадстаўленыя ў альманаху — паэзія, проза, эсэ, творы для дзяцей, пераклады, гумарэскі, — сведчаць, наколькі актыўна развіваецца прыгожае пісьменства ў рэгіёне на сённяшні дзень.

У «Ратушу» ўвайшлі творы 37 аўтараў, беларускамоўных і расійскамоўных, якія прэзентуюць розныя пакаленні. Ад маладзейшых — напрыклад, Наталля Гапеева, Алесь Замкоўскі, да старэйшых — Давід Сімановіч, Ірына Жарнасек, Марыя Баравік, Франц Сіўко і інш.

«Цвік» нумара — кароткая проза Германа Гесэ, перакладзеная на беларускую Арцёмам Арашонкам, і нямецкая паэзія з розных эпох у перастварэнні Уладзіміра Папковіча.

# Новы англамоўны «Кніганоша»

**Чацвёрты выпуск інфармацыйнага каталога «Кніганоша» расказвае замежнай чытацкай аўдыторыі пра кнігі на беларускай мове, апублікаваныя ў айчынных прыватных выдавецтвах у 2012—2014 гадах.**

Выданне адкрываецца «10 фактамі пра беларускую гісторыю, мову і літаратуру» — каротка, але змястоўна апісваюцца: асоба Францішка Скарыны, першы Статут ВКЛ, феномен кітабаў, літара «Ў» і ўсё тое, што найбольш ярка сімвалізуе беларусаў, іх ідэнтычнасць і культуру.

У каталогу змешчаны анонсы мастацкай літаратуры (проза, паэзія, драматургія, эсэ) і нон-фікшн (дакументалістыка, гісторыя, літаратуразнаўства, фальклор і пад.). Усяго — 150 найменняў кніг.

«Кніганоша» выдаецца з ініцыятывы ГА «Саюз беларускіх пісьменнікаў» і МГА ЗБС «Бацькаўшчына».

# Шэрлак Холмс па-беларуску

**У бібліятэцы часопіса «ПрайдзіСвет» «PostScriptum» і бібліятэцы Саюза беларускіх пісьменнікаў «Кнігарня пісьменніка» выйшаў зборнік апавяданняў Артура Конана Дойла «Прыгоды Шэрлака Холмса».**




Кніга ўжо ёсць у Цэнтральнай кнігарні, «Акадэмкнізе» і «Кнігах і кніжачках», а неўзабаве з'явіцца і ў іншых кнігарнях.

У кнігу ўвайшлі пераклады, зробленыя Ганнай Янкута, Аленай Казловай, Аленай Пятровіч, Кацярынай Маціеўскай, Аляксеем Арцёмавым. Прадмову да зборніка напісала Кацярына Маціеўская. Дызайн вокладкі Марыі Мухінай.

Некаторыя апавяданні са зборніка друкаваліся ў часопісах «Дзеяслоў», «ПрайдзіСвет» і дадатку «Літаратурная Беларусь», аднак гэта першае асобнае выданне твораў пра Шэрлака Холмса па-беларуску.

Раней у бібліятэцы «PostScriptum» выходзілі зборнікі дэтэктыўнага і містычнага апавядання «Злачынствы, сэр!» і «Вусцішны пакой», зборнік выбраных твораў Эдгара По «Маска Чырвонае Смерці» і п'еса Оскара Ўайлда «Саламея».

# Школа маладога літаратара-2014/2015

**Новы навучальны год з новымі вучнямі пачаўся ў Школе маладога літаратара.**



15 лістапада ў Мінску прайшлі першыя семінары з пісьменніцай Людмілай Рублеўскай і літаратуразнаўцам Ганнай Бутырчык, гутарка са старшынём СБП Барысам Пятровічам, а таксама знаёмства з куратарамі Школы Юліяй Цімафеевай і Аленай Казловай.

Практычныя заняткі ў Школе, якая працуе ўжо трэці год пры ГА «Саюз беларускіх пісьменнікаў», таксама будзе весці пісьменніца Наталка Бабіна. У межах асобных майстар-класаў і лекцыяў навучэнцы будуць сустракацца з запрошанымі гасцямі — беларускімі і замежнымі пісьменнікамі і навукоўцамі.

«Леташняя Школа прайшла вельмі ўдала, — прызналіся куратары. — 80% тых, хто прыйшоў напачатку года, давучыліся да канца, некаторыя выпускнікі нават дасылалі паўторныя заяўкі ў Школу ў гэтым годзе, але, на жаль, зрабіць навучальную праграму на некалькі гадоў пакуль няма магчымасці. Конкурс сёлета склаў 1,75 чалавека на месца. Калі параўнаць з конкурсамі ў афіцыйныя беларускія навучальныя ўстановы, гэта добрыя паказнікі для нефармальнага адукацыйнага праекта».

У многіх навучэнцаў мінулага года ўпершыню з'явіліся газетныя і часопісныя публікацыі. У двух аўтараў — Антона Рудака і Андрэя Лазуткіна — выйшлі дэбютныя кнігі, таксама леташняя група маладых пісьменнікаў уклала агульны зборнік тэкстаў, які знаходзіцца ў працэсе падрыхтоўкі да друку.

Сёлета вучыцца пісаць прозу ў Школу маладога літаратара прыйшлі 22 чалавекі. Шасцёра з іх будуць прыязджаць на заняткі з рэгіёнаў.

На першых практычных маладым аўтарам давялося дапісваць тэкст Васіля Быкава і тлумачыць сваё разуменне сэнсу творчасці ў форме акраверша.

Прэсавая служба СБП спыталася ў маладых аўтараў пра іх уражанні ад заняткаў: «Чакала звычайных лекцый, нават канспекты падрыхтавалася запісваць. Але выдыхнула з палёгкай, калі стала ясна, што нудоцця не будзе»; «Прыемна, што можна выказацца і абмеркаваць нешта»; «Усё так па-хатняму і адначасова па-школьнаму. Толькі крыху з раскладам праблемы, але, спадзяюся, што ва ўніверсітэце на мяне не надта будуць злавацца. Я не магу вылучыць асобныя моманты з выкладчыкамі, але мне запомніліся ўсмешкі аднакласнікаў»; «Дзякуй за душэўнасць, лёгкасць, развейванне міфаў. Дзякуй за экскурс у літаратуру ўпарадкаваную (у параўнанні з маім хаосам). Уражанні ад усяго – я трапіла ў казку».

Заняткі ў Школе будуць праходзіць два разы на месяц па суботах.

# Віта Белая Крэска

**У серыі «Каляровы ровар» бібліятэкі Саюза беларускіх пісьменнікаў выйшлі дзве новыя кнігі для дзяцей.**




Яны аб'яднаныя іменем аўтаркі — шведскай мастачкі, ілюстраткі і пісьменніцы Сары Лундберг, і галоўнай гераіняй абедзьвюх гісторый, якую завуць Віта Белая Крэска. Па-беларуску гэтыя творы загучалі дзякуючы перакладчыцы Надзеі Кандрусевіч.

У кнізе «Віта Белая Крэска» Сара Лундберг выступае ў ролі пісьменніцы і мастачкі адначасова. Гэтая кніга распачала серыю пра дзяўчынку Віту, якая малюе крэскі на дарогах.

У першай гісторыі аўтарка знаёміць чытачоў з дзяўчынкай Вітай, якая дапамагае хлопчыку перайсці дарогу і малюе пешаходны пераход. Кніга афармленая ярка, незвычайна і сімвалічна.

Другое выданне «Віта Белая Крэска і Эйвінд» Сара Лундберг аздабляе яшчэ больш дэталёва. Гэта гісторыя пра тое, як у Віты з'яўляецца сябар Эйвінд, але амаль адразу ж знікае, і Віта выпраўляецца яго шукаць.

У 2013 годзе з'явілася трэцяя кніга пра Віту, «Эйвінд і край свету», якая пакуль што не перакладзеная на беларускую.

— Перакладаць серыю заўсёды цікава, бо назіраеш, як мяняюцца не толькі персанажы гісторыі, але часам і пісьменніца разам з імі, яе стыль апавядання, — прызналася перакладчыца Надзея Кандрусевіч. – Бо першая кніга пра Віту напісаная ў больш педагагічнай манеры, а ў другой і трэцяй кнізе Сара Лундберг уздымае больш філасофскія пытанні, выкарыстоўвае кантрастныя дэтальныя вобразы, як у апісанні, так і ў малюнках. Асаблівасцю кніг Сары Лундберг я б назвала тое, што тэкст і ілюстрацыі жывуць адным жыццём, яны рухаюцца разам і з'яўляюцца нібы працягам адно аднаго. І было цікава сачыць за гэтым рухам, за сугучнасцю слоў і малюнкаў і перадаваць гэта ў перакладзе.

Выданні «Віта Белая Крэска» і «Віта Белая Крэска і Эйвінд», а таксама іншыя нашыя кнігі можна знайсці ў сталічных крамах і па ўсёй Беларусі. Цікаўцеся!

**Прэсавая служба СБП**

## СНЕЖАНЬСКІЯ ЮБІЛЯРЫ

**У наступным месяцы адзначаюць юбілеі сябры Саюза беларускіх пісьменнікаў:**



Віктар Пятровіч Супрунчук (нар. 07.12.1949)
Леанід Антонавіч Муштэнка (нар. 15.12.1944)
Алег Андрэевіч Бембель (Зьніч) (нар. 16.12.1939)
Святлана Іосіфаўна Абдулаева (нар. 23.12.1964)
Ірына Іванаўна Дарафейчук (нар. 27.12.1969)

Жадаем усім радасці, натхнення і дабрабыту!

# «Вышынёю ахапіць шырыню...»

115 гадоў назад (14 кастрычніка) у вёсцы Слабада-Кучынка Слуцкага павета (цяпер Капыльскі раён Мінскай вобласці) нарадзіўся Адам Антонавіч Бабарэка (1899–1938) — беларускі празаік, крытык і літаратуразнаўца, заснавальнік і тэарэтык вядомага літаратурнага згуртавання «Узвышша».



Ён вучыўся ў Слуцкай бурсе, скончыў Мінскую духоўную семінарыю (1918), настаўнічаў на Случчыне. У час польскай акупацыі ўдзельнічаў у падпольнай барацьбе і партызанскім руху, быў арыштаваны польскімі ўладамі (1920). Пасля вызвалення зноў працаваў настаўнікам, быў членам рэўкома Пукаўскай воласці Ігуменскага павета і загадваў валасным аддзелам народнай асветы. Служыў у Чырвонай Арміі (1921—1922). У 1922—1927 гадах вучыўся на этнолага-лінгвістычным аддзяленні БДУ і працаваў у рэдакцыі газеты «Савецкая Беларусь».

Дэбютаваў у 1919 г. апавяданнем «То толькі сон...». У 1925-м выдаў кнігу «Апавяданні». Распрацоўваў метадалагічныя пытанні літаратуразнаўства і эстэтыкі, сацыяльнай і эстэтычнай каштоўнасці літаратуры, даследаваў гісторыю беларускай літаратуры (артыкулы змяшчаліся ў часопісах «Маладняк», «Узвышша», «Чырвоны сейбіт», «Радавая рунь» і інш.). Шэраг яго прац прысвечаны творчасці Я. Коласа, М. Багдановіча, У. Дубоўкі, Я. Пушчы, М. Чарота, З. Бядулі і іншых беларускіх пісьменнікаў (з якімі ён быў знаёмы і сябраваў).

А. Бабарэка стаў адным з арганізатараў літаратурных аб'яднанняў «Маладняк» (1923), пасля і «Узвышша» (1926) . У 1926—1929 працаваў у Камуністычным універсітэце Беларусі выкладчыкам беларускай мовы і літаратуры, а з 1928 — асістэнт кафедры гісторыі беларускай літаратуры БДУ.

Быў арыштаваны ДПУ БССР 25 ліпеня 1930 г. у Мінску па справе «Саюза вызвалення Беларусі». Асуджаны пазасудовым органам НКВД 10 кастрычніка 1931 г. як «член контррэвалюцыйнай арганізацыі» і за «антысавецкую агітацыю» да 5 гадоў ссылкі, год прабыў у мінскай турме, ссылку адбываў у г. Слабадскі Кіраўскай вобласці, з канца 1934 г. — у Кіраве (Вятка), працаваў бухгалтарам. Тэрмін ссылкі быў падоўжаны на 2 гады ў адміністрацыйным парадку. Паўторна арыштаваны 24 ліпеня 1937 у рамках сфабрыкаванай маштабнай акцыі па рэпрэсаванні беларусаў, сасланых АДПУ ў пачатку 1930-х. Паводле пастановы «тройкі» па Кіраўскай вобласці ад 15 лютага 1938 атрымаў 10 гадоў зняволення ў лагерах. Пакаранне адбываў у пасёлку Княж-Пагост Комі АССР у Паўночным чыгуначным лагеры НКУС, дзе 10 кастрычніка 1938 г. — перад сваім днём нараджэння — памёр у лагернай бальніцы.

Па першай справе творца рэабілітаваны судовай калегіяй па крымінальных справах Вярхоўнага суда БССР 15.11.1957, па другой — 4.7.1959 г. Кіраўскім абласным судом.

Групавая справа А. Бабарэкі і іншых № 20951-с захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

Ён спалучаў у сабе талент і крытыка, і празаіка, і філосафа. Ці не таму яго крытычныя і літаратуразнаўчыя артыкулы часта напоўнены філасофскімі разважаннямі, палемічныя працы стылізаваныя пад эпісталярны жанр, а эсэістыка — апрача ўласна тэорыі — утрымлівае і мастацкія вобразы. Напэўна, пры ўважлівым прачытанні многія тэксты Адама Бабарэкі маглі б быць «расцягнутыя» на цытаты, многія з якіх прыйшліся б даспадобы «інтэлектуалам са стажам», але некаторыя — і чытачам папулярных зборнікаў кшталту «Пярліны думкі».

Прапанаваныя «Літаратурнай Беларусі» афарызмы і мініяцюры не спатрэбілася нават «вырываць з кантэксту»: Адам Бабарэка так і пісаў іх у розныя гады — у выглядзе асобных кароткіх занатовак. Яны захаваліся ў запісных кніжках, сшытках і проста на аркушах паперы — разам з іншымі рукапісамі, што склалі асабісты фонд пісьменніка ў Беларускім дзяржаўным архіве-музеі літаратуры і мастацтва. Вось яны, самыя кароткія творы Адама Бабарэкі. Адчуйма моц думкі славутага ўзвышэнца!

Адам БАБАРЭКА

Ёсьць розныя мовы. Палітыка — гэта мова людзей моцных, адважнікаў.

Скажы, якія ведаеш ты дзеясловы, і я табе скажу, што значыць жыць.

З некаторага часу заўважаю, што куды-б я не пайшоў, адкуль-бы не пачаў, заўсёды прыходжу да свайго «я» і ў яго ўпіраюся, як у нешта няяснае і для самога сябе не сказанае або не пазнанае, а такое, што непадуладна сьвядомасьці.

Магчыма, мае вандраваньні па філёз[офіі] і маст[ацтве] — гэта шуканьне свайго «я». Як чытаеш, адчуваеш, што нешта шукаеш, як-бы што згублена і не знаходзіцца. Бывае, прачытаеш кнігу і застанешся незадаволены: нічога не знайшоў. Чаго-ж шукаеш?

От быццам нешта неспакойнае зьмясьцілася ў душы і гоніць яе на шуканьне, пануджае аблётаць усе сьветы людзкай мысьлі, глядзець іх і ахапіць адзіным паглядам, каб от усе набыткі чалавечае мысьлі зьмясьціць у адзіным узроку.

Гэта імкненьне падобна палёту пілёта, які набірае вышыню. Але чым большая вышыня, тым шырэйшы кругагляд адкрываецца ўзроку. Вышынёю ахапіць шырыню.

Мала паставіць пытаньне, важна яшчэ й тое, як гэта пытаньне ставіцца.

Слова — гэта радыёапарат. Маеш яго (слухаеш або гаворыш у яго) — можаш злавіць усю разнастайнасьць думак, якія носяцца ў паветры.

Люблю я ўсё, што сьвет ня любіць.

Што важней: «я» асобнае жывое ці «мы» адцятае, якое патрабуе ахвяры для сябе гэтага «я»?

«Я» і «мы» — вечныя ворагі.

Праўды няма, ісьціны няма як нечага абсалютнага.

Няма большай пакуты, як абярнуцца ў чужую волю...

О, жанчына — гэта бязданьне: яна можа цэлыя суткі, дні, месяцы і гадкі выкідваць і выкідваць з сябе стромы слоў...

Што рабіў-бы ты, чалавек, калі-б ты апынуўся ў бязьмежных прасторах, аб якіх ты любіш марыць? Ці не спужаўся-б ты іх бязьмежнасьці?

Асноўн[ы] харак[тар] Беларусі — у тым, што яна вузел усходу і захаду, поўдня і поўначы, цэнтр Эўропы, узвышша, з якога расходзяцца рэкі ва ўсе бокі (крыніца). Кругом узвышша, а ў сярэдзіне балота, гэта гэтак высмакталі праеждыя рэчкі, акавіта выцякла рэчкамі ў моры чалавецтва ў выгл[ядзе] чуж[ых] культур. Цяпер балота, а было возера.

Калі літ[аратурна]-маст[ацкі] твор ёсьць выражэньне ўспрыняцьця (у ш[ырокім] сэнсе) характава (адм[оўнага] ці станоўч[ага]) жыцьця, то крытыка ёсьць выраж[эньне] успр[ыняцьця] характава літ[аратурных] твораў.

У чалавеку ёсьць па крышцы ад усяго: і ад вала, і ад сабакі, і ад зьвера, і ад мошкі-казяўкі.

Сьвет — задача, якую чалавек разьвязвае сваёю дзейнасьцю, практыкаю свайго гістарычнага жыцьця. Практыкай дзейнасьці і мысьлі чалавека ёсьць адказ на пытаньне, што такое сьвет.

...Я пішу пра сябе. Як ні дзіўна, у век будаўніцтва соцыялізму, у век, калі менш за ўсё гаворацьпра сябе, я пішу пра сябе. Ні пра герояў, ні пра масу і масы, а пра самога сябе пішу я...

Бываюць хвіліны, калі здаецца, што няма прад табою таямніц на сьвеце. Усё бачыш наскрозь, бо ўсё нібы празрыстае. Здаецца, усё вырашыў, і такім прыгожым тады ўяўляецца жыцьцё, што вось узяў-бы ды абняў яго — упаў-бы перад ім ніц і маліўся-б...

Талент — гэта вялікі фарматар. Ён фармуе тое, што бродзіць вакол яго. Ён дае яму форму. Здолее даць такую форму выражэньня, якая зьявіць сабою ўсё нявыражанае вялікага ліку людзей, — ён Талент. Здолее чалавек скарыстаць гэтую форму ў сваіх патрэбах — ён прыбаўляе да славы таленту.

Поэт — гэта своеасаблівы орган свайго часу.

Эпоха наша — гэта эпоха пераход[у] у царства розуму, у царства арыстакратыі розуму, якому падначалена будзе воля і якім рэгулявацца, кір[авацца] будуць пачуцьці.

У кожнай кроплі, у кожнай крошцы цэлы сьвет, трэба толькі бачыць, трэба толькі яго ўчуць.

Чалавек чалавеку — рэч.

М[астацтва] = утварэньне мастоў (праз прадоньне між адчуваньнямі, людзкімі настроямі для іх лучэньня).

Чалавек — асоба — гэта зарад энэргіі.

«Наша доля павінна быць з намі» (Уладзімір Дубоўка). Ня доля гаспадар чалавека, а чалавек гаспадар долі свае. Калі ня маеш долі — зрабі яе і ўладай над ёю.

У нас ёсьць яшчэ дрэнныя рэчы: доля, лёс, шчасьце. Не гавары: такая мая доля — а рабі такую долю, якую ты хочаш, каб меў твой народ.

Ёсьць людзі, якія кажуць, што мастацтва — гэта нешта сярэдняе між сэльтэрскай вадою і ліманадам, а ёсьць, што лічаць яго сярэднім між півам і гарэлкай. Калі гэта мастацтва — дык гэта найвялікшае зло. Яно ня нішчыць смагі, яе ўталяючы.

М[астацкі] твор пры пэўных умовах павінен рабіць пэўнае ўражаньне.

Твор як слоўнае ўтварэньне можна разглядаць безадносна да таго прадмету, аб якім гаворыць твор або аб якім выклікае ў нас прадстаў[леньне]. Яго можна ўспрымаць як самастойнае тварэньне, з сваімі законамі цэльнасьці і адзінства.

Лепш памерці для таго, каб ускрэснуць, чым жыць для таго, каб памерці.

Як воля, чалавек бесьсьмяротны.

Адзяваньне, будаваньне сабе жылля — натуральныя зьявы, што робіць чалавек. Аджа ў прыродзе бачым прыклады, як гэтак-ж[а] робяць і іншыя жывыя істоты. Розьніца тая, што ў прыродзе гэтыя зьявы, т[ак] ск[азаць], у сабе, у чалавека-ж яны для сябе. Мастацтва чалавека пачынаецца з таго моманта, калі ў гэтыя працэсы пачынае ўмешвацца яго сьвядомасьць.

Карціну сьвету ўзьвядзе пажылы ўзрост.

Мысьль можна разглядаць як орган пазнаньня сьвету. А калі мысьль ёсьць орган пазнаньня сьвету, то ёю, як зрокам, мы можам прымаць пэўныя зьявы, якіх ня здольны прыняць іншыя органы.

Працягні ў мысьлях сваё мінулае ў глыб вякоў — і ты пазнаеш, якія шляхі прайшоў ужо чалавечы род. Ты будзеш успамінаць, усё роўна што гэта ты ішоў.

Перажываючы сябе на іншым, перажывай і іншае на сабе. Перажываючы сябе ў людзях і на людзях, перажывай і людзей у сабе і на сабе.

Што для нас выг[наньне] і ўзд[альле], то для інш[ых] радз[іма] і бліз[ь].

Паэзія — дачка адзіноцтва.

Кожнай справе ўласьцівы свой рытм. І трэба папасьці, трэба ўвесьці сябе ў гэты рытм, настроіць сябе на яго лад, каб справа ўдалася.

У цішы чуеш сябе, як напятую струну. Чуеш, як ударае па ёй кожны вонкавы гук і як яна аддаецца на гук сваім гукам.

Перавесьці ўзрок з сябе на зьне-сябе, на людзей, іх думы, іх перажываньні, іх дзеі... Пазнаць гэтае зьне-сябе — гэта значыць абагаціць сябе.

Уладаць словам — гэта ўладаць людзьмі. У кожнага чалавека ёсьць слова, якое мае над ім уладу.

**1924–1934**

**Захаваны правапіс арыгінала. Уступнае слова і публікацыя Віктара Жыбуля**

# Беларуская мова: пытанні да сябе і сусвету



Ганна СЕВЯРЫНЕЦ

...Мне сем гадкоў.

Я — чытач.

Чытала я, колькі сябе памятаю, — маці з бацькам філолагі, раскошы ў хаце няма, але ж кніжак!

Вершы мне не падабаліся: навошта гэтыя ненатуральныя словы, зацятыя ў цесныя чатырохкутныя клеткі і надрукаваныя пасярод пустой старонкі, ды яшчэ і без малюнкаў? Мама час ад часу падсоўвала Пушкіна. Гэта было невыносна. Нудота.

Часам са стосаў ля сцяны вымаліся і беларускія кніжкі — але ж адразу адкладваліся. Нейкія кропачкі й хвосцікі па-над радкамі — не разумею.

Памятаю, як першы раз пачула беларускае слова. Гэта быў урок беларускай мовы. Званок. Настаўніца ўваходзіць. Клас стаіць, як заўсёды на пачатку ўрока. Настаўніца — такая зразумелая і знаёмая ад прычоскі да банціка на туфлях — раптам ківае галавой і кажа: «Сядайце!»

І гэта так незвычайна і смешна, што мы пачынаем рагатаць.

Так рагочам мы ўсю першую чвэрць. «Сядайце!» — «Га-га-га-га!» І потым чытаем па складах дзіўныя, незразумелыя словы пра незразумелых людзей, пра нейкіх чарнавусых мужыкоў і галодных дзяцей, якія сёрбаюць зацірку. Мне шкада, што сярод гэтых засмучаных і квёлых герояў няма Шчукара — той быў значна весялейшы...

Літаратура пачынаецца з рускай. Доўгі час падаецца, што ўсе на свеце пісалі па-руску, і калі раптам прыходзіць усведамленне, што, напрыклад, «Карлсан» насамрэч напісаны па-шведску, а «Шчаўкунок» — па-нямецку, некалькі дзён сусвет навокал выглядае вынічаваным.

Па-беларуску чытаю, але — без ахвоты. Чамусьці ўсе беларускія кніжкі, якія выцягваюцца з бацькоўскіх стосаў ці бяруцца ў школьнай бібліятэцы, — гэта сумныя апавяданні з аднолькавымі, каліўца ў каліўца, героямі: сялянскімі дзецьмі ў чунях, сівымі дзядамі ў кашулях, суворымі партызанамі, якія чамусьці кідаюць сваіх дзяцей на пагібель, з рушнікамі і гладышамі. Сярод гэтага састарэлага побыту і чужых дэкарацый час ад часу ўзнікае нешта незвычайнае, цудоўнае, як «Палескія рабінзоны» Янкі Маўра, узнікае, — і тоне ў віры жабрацкіх вёсак і ваеннага ліхалецця.

А потым здараецца Караткевіч, «Каласы пад сярпом тваім». Задалі прачытаць, але ж пайшла пагалоска: кніжка здараванная. Э-э-э, думаю, зноўку нешта сельскагаспадарчае, беллітнае, невясёлае. Але ж трэба — значыцца, трэба. З другой старонкі здаравеннай кніжкі я забываюся пра час і прастору. Чытаю ўдзень, чытаю ўвечар, чытаю ўночы, чытаю на ўроках і нават на хаду, калі вяртаюся па вывучанай напамяць за сем гадоў дарожцы са школы. Я — з імі.

Я — герой.

Я не заўважаю мовы. Кропкі па-над радкамі дапамагаюць вачам не саскокваць з думак, бо саскочыць хочацца — далей, далей, ну, што там, як яны, ці перамогуць? Хвосцікі над У чапляюцца за самае сэрца, і я ведаю, што з аднаго боку на гэтым гапліку я, а з другога — Загорскі, і нас не расчапіць нікому і ніколі. З гэтае пары ўсе хлопцы мераюцца Алесем Загорскім. Выпрабаванне праходзяць не ўсе. А калі па праўдзе — то ніхто. Але ж я ўжо настрылася жыць у кніжках, і таму мне не сумна. Алесь існуе. І нідзе больш — ні ў воднай іншай кніжцы, ні ў воднай кампаніі паза кніжкаю — такога няма.

З гэтага часу я пачынаю раз-пораз пераглядаць тую паліцу ў навенькай секцыі, дзе бацькі паставілі беларускія кніжкі. Увесь Караткевіч. Брыль. Быкаў. Адамовіч. Мележ. Маўр... Чамусьці ўяўляць сябе на месцы заказанай у Васіля Ганны значна прасцей, чым зразумець адносіны Анегіна і Тацццяны, хаця Таццяніна дзяцінства («она влюблялася в обманы и Ричардсона, и Руссо») мне больш зразумелае, чым дзяцінства «здаецца, учора яшчэ — гарэзы, падлетка». Я прымяраю на сябе шынялі Рыбака і Сотнікава, і, па-дзявочы супраціўляючыся суворому рэалізму Быкава, перапісваю ў галаве гісторыю Джуліі.

Але сапраўднае адчуванне вайны прыходзіць не з Быкавым. З Быкавым — адчуванне чалавека. А вайны — крыху пазней. Абрыньваецца, як снег: холадам, непазбежнасцю, злосцю і той мужнасцю, якая толькі завецца гераізмам, а насамрэч ёсць мужчынскай работай. Гэта — Панчанка. Першы верш, які нібыта ламае косці.

*Злосна сказаў: «Уставай,*
*пяхота!*
*Мы не на пляжы, а на вайне».*
*І лёг на зміяныя скруткі дроту.*
*І дзвесце салдацкіх запыленных*
*ботаў*
*Прайшлі па яго спіне.*

З таго часу пра вайну і пра чалавека больш зразумела — па-беларуску. Падаецца: рускія кніжкі — пра вайну наогул, і пра чалавека — наогул. Там я — усё яшчэ чытач, зачараваны і пакорны, а тут — герой, менавіта пра якога як раз і напісана.

Аднойчы бацькі бяруць з сабой на канцэрт. Віцебскі тэатр. Народу — процьма. Усюды — бел-чырвона-белыя сцягі. Выглядае гераічна. Першы раз бачу гэты сцяг, першы раз чую, каб па-беларуску размаўлялі так, што не хочацца рагатаць, як тады, на ўроках. Беларуская мова з кніжнае мовы раптам становіцца мовай гутаркі. Дзіўна... І праз некалькі тыдняў здараецца галоўнае.

На беларускай паліцы адшукваецца Багдановіч. Не той, хрэстаматыйны, з засмучанымі ткаллямі і абавязковым «радзімым васільком» (падавалася, вось яны даткуць — і пойдуць сёрбаць зацірку), а — мой, родны, чаканы, у якога закахацца — імгненна і назаўсёды.

З Багдановіча я пачынаю збіраць сваю беларускую палічку. Ротапрынт «Вянка», трохтомнік з прозай і крытыкай, біяграфія, успаміны... Лёгкай, шпаркай хадою ўваходжу ў Багдановічава жыццё: як жывога, бачу жвавага, неабыякавага Адама Рыгоравіча, прыгажуню Марыю Афанасьеўну, Максіма — спачатку мамчын сынок, апасля — бацькаў сябра... Высачэзны, чорнавалосы, шырокаплечы — як было не закахацца паэзіі ў такога паэта?

На адной са старонак нечакана адшукваецца знаёмае:

*Мне доўгае расстанне з Вамі*
*Чарней ад Вашых чорных кос.*
*Чаму ж нядобры час прынёс*
*Мне доўгае расстанне з Вамі?*
*Я паблядню ад горкіх слёз*
*І трылет пачаў славамі:*
*Мне доўгае расстанне з Вамі*
*Чарней ад Вашых чорных кос.*

Успамінаецца: калі я прамаўляла на бацькоўскай кухні палымяныя словы супраць паэзіі, якая нібыта забівае жывую чалавечую гаворку, бацька, усміхаючыся, чытаў пра чорныя косы і запытваў: «А? Ну як? А гэта ж клетка самая цесная — не проста вершык, а трыялет! Але ж — жывое слова? Жывое?» Скарацца не хацелася, але адчувалася: сапраўды — жывое.

А потым настае філфак.

Мой філалагічны факультэт кожнай лекцыяй сыходзіў у легенды і міфы. Нам чыталі Алег Лойка і Ірына Скарапанава, нам пяяла старажытную рускую літаратуру Антаніна Шалемава і раскрываў сакрэты стараславянскай мовы Якаў Трэмбабольскі. На лекцыі Барыса Нормана мы ішлі пешшу праз увесь горад, калі раніца раптам заставала бесклапотных студэнтаў не дома і без грошай на праезд...

Разам з літаратурай пачынае прыходзіць і мова.

Не проста словы, вымаўленыя з цвёрдым «ч» ці мяккім «ц», не проста сказы, пабудаваныя «не па-руску», не проста «трус» замест «кроліка» і «вёска» замест «дзярэўні». Мова — як назапашаны тваімі продкамі скарб ведаў аб жыцці. Мова — як стос пытанняў да сябе і да сусвету. Мова — як сістэма сігналаў і рэакцый на знешнія абставіны.

Калі мы жывем на небагатай зямлі побач з небяспечнымі суседзямі, калі нашыя алесі загорскія знішчаны, а нашыя васілі зацюканыя, калі я — такая ж, як яны, бо жыву там жа і гэтак жа, дзе захавалася іхняя памяць пра тое, як трэба жыць? Незвычайны чалавек пакідае па сабе літаратуру і навукова-тэхнічны прагрэс, а што пакідае чалавек звычайны? Ён пакідае мову. Так атрымалася, што часцей мы размаўляем на мове іншага народа. Народа з іншым характарам, іншай гісторыяй, іншымі ментальнымі ўстаноўкамі. Ці не таму мы не можам знайсці свайго месца ў свеце?

Немагчыма быць героем у кніжцы, якая напісана не пра цябе. Толькі — персанажам, і ў лепшым выпадку — персанажам другога плана. Мабыць, таму не бачна нашых рускамоўных пісьменнікаў на літаратурных небасхілах рускай літаратуры — раз-пораз мільгане, зазіхаціць — і да часу згасае.

Зразумела, пісаць я пачынала па-руску, але гэта было відавочна не тое. Літары складаліся ў словы, але ж на гэтым — усё. Ступар. Думкі са словаў не складваліся. Спрабавала і прозу, і вершы, і эсэ, ды нічога не атрымлівалася. Але ж аднойчы — трэба было занатаваць бабуліны расповеды пра продкаў — і я раптам вырашыла: а што, калі паспрабаваць па-беларуску?

Усведамленне прыйшло з першых радкоў.

Я — аўтар.

Мая беларуская мова паводзіць сабе інакш за рускую. На ёй чамусьці немагчымы пафас і мараль. Наадварот: кожную хвіліну так і цягне пасмяяцца, пажартаваць ці падкалоць хоць каго, а няхай бы і сябе, гэткую аўтаршу. Радкі атрымліваюцца шчыльнымі, насычанымі, словам цесна, думкам прасторна, усё як мае быць.

Падавалася: я — усемагутная! Мне падпарадкоўваюцца словы! Мне далі мову!

Было б наіўным думаць, што беларуская літаратура вычэрпваецца «беллітам», але я — была ў час, так лічыла. Але калі ты становішся аўтарам, то вымушаны звяртацца да калегаў. Гэта складана і не заўсёды прыемна: на кожнай старонцы цябе, такога малайца, чакае чарговы «удар со стороны классика»: аказваецца, усё тваё ўжо сказалі, і сказалі лепш за цябе. Тая «белліт», якую ты спадзяваўся ашчаслівіць сваім з'яўленнем, зусім не жабрачка з заціркаю, і зусім не мужык-беларус, чорны сам, белы вус, у ёй гаспадарыць. Адпраўляюся ў «Логвінаў», прагна кідаюся да паліц.

Я — чытач.

У нас ёсць Барадулін, паэт, якога нават няма з кім параўнаць (дурная звычка школьнага літаратуразнаўства, маўляў, Купала — наш Шаўчэнка, Мележ — наш Шолахаў, Колас — наш Пушкін, «Новая зямля» — наш «Анегін»). У нас ёсць Федарэнка, празаік, якім немагчыма начытацца. У нас ёсць Вінцэсь Мудроў, у якога немагчыма не вучыцца. Ёсць Алена Масла і Раіса Баравікова для дзяцей, ёсць Людміла Рублеўская і Валер Гапееў для падлеткаў, і не толькі для дзяцей, і не толькі для падлеткаў, але ж к барані, Божа, ад пералікаў, каго-небудзь абавязкова пакрыўдзіш, пералічваючы, лепей так: для кожнага беларуса ёсць нешта самае-самае сваё ў беларускай літаратуры — а колькі яшчэ будзе, пішацца ў гэты самы час! Мы — аўтары, і мы выконваем свой абавязак перад сусветам: выдыхаем, выпяваем, выціскваем з сябе мелодыі, у якія ператвараецца подых вышэйшых сілаў, якія пануюць над усім навокал. Хто больш таленавіты — пяе магутна, як валторна ці саксафон, хто паменей — выводзіць сваю сарамлівую мелодыю жалейкай, але ж нельга не спяваць — навошта ж тады нам была дадзена мова?

Недзе тут трэба было б паставіць кропку — але гэта немагчыма. Ці можа быць кропка ў гісторыі пра тое, як да чалавека прыходзіць родная мова і як ён ідзе да яе? Так, нашай мове дадзена вялікае шчасце: да яе трэба ісці, праз цяжкасці і складанасці, праз раманы з іншымі мовамі, праз дзяржаўную забарону і ўласную ляноту, да яе трэба ісці, як ідзе да сваёй веры апантаны вернік; яе трэба здабываць, як здабывае доўгачаканае золата аляскінскі авантурыст.

Наша мова — не для кожнага матчыная, падараваная разам з жыццём, яна бывае і бацькавай, бывае ўзнагародай за паразуменне.

Менавіта таму кропку ставіць не буду.

Бо ўжо не на ростанях.

Хутчэй — на паўдарозе.

А, як вядома, дарогу адужае той, хто ідзе.




**Нашай мове дадзена вялікае шчасце: да яе трэба ісці, праз цяжкасці і складанасці, праз дзяржаўную забарону і ўласную ляноту, да яе трэба ісці, як ідзе да сваёй веры апантаны вернік**

# Адным вузлом



Анатоль ВЯРЦІНСКІ

## Ранішняя Туга

*Прыснілася нешта такое*
*у перадсвітальнай цішы,*
*што абудзіўся з тугою,*
*з вялікай тугой на душы.*
*Па чым так душа затужыла? —*
*падумалася мне, —*
*якая туга ўзварушыла,*
*запаланіла яе?*
*Можа, туга па нечым,*
*што было ды сышло?*
*Можа, туга па сустрэчы,*
*якая не збудзецца ўжо?*
*Можа, туга па блізкіх,*
*якіх няма ў жывых?*
*Па іх галасах і абліччах?*
*Так не хапае іх!*
*Туга па маладосці,*
*па незабыўнай вясне?*
*Туга па прыгажосці,*
*па незвычайнай красе?..*
*Пытаўся — не чуў адказу,*
*што за туга надышла?*
*Адно адчуваў выразна:*
*тужыла па нечым душа.*

## Пра саміх сябе

***Памяці Анатоля Сыса***

*І боль, і жаль,*
*і радасць, і журба,*
*і крыўда, і трывога, і надзея,*
*і дабрыня, і позірк спадылба…*
*Так, знаю гэта ўсё і па сабе я.*
*Так усё гэта носім мы ў сабе.*
*Дзе менавіта — не адкажаш пэўна.*
*У галаве сваёй, сваім ілбе?*
*Ці мо ў грудзях, у глыбіні душэўнай?*
*Там носім мы усё сваё з сабой,*
*свой панядзелак і сваю нядзелю,*
*свае турботу, і адчай, і боль,*
*свае любоў, і веру, і надзею.*
*Самі сабе — рабы і ўладары,*
*самі персона грата і нон грата,*
*самі ў сабе мы носім, як дары,*
*і ворага свайго, і свайго брата.*
*Каго вініць?*
*Віноўных тут няма.*
*Не будзем наракаць*
*на Лёс, на Бога.*
*Сказаў асветнік мудры нездарма:*
*«Пазнай найперш сябе самога»…*

## Зноў пра нашу мову

***Толькі ўжо ў форме пытанняў***

*Хваласпевы ёй прысвячаем,*
*хвалім, красу яе адзначаем,*
*тое, як гучыць выдатна.*
*Часам хвалім аж занадта,*
*нібы тавар у дзень базарны:*
*мае, маўляў, выгляд таварны,*
*набывайце, маўляў, спажывайце,*
*карыстайцеся, ужывайце…*
*Яна ацэнак высокіх вартая,*
*напраўду прыдатная, багатая.*
*Ды толькі адно хваліць яе мала*
*для таго, каб жыла, існавала.*
*Для гэтага, для яе ратавання*
*патрэбна яшчэ, каб гучала пытанне…*
*«Калі яна матчына,*
*то чаму амаль страчана?*
*Калі яна родная,*
*то чаму гаротная?*
*Калі мілагучная,*
*то чаму невязучая?*
*Калі непаўторная,*
*то чаму пакорная?*
*Калі і цудоўная, і чароўная,*
*то чаму між роўных няроўная?*
*То чаму непаўнапраўная,*
*не адзіная дзяржаўная?..*
*Будуць адказы — не будзе страчана,*
*не знікне, не згіне мова матчына,*
*мова бацькоўская, слова роднае —*
*мілагучнае, гожае, годнае.*

## Моўная мадэрнізацыя

*Новы час — новы сказ,*
*неалагізмы, «новояз»…*
*Замест «цудоўна» —*
*«класна», «клас»,*
*замест «выдатна», «хораша», «слаўна» —*
*тут як тут «крута», «файна».*
*А яшчэ «супер», а яшчэ «клёва».*
*Іншы час — іншае слова?*
*«Файна», «супер», клёва», «крута»…*
*Што тут прагрэс, а што атрута?*
*Тут рух наперад, альбо ступар?*
*«Крута»,*
*«клёва»,*
*«файна»,*
*«супер»…*

## Адным вузлом

*Ну так, напэўна —*
*адным вузлом*
*звязаны моцна дабро са злом.*
*«Мёртвым», «марскім», ці нейк другім,*
*ды вельмі тугім.*
*Звязаны ім дабро са злом,*
*бяссонне са сном, змрок са святлом…*
*Пытанне з пытанняў. Задача з задач.*
*Не вырашаюцца, хоць ты плач.*
*Той вузел развязваць ці з-за пляча*
*секчы пры дапамозе мяча?*

## Па вядомай прычыне

*Кляліся аддана служыць Айчыне.*
*Не служым. Чаму? Па вядомай прычыне.*
*Казалі пра вернасць любай жанчыне,*
*пра справу, якая да твару мужчыне.*
*Выходзіць інакш. Па вядомай прычыне.*
*Дык па якой? Каму вядомай?*
*Вядомай, пэўна, не мне аднаму?*
*Каму? Удакладняць не буду.*
*Свету ўсяму, усяму люду?*
*Не скажаш-адкажаш тут чын па чыне.*
*Адкрыта. Чаму? Па вядомай прычыне…*

## Смяемся?

*Разбіраю, разглядаю здымкі.*
*І ў нейкі момант зазначаю, —*
*нечакана для сябе самога, —*
*што амаль большасць фатаграфій,*
*няглядзячы на тую асаблівасць,*
*што зроблены ў розныя гады,*
*з рознай нагоды і рознымі фотаапаратамі, —*
*маюць адну і тую ж адметнасць:*
*амаль усе знятыя… смяюцца.*
*Як правіла, амаль усе.*
*Незалежна аж характару, ад знешнасці,*
*ад таго, наколькі фотагенічны*
*той альбо іншы з нас.*
*Вось якая яна вялікая,*
*магічная ўлада фотааб'ектыву!*
*Смяемся ўсе і на гэты раз.*
*Смяецца ў тым ліку*
*і аўтар гэтых радкоў.*
*Маю на ўвазе фотаздымак,*
*зроблены даўным-даўно ў двары*
*колішняга будынка Саюза пісьменнікаў,*
*што знаходзіўся на рагу вуліц*
*Карла Маркса і Фрыдрыха Энгельса.*
*(Вунь на якім «рагу», на якім месцы!).*
*На здымку — кіраўнікі Саюза*
*і літаратурныя кансультанты:*
*Максім Танк, Іван Шамякін,*
*Мікола Ткачоў, Іван Грамовіч,*
*Мікола Гамолка і я таксама,*
*яшчэ маладыя паэт ды ўжо і дарадца*
*для тых, хто бярэцца пісаць*
*гэтыя самыя вершы.*
*І ўсе смяемся. Помніцца, што*
*не абыйшлося без жарту Максіма Танка…*
*Няма будынка, ля якога*
*фатаграфаваліся («увекавечваліся»).*
*Ён быў знесены неўзабаве*
*дзеля пашырэння ЦК КПБ.*
*Няма і таго ЦК, як вядома.*
*Анахранізмам гучаць*
*і назвы тых вуліц*
*(праўда, чамусьці яшчэ ўсё гучаць).*
*Ды самае сумнае: апроч мяне аднаго,*
*няма ўжо ў жывых,*
*тых, хто так весела*
*смяецца на фотаздымку.*
*Пайшлі ці то ў лепшы свет,*
*пайшлі ці то ў вечную вечнасць,*
*ды факт, што няма ў жывых,*
*іх, старэйшых сяброў па пяру,*
*настаўнікаў добрых маіх.*
*Ледзь не праз слёзы*
*доўга гляджу на здымак.*
*Веселуны, аднак, мы, жыццялюбы.*
*Жыццё і смех, і тут жа — смех і смерць.*
*Разглядаю здымкі,*
*зробленыя на Уздзеншчыне.*
*Адзін з іх прысвечаны юбілею*
*Кандрата Крапівы. Таго самага*
*жартаўніка і востраслова,*
*які выдаў кнігу «Смех і гнеў»*
*і напісаў «Хто смяецца апошнім?»*
*(Хто ўсё-ткі смяецца апошнім, га?)*
*Другое фота ўзнікла ў вёсцы Нізок.*
*Ну так, у той самай вёсцы,*
*што давала не толькі пуцёўку ў жыццё,*
*але і пуцёўку ў літаратуру*
*Паўлюку Трусу, Атраховічу (Крапіве),*
*Лідзіі Арабей і камусьці яшчэ, здаецца.*
*Здымаемся, зноў-такі, на памяць*
*каля хаткі, дзе нарадзіўся і рос*
*аўтар «Дзясятага падмурку».*
*Сярод нас і адзіная яго сястра.*
*Згадвае дзяцінства, спамінае брата…*
*Нядаўна дазнаўся: не стала яе,*
*пайшла да свайго любімага брата,*
*памёр што так рана, так заўчасна.*
*Памірае і вёсачка Нізок.*
*Зусім пустуе тая хаціна,*
*у якой нарадзілася Арабей.*
*Ды тут вось, на фота, —*
*здымаліся ў сонечны, травеньскі дзень, —*
*смяемся весела ўсе мы,*
*смяецца і Лідзія Львоўна.*
*Яшчэ і не думаючы, пэўна,*
*якімі нялёгкімі будуць потым*
*гэтыя самыя «Пошукі ісціны»*
*(так называецца яе новая кніга),*
*як будзе няпроста пісаць праўдзіва,*
*называць рэчы іх імёнамі.*
*Смяецца Лідзія Арабей.*
*Ды гэта на тым, на даўнім здымку…*

*А вось і яшчэ адно адметнае фота.*
*Зробленае ў другой ужо вёсцы*
*з паэтычнаю назваю Глыбачка, —*
*роднай вёсцы Сяргея Законнікава.*
*Некалькі нас, удзельнікаў Дзён*
*беларускай мовы і літаратуры,*
*што адбываюцца на Ушаччыне,*
*завітваем начале з Сяргеем*
*у госці да яго бацькоў.*
*Разам з імі зняліся на ганку,*
*на яго высокіх прыступках.*
*Вядома ж, з жартамі і смехам.*
*Ну так, смяемся ўсе на здымку.*
*І як было не смяяцца, калі*
*нас так цёпла сустракалі*
*вясковыя мілыя настаўнікі —*
*Валянціна Фёдараўна, настаўніца*
*малодшых класаў,*
*і Іван Васільевіч, і выкладчык,*
*і дырэктар школы.*
*Як мы маглі не смяяцца, калі*
*жартаваў дасціпна Законнікаў-старэйшы,*
*дабрадушна пасмейваўся з нас,*
*калегаў-сяброў яго любімага сына.*
*Памерлі Сяргеевы бацькі.*
*Спачатку маці, потым бацька.*
*Сіратліва, сумотна шумяць на падворку*
*дбайна пасаджаныя бацькам і сынам*
*дубкі, каштаны і вербы.*
*Прыходзіць на падмогу памяць —*
*наш верны саратнік у змаганні*
*з незаменнымі, непапраўнымі стратамі,*
*з неймавернымі, непазбежнымі смерцямі.*
*Яна вось і тут, на гэтым здымку:*
*сын побач з маці і бацькам*
*на ганку радзімай хаты,*
*смяюцца шчасліва разам…*
*Здымак за здымкам, картка да карткі…*
*Зробленыя дома і за мяжой.*
*Фатографамі сваімі і чужымі.*
*Да прыкладу гэты, надзвычай каштоўны,*
*з наступным надпісам на адвароце:*
*«Балгарыя, Сафія, на гары Віташы.*
*Злева направа — Андрэй Германаў,*
*Анатоль Вярцінскі, Ніл Гілевіч,*
*Васіль Зуёнак і перакладчык».*
*Андрэй Германаў, — хто не знае, —*
*адзін з найлепшых балгарскіх паэтаў,*
*улюбёны ў наш край і яго паэтычнае слова,*
*асабісты сябра нас, названых вышэй, —*
*праявіў быў такую ініцыятыву,*
*калі мы ў Балгарыі гасцявалі,*
*рашыў, што нам трэба абавязкова*
*узняцца ўсім на гару Віташу,*
*каб мы маглі ўбачыць панараму —*
*від з вышыні яго стольнай Сафіі.*
*Гэтак і выйшла. Пра што сведчыць здымак.*
*Глядзім мы з гары на Сафію,*
*глядзім на яе з захапленнем,*
*з усмешкамі на тварах.*
*Адно толькі крыўдна да болю,*
*адно засмучвае толькі,*
*што пра Андрэя, пра Германава*
*гаварыць даводзіцца сёння*
*ужо ў мінулым часе.*
*Царства яму нябеснае.*

*Яшчэ адзін фотаздымак,*
*які не магу не захоўваць,*
*не разглядаць час ад часу…*
*На ім — Чыгрынаў, Макаль і Вярцінскі*
*са сваімі жонкамі і дзецьмі*
*знятыя разам, адной кампаніяй,*
*са сваімі ўкраінскімі калегамі*
*Мусіенкам і Бурлаковым,*
*Асадчуком і Герасіенкам*
*(яны з сямейнікамі таксама).*
*Мы тут, моў, не толькі сябры па справе,*
*але і яшчэ сябруем сем'ямі.*
*На фота адбілася выразна:*
*усе ўсміхаемся, усе смяемся,*
*усе, беларусы і ўкраінцы,*
*усе, дарослыя і дзеці.*
*Спрыяе надвор'е, спрыяе ўзмор'е,*
*спрыяюць рэліктавыя сосны…*
*Месца дзеяння — так званы Дом творчасці*
*з абхазскаю назваю «Піцунда».*
*Усё гэта так. Ды вось гляджу на здымак*
*і сам сабе хмурна зазначаю:*
*няма Макаля, няма Чыгрынава*
*(пайшлі на той, на вечны бераг);*
*змяніліся да горшага, пэўна,*
*Піцунда — пасёлак і дом «Піцунда»,*
*бо стала расійскаю Абхазія;*
*і, пэўна, не пішуць па-ранейшаму,*
*з ранейшым настроем, ранейшым уздымам*
*мае ўкраінскія калегі.*
*А можа, зусім пісаць не ў стане.*
*Не да таго… «Старэйшы брацёнік»*
*ашчэрыўся на неньку-Украіну,*
*хоча паставіць яе на калені…*
*Вось тут і засмейся бестурботна,*
*гледзячы на фотаздымак,*
*дзе ўсе весела смяюцца.*

*Фотаагляд свой кантрапунктны*
*(калі яго назваць так можна)*
*я ў іншым крыху завяршу памеры*
*і здымкам, які зроблены нядаўна*
*і на якім адсутнічаю я*
*з калегамі сваімі. Ды затое*
*адлюстраваныя на гэтым фота*
*малодшы мой унук Янка Яцкевіч*
*са сваім класам 9 «Б»*
*гімназіі, што «сёмаю» завецца.*
*З нагоды выпуску зняліся.*
*Прыбраныя адменна ўсе.*
*І ўсе смяюцца. Дружна, як адзін.*
*Смяюцца разам са сваёю класнай,*
*з Алёнаю Міхайлаўнай сваёй.*
*Смяюцца аднадушна і шчасліва…*
*Трымаю на паліцы кніжнай шафы*
*я гэты здымак. І не-не*
*ды падыду і разглядаю.*
*Звяртаю ўвагу, што ўнук, —*
*ён першы справа ў ніжнім радзе, —*
*якраз з той часткі класа, што*
*смяецца надзвычай эмацыйна.*
*Трывожна ўвогуле за лёс дзяцей,*
*для гэтага падставаў больш, чым трэба.*
*Ды бачу клас, што весела смяецца,*
*гляджу на ўнука і міжволі*
*сам усміхаюся… Смяемся?*

# Стэфан



Валерый КАЗАКОЎ

**Калі што і ёсць на гэтым свеце нязручнае, дык гэта каралеўскі ложак у Гарадзенскім замку.**

Яшчэ задоўга да сваёй хваросці ён не раз сам асабіста аглядаў ложышча, скідваючы на падлогу традыцыйныя пярыны, коўдры з лебядзінага пуху, нейкія льняныя, аздобленыя мясцовымі вышыўкамі-абярэгамі посцілкі, вузельчыкі з сушанай араматычнай травой і каранямі, дакопваўся да пацямнелых ад часу дошак, абмацваў іх, дзівіўся прахалоднай роўнасці і адсутнасці расколін. Нават падчас самага прыдзірлівага агляду ніякіх няроўнасцяў знайсці ён не змог, але — пярун яе лясні! — штосьці ж не дае толкам расправіць стомленае ад старых ранаў цела! Здаецца, зручна ўляжашся, а хвілінаў праз дваццаць пачынаеш варочацца, і так амаль усю ноч, пад раніцу ледзь забудзешся мройным сном — і пара ўжо, ужо грукочуць тазамі і гарлачамі, ужо цырульнікі раскладваюць свае прылады. Не любіў ён гэты ранішні народ, ды што рабіць — і без яго не абыдзешся. У кожнага на гэтай зямлі сваё наканаванне: каму бароды галіць, каму дзяржавай кіраваць, праўда, невядома, які з гэтых заняткаў важнейшы.

Каралю і вялікаму князю з кожным днём станавілася ўсё горш і горш. Дробязная, здавалася б, драпіна наназе ніяк не жадала гаіцца. За апошні тыдзень невялікая дзірачка, з якой ён без асаблівай цяжкасці выцягнуў той зламысны сучок, ператварылася ў гнілую і смярдзючую калатушу.

«Нага, нага, ліха на яе, гэтую нагу! — Баторый паспрабаваў абаперціся на край ложка і павярнуцца на бок. З трэцяй спробы яму тое ўдалося, і, прапускаючы скрозь сціснутыя зубы стогн палёгкі, ён выцягнуў знявечаную нагу. — Вой, і дрэнь справа. Што ж гэта ты да мяне прывязалася, як валашская жабрачка? І так я цябе на сабе цягаю ўжо амаль гадоў трыццаць, а ты ўсё не адчэпішся: то зацягнешся тоненька сінюткай плеўкай ды прыціхнеш, нібы чакаючы чагосьці, а то вось праб'ешся, сцякаючы гноем, склікаючы да сябе мух з усёй акругі. Як жа гэта я той сук не ўбачыў?!» — Зірнуўшы на набрынялыя лапікі тонкай матэрыі, ён паціху застагнаў і спалохаўся гэтага стогну, — такім ён здаўся бездапаможным, бясколерным, амаль пазбаўленым жыцця. Да яго вялікай цёмнай птушкай кінулася задрамалая неўдалёк на драўлянай лаве жанчына.

— Што, што, мой кароль? — схіліўшыся над хворым, вымавіла яна па-польску і, раптам нібы схамянуўшыся, хутка паўтарыла сваё пытанне на латыні. Баторый пры ўсіх яго стараннях так і не вывучыў, як ён казаў, «змяінай мовы» абарыгенаў, таму ўвесь двор яго старанна зубрыў латынь.

Стэфан цяжка падняў як налітую свінцом руку, і жанчына падхапіла, прыціснулася вуснамі да запясця. «Якія ў яе халодныя вусны, як у нябожчыцы, — праплыла павольна думка. — Яна добрая, і лепш, чым з ёй, мне ніколі не было ды, напэўна, ужо й не будзе. Трэба зваць лекараў. Дзіўна, але гэтыя чортавы грамацеі прыходзяць па адным і кожны раіць свае зёлкі. Здаецца, што адзін лечыць мяне ад лячэння другога. Папраўлюся — выганю абодвух».

— Каханы, не вер гэтым разбойнікам, — быццам адгадваючы яго думкі, прамовіла жанчына. — Яны цябе труцяць. Я вось прынесла адвар нашай травы, ён дапаможа: і жар зніме, і боль суніме. Гэтыя зёлкі сама збірала і сушыла, толькі старая Рухля варыць дапамагала. Выпі, любы, а потым я сама табе рану прамыю і перавяжу.

Стэфан прыўзняўся і паслухмяна выпіў зелле, яно было горкім.

— Фу, агідна, але з тваіх рук я і атруту прыму. Дык ты думаеш, я яшчэ ўстану? — сіплым голасам спытаў гаспадар і паспрабаваў усміхнуцца.

— Устанеш, мой кароль, на радасць люду паспалітаму і на зло ворагам. Як табе не ўстаць? Бог міласцівы і не дасць нам асірацець. Я, калі сюды ішла, забегла на стайню, з канькамі тваімі пагаварыла, сказала, што паправішся ты хутка. Мне здаецца, яны ўзрадаваліся.

— Ох, глядзі, даведаецца інквізіцыя, што ты не толькі мне зелле носіш, але яшчэ і з конямі размаўляеш, — бяды не абярэшся. Ведаеш, а мне і сапраўды лягчэй стала, у сон пацягнула. Засну я, ты толькі не сыходзь... — рука вялікага князя пацяжэла, і ён супакойна засапеў.

Адэля з асцярогай азірнулася. Акрамя іх у спачывальні нікога не было. Спрытна схавала пустую шклянку ў патайную кішэню, дастала іншую, выцягнула зубамі корак і асцярожна ссунула коўдру з хворай нагі. Стужкі перавязкі насыціліся гноем і бурай сукравіцай, закарэлі і ўжо кепска пахлі. Тонкім вострым кортам, які вісеў у яе на поясе, жанчына разрэзала павязку і пачала асцярожна змочваць рану вадкасцю з бутэлькі. У пакоі рэзка запахла настоенай на траве самагонкай. Хворы нягучна застагнаў. Адэля заціхла, гледзячы на змардаваны хваробай і бессанню твар.

Упершыню яна ўбачыла яго два гады назад, кароль прыехаў да ейнага бацькі ў Сакулкі на паляванне. У хаце пачаўся перапалох, дзіва што: да малазаможнага ляснічага едзе сам круль польскі і вялікі князь літоўскі. Яе і трох кузін, якія ўвесь час жылі ў іх хаце, адправілі ад граху далей на хутар. Было ёй тады амаль шаснаццаць гадоў, яна нароўні з братамі ліха скакала на кані, умела чытаць лясныя сляды, нядрэнна паліла з стрэльбы-ручніцы і пістоляў ды і звера магла зацкаваць. Да яе просьбаў «хоць вокам зірнуць на караля» бацька застаўся глухі: маўляў, няма чаго тут пад нагамі блытацца, ды і не гожа маладой дзяўчыне сярод разагрэтых паляваннем вяльможаў разгульваць. Так у глухамань і адправіў.

І трэба ж было здарыцца, што менавіта ў тую глухамань і вывеў алень караля. Звер, адбіваючыся ад сабак, паскакаў далей, а вершнік спешыўся і папрасіў вады. Адэля і падала яму коўш. Вочы іх сустрэліся, і штосьці светлае адбылося ў іх сэрцах; яны, праўда, пра тое ніколі і не казалі.

Потым ён стаў наязджаць у іх хату амаль кожны тыдзень, адзін, без світы, з чацвёркай сваіх вугорцаў. Дзесьці месяцы праз два, бліжэй да снегу, усё ў іх і адбылося, хораша і проста. Спачатку бацька даведаўся, а потым ужо і ўсе. Пачаліся плёткі, бацька і браты нават пра замужжа пагаворваць паміж сабой пачалі. Яна ніколі не хацела быць каралевай, яна проста кахала гэтага чалавека, часам, калі ён засынаў, гладзіла яго шнары і паціху спявала старыя мясцовыя песні. Яна ведала і любіла мову мясцовых людзей, можа, таму, што яе маці была напалову беларускай, ёй нават здавалася, што і Сцяпану, так яго звалі мясцовыя, яе песні падабаюцца больш, чым лацінскія псалмы. Ён часта з'язджаў ваяваць, і яна не знаходзіла сабе месца, ускоквала па начах і да болю ў вачах узіралася ў аконную цемрадзь. Потым былі салодкія і радасныя хвіліны сустрэчы. Ён навазіў ёй цэлае падклецце падарункаў, але яна да іх была абыякавай, ёй патрэбен быў толькі гэты зранены і ўжо састарэлы мужчына. «Гэта твой крыж», — увесь час паўтарала ёй Рухля, варожачы ці дапамагаючы гатаваць адвары.

Стэфан гучна ўздыхнуў і ўсміхнуўся ў сне. Адэлі здалося, што над Горадняй узышло яркае сонца. Размочаныя анучыны адсталі ад глыбокай раны, з якой выцякла цэлая лужынка ліпкага гною. Прамыўшы, дзяўчына акуратна ўбінтавала нагу.

Кароль праспаў да самай раніцы, побач перад світанкам прыкархнула і каханка...

Памёр кароль толькі праз паўтара месяцы ў тым жа Гарадзенскім замку і ў тым жа нязручным ложку, вакол якога стаяла дворня і нягучна маліліся манахі.

— Паклічце да мяне Адэлю, — ледзь чутна прашапталі ўжо сінеючыя вусны.

— Мы ўжо паслалі па яе, — адказаў камандзір вугорцаў, — хутка будзе.

— Запомні і перадай усім маю волю, ты мяне чуеш?

— Чую, мой кароль!

— Пахаваеце мяне тут, у Горадні, я даваў загад езуітам падрыхтаваць мне склеп. Чуеш мяне, чуеш?.. Дзе Адэля?

— Хутка будзе, гаспадар.

— Не дачакаюся я яе, відаць, ужо не дачакаюся. Падыдзі бліжэй, — ён, не паднімаючы рукі, паклікаў пальцам чалавека, з якім столькі праскакаў і праваяваў, што і ўзгадаць цяжка. — У Адэлі будзе дзіця... — ледзь шапталі патрэсканыя вусны. — Маё дзіця. Прыгледзь за ім і дапамажы ёй. Чуеш, чуеш мяне?

— Я ўсё выканаю, толькі і ты сам усё гэта зможаш зрабіць, рана табе, кароль, паміраць. — Не паспеў адданы Ішвант падняцца з каленяў, як яго гаспадар аддаў Богу душу.

Першым тое заўважыў лекар Сімоніус, ён дакрануўся да таго месца на шыі, дзе заўсёды б'ецца жылка жыцця.

— Кароль памёр! — незвычайна гучна прамовіў ён, паспешна прымаючы руку.

Страшная вестка спыніла Адэлю недалёка ад гарадскіх сценаў. Яна ехала ў калясцы: конна скакаць было ўжо небяспечна для дзіцяці. Вугорцы, якія суправаджалі яе, прышпорылі коней і паляцелі ў горад.

Яна не плакала, стаяла і тужліва глядзела на высокія вежы замка, у якім ёй больш не было чаго рабіць. Яна ведала, насуперак сваёй маладосці, кніжнай грамаце, хлусні летапісцаў і прыдворных гісторыкаў, што ўсё: і гэты замак, і каралеўства, і гэтыя людзі-мурашы — усё знікне, разбурыцца. Застанецца толькі яе сын, дакладней, іх сын, падобны на бацьку і аблiччам, і сваімі справамі.

Неўзабаве каляска растала ў вячэрнім марыве адыходзячага на захад дня...

— Гэта ты караля замарыў да смерці, — надрыўна і ледзь не выючы крычаў цыбаты мужчына з казлінай бародкай. — Ты, ты! Табе адказваць, табе! Гэта ён, спадар Ішвант, даваў яму беладону...

— Беладону! Ха-ха, карэньчыкі! А іртуць, іртуць хто каралю ўціраў? А кроў бясконца хто пускаў? Ты, Бучэла, душагуб, ты! — імкнуўся перакрычаць суразмоўцу лекар Сімоніус, дужы манах сярэдніх гадоў, які першым абвясціў пра скон вялікага вайскаводцы.

— Мне гэта надакучыла! — гучна ляснуў па стале бізуном каралеўскі ахоўнік. — За ноч не разберацеся — павешу раніцай абодвух. Вунь нябожчык, — вугорац паказаў на каменны стол у куце казамата, — глядзіце на яго і вырашайце, чыя віна ў ягонай смерці.

За шырокай спіной неўзабаве глуха бразнулі дзверы. Адданы Ішвант і ў страшным сне не мог уявіць, што з яго гаспадаром за ноч утвораць гэтыя два лекары, апантаныя прафесійным гонарам і прасякнутыя страхам шыбеніцы. У глыбокім склепе замкавай капліцы, у цьмяным святле смаляных паходняў упершыню ў цывілізаваным свеце было апрабавана ўскрыццё трупа, так бы мовіць, у навуковых мэтах, дзеля ўдакладнення дыягназу, пацверджання правільнасці лячэння і зняцця з медыцыны абвінавачванняў. Прычыну смерці сюзерэна гора-паталагаанатамы вызначыць не змаглі, але і віны свайго лячэння ў тым не адшукалі. Ішвант не стрымаў свайго слова, не павесіў іх: ён засек абодвух тут, у склепе.

Караля пахавалі ў Горадні. Але сталічны Кракаў не ўтаймаваўся і запатрабаваў саноўныя парэшткі ў непрыступны Вавель, дзе былі пахаваныя добрыя і не вельмі добрыя ўладальнікі кароны Рэчы Паспалітай. З небывалымі ўшанаваннямі, сцягамі і трубамі перавозілі труну да новага месца спачыну; ззаду заставалася вызваленая ім ад непрыяцеля зямля, гарады з даравалымі ім гербамі і магдэбургіяй.

Прапаўзла пярэстай змяёй жалобная працэсія Сакулкі, і ніхто не звярнуў увагі на самотную постаць апранутай у чорнае жанчыны, якая моцна прыціскала да грудзей немаўля.



## Сяргей УКРАІНКА



* * *

*Вечар.*
*Вы кажаце, сóнцам захад заліты?*
*Вы ўсё яшчэ верыце,*
*што гэты гуд шматгалосы — вецер?!.*

*Вечар.*
*Анёлы паляць*
*нашы пустыя малітвы.*

* * *

*Ён дом змураваў*
*з трохсот кубаметраў цэглы.*
*А саджанцы, некалі ім утыркнутыя,*
*ідуць у людзей ужо і на брусы, і на дошкі.*
*Сыны-мацакі (ад дзвюх жонак)*
*у міністэрстве ўнутраных спраў*
*палкоўнікаў «нагінаюць».*
*...Дзіўна,*
*але на яго хаўтурах*
*ні ў кога не прабліснула чамусьці*
*нават скупое слязіны.*

* * *

*Я паказаў малюнак земснараду (здуру):*
*там белы карабель змагаўся з бурай,*
*там сёмы вал змываў за борт людзей,*
*там з мачтаў адляталі ў свет*
*шматкі надзей.*
*Палюбаваўся ён маім малюнкам грубым*
*і ціха папрасіў: «Павесь на рубку –*
*я буду марыць пра чужы прастор».*
*...Заглохнуў назаўжды яшчэ адзін матор.*

* * *

*...То быў час, калі дзецюкам*
*маглося яшчэ разгінаць падковы,*
*калі з-за чмялінага гуду*
*і гáласу салаўёў*
*няможна было разабраць,*
*пра што спявае Ратару,*
*калі ўсе сустрэтыя зайцы*
*мяне частавалі хлебам*
*і я ледзь даносіў з лесу*
*мяхі духмяных скарынак,*
*калі была поўня паўнейшая,*
*вада вадзянейшая,*
*гліна глінейшая...*

*Пэўна ж, так буду хлусіць унуку,*
*калі ён папросіць:*
*«Дзед, раскажы мне пра час,*
*як ты быў маладым»...*

* * *

*Нарэшце затахкаў «матор».*
*Рэаніматар «прыкурвальнікі» апусціў,*
*прамовіў: «Жыць будзеш, старпёр.*
*Бач ты, намерыўся лёгка адсюль сыйсці».*

*А дзядзька, як толькі ажыў,*
*размацюкаўся і быццам асатанеў.*
*Крычаў на сястрычку: «Скажы,*
*ну нахера той прыдурак вярнуў мяне?!»*

*Прасіўся: «Пусціце назад —*
*мне там анёлак давёў, што я — чалавек.*
*А тут хто б такое сказаў,*
*бо нават цар — і той без цара ў галаве?*

*На волю! Да чыстых зор!*
*Дó мне ўжо скваркамі набіваць валляк!..»*
*І зноў гэты дзядзька памёр,*
*толькі ўжо сціснуўшы ў дулю кулак.*

* * *

*Яны штосуботу збіраюцца ў гэтай*
*альтанцы:*
*кандыдат не патрэбных дзяржаве навук,*
*ананімная алкагаліца*
*і член Саюза пісьменнікаў краіны*
*(які свята верыць, што ён — паэт).*
*Пад кубак гарбаты з кітайскага тэрмаса*
*і крыльца грыль-птушкі*
*яны да паўночы гамоняць пра тое,*
*што ведаюць лепей за ўсіх —*
*пра самоту.*

* * *

*Задоўжыўся год. Дачакацца б налецця*
*і разам з вясной абнавіцца дазвання,*
*пусціць па Дняпры ўсё жыццёвае смецце,*
*пакінуўшы толькі любоў ды каханне.*

*Любоў — да зямлі, дзе ляжыць пупавіна,*
*дзе шчыра вітаецца кожны сустрэчны.*
*Каханне — да сціплай чарнявай жанчыны,*
*з якой мяне доля звязала навечна.*

### Меліярацыйны вершык

*Некалі тут патаналі танкі,*
*а пазней гублялі тракі бульдозеры.*
*Цяпер — толькі пугамі ляскаюць ранкі*
*ды целяпаюцца гусі-падранкі*
*ў чароце копанкі-возера.*

*«Мы ўжо жывем не заможна — багата, –*
*смяецца ў вусы рудабеліцкі Несцерка. –*
*Палессе асушана ўплоць да квадрату,*
*і душы асушаны ў электарату...*
*Няма як і граблі прыбраць з кабінецікаў».*

### Безнадзейнасць

*...Як толькі ўладар чужынскі*
*забраў сабе нашы абшары,*
*то першай ягонай дзеяй*
*стаўся вось гэты ўказ:*
*«Панішчыць усіх безнадзейных,*
*што ненавідзяць паэзію.*
*А тым, хто паэзіяй трызніць, —*
*выразаць языкі».*

*...Цяпер па бязлюднай краіне*
*блукае тузін бязмоўных.*
*І сярод тых калекаў*
*самы маўклівы — я.*

* * *

*Наракай цяпер хоць да знямогі*
*на бясконца насмешлівы лёс...*
*Мне быў кінуўся хохлік пад ногі*
*у той год, як я стол перарос.*

*Прастарэкваць, зрэшты, не буду,*
*раскажу, як яно і было:*
*цэлы месяц хлапчыну ад пуду*
*ратавала намарна сяло.*

*Не Васіль-эскулап, вечна п'яны,*
*і не бацюшка Маркіян —*
*крываносая Дзяна (Дзіяна)*
*адваўхвіла. І я акрыяў.*

*«Хохлікі-хохлі, каб вы кожны дзень*
*па адным дохлі»...*
*Рэшту даўняй наіўнай замовы*
*я пранёс цераз безліч падзей*
*і не ведаў пра сэнс яе новы:*
*шэпчуць людзі яе — ад людзей.*

*Зноў ад жаху руда ў жылах стыне*
*(цётка Дзяна, ты мне там прабач),*
*калі чую, як з д'яблавай скрыні*
*замаўляе ватоўнік-мурлач:*
*«Хóхли, хóхли, чтоб вы*
*каждый день...»*

## Алесь ПЛОТКА



### свабода

*свабода...*
*7 літар, якія*
*як ода,*
*яны маняць нас*

*баладай,*
*яскравай багіняй,*
*якая*
*выплясвае вальс*

*жанчынай*
*прыгожай жанчынай*
*Венерай,*
*якой сніцца Марс*

*і одум*
*маўкліва знясіліць –*
*яна ёсць*
*у кожнага з нас!*

*і потым*
*мы станем цнатлівей*
*можа быць,*
*зменіцца час*

*і подых, –*
*ці стаў ты шчаслівы?*
*таксама*
*пацішыцца ўраз*

*...свабода...*
*сем літар, якія,*
*якія*
*ёсць у кожнага з нас....*

### X.Y.Z.

*на мяжы генерацыі Ігрэк*
*я гляджу ў пакаленне Ікс*
*і адзін толькі бачыцца вынік*
*ўсё фігня: што місіс, што міс...*

*ўсё фігня: што містэр, што хлопчык*
*ўсіх раўняюць труна і вакзал*
*ты не тое заўжды, што ты хочаш*
*толькі тое, чым у выніку стаў*

*за падзякамі маеш пагрозы*
*а каму і старт-апам карніз*
*у жыцці нашым мацерна-розным*
*толькі лічбы пад фота на біс*

### Цытаты нашага цягніка

*«доўгай*
*дарогай*
*дадому...»*
*так,*
*радок гэты*
*быў недзе.*
*тлумачаць*
*сябры*
*знаёмым,*
*куды ён*
*няспынна*
*едзе.*

*так,*
*колаў грукат —*
*банальна,*
*не болей,*
*аднак,*
*чым сэрца,*
*«простыя*
*рэчы» —*
*рэальна,*
*бо простаму*
*не здаецца.*

*побач*
*у купэ*
*вагонаў –*
*паэты*
*другіх*
*калібраў*
*укупе*
*сябе*
*бароняць,*
*завесіўшы*
*вокны*
*верлібрам.*

*ад свету,*
*Свету*
*і Светы —*
*жонкі,*
*што гне*
*натацыі.*
*цытатамі*
*рву*
*санеты,*
*«сын*
*памылковай*
*нацыі»*

### 072* Брату

*молты і блэнды,*
*гранты і брэнды,*
*і кожны таксіст — як Харон.*
*баксы і цэнты,*
*раёны і цэнтры,*
*жыццё гэта тое, што не ў аблом.*

*можна хадзіць па спіралі,*
*можна быць Буддай вакзальным,*
*можна забыцца на адрас,*
*галоўнае — помніць, дзе дом.*

*ты мусіш сказаць, і я мушу,*
*што адкаркаваныя душы*
*мы і лічылі жыццём.*

*проста павер таму, хто прыйдзе сёння*
*з вінои.*



## Тамара Аўсяннікава

* * *

*Абмежаваны ад нараджэння да смерці.*
*Не дай, Божа, ад абмежаванняў памерці.*
*Абмежаваны дзяржавай, законамі,*
*Навучальнымі ўстановамі.*
*Абмежаваны ўмовамі бытавымі,*
*Праблемамі радавымі.*
*Абмежаваны хамствам і пыхаю,*
*Каб яны так дыхалі.*
*Абмежаваны скрыўленай свядомасцю,*
*Местачковай вядомасцю.*
*Абмежаваны лесвічнымі праёмамі,*
*Сябрамі, знаёмымі.*
*Абмежаваны сайтамі, сектамі,*
*Лекамі, бездухоўнымі калекамі.*
*Абмежаваны кватэрамі, межамі,*
*Гастралёрамі заезджымі.*
*Абмежаваны яснавідцамі, гадалкамі,*
*Абавязкамі, як удаўкамі.*
*Абмежаваны станам здароўя,*
*Абмежаваны зменай надвор'я.*
*Абмежаваны чуткамі, плёткамі,*
*Суседкамі-цёткамі.*
*Абмежаваны прымхамі, прасторамі*
*І дзяржаўнаю моваю.*
*Абмежаваны людзьмі хіжымі,*
*Каб усе яны выжылі,*
*А жыццё не здалося малінаю.*

*Толькі Бог не пакінуў бы.*

# Лавіна



Фелікс ШКІРМАНКОЎ

Усярэдзіне верасня вечарам у палатках гаварылі пра хуткае вяртанне дамоў. Усе работы выкананы, былі цікавыя знаходкі, а гэта значыць, што праца праведзена не пустая. Але нечакана з экспедыцыі прынялі радыёграму з вынікамі спектральных аналізаў проб, якія паказалі высокае ўтрыманне золата і срэбра. Начальніку партыі прапаноўвалася арганізаваць атрад для праходкі канаў з адборам проб на ўчастку рудапраяўлення.

Што і казаць, такія выдатныя вынікі — мара кожнага геолага. Дзясяткі пошукавых партый гадамі літаральна прачэсваюць тысячы квадратных кіламетраў у перспектыўных раёнах з адзінай надзеяй — знайсці хаця б маленькую зачэпку, каб можна было запраектаваць правядзенне разведачных работ. Тут жа, як кажуць, на спадачку з блакітнай аблямоўкай усе прыкметы, што трэба шукаць радовішча.

Але, нягледзячы на гэта, ахвотнікаў застацца на зімоўку не было — стаміліся людзі за сезон напружанай працы, таму вырашылі: няхай халасцякі цягнуць запалкі.

Апошнюю з трох абгарэлых запалак выцягнуў старшы тэхнік-геолаг Сяргей Ягораў. Моўчкі пакруціў драўлянае няшчасце між пальцамі і пстрычкай кінуў праз плячо. Сеў на нары, узяў гітару і самотна заспяваў:

*Ваше благородие, госпожа удача.*
*Для кого ты добрая,*
*а ко мне иначе…*

Рашуча прыцісну струны далонню, сказаў, звяртаючыся да сябе:

— Трымайся, Сярога, яшчэ не вечар. Зусім не выключаецца, што тут «на обломках рудных свалов напишут наши имена». А потым на плошчы маладога горада паставяць помнік тым, хто застаецца са мной. Не чую радасных воплескаў. Што здарылася? Мікрафон не працуе?

Усе засмяяліся, і знікла напружанасць.

А на наступны дзень пачалі ставіць на тэрасе пад схілам сопкі барак для зімоўшчыкаў. Праз два тыдні на трактарных санях прывезлі інструмент, рыштунак, узрыўчатку, зімовую вопратку, — усё тое, што неабходна для праходкі разведачных канаў у зімовы час. Прыехалі яшчэ два вопытныя праходчыкі і падрыўнік.

На наступны дзень разведчыкі прыступілі да працы. За месяц шэсць пар ног пратапталі ад барака на сопку, дзе праходзіліся канавы, добрую сцяжыну.

Непрыкметна надышла зіма. Геолагаразведчыкі — народ цёрты. Яны ў тайзе што рыба ў вадзе. Па тлуме гарадскім не сумавалі. У вольны ад работы час майстравалі пасткі на гарнастая, падшывалі валёнкі, палявалі на курапатак, якіх у той год было шмат. Адным словам — з кута ў кут не торкаліся. Вечарамі ўключалі радыёпрыймач на хвалю «Маяка» і забівалі ў даміно нязменнага «марскога казла на інтарэс». Хто прайграваў, потым ішоў рэзаць і секчы дровы ці качагарыць жалезную печку, падтрымліваць цяпло.

Што-што, а цяпло народ таёжны паважае. Дый тое сказаць: увесь час на марозе. І так хораша, калі ад печкі гарачы дух ідзе і можна хадзіць па бараку ў адной нацельнай кашулі!

Два разы на месяц — першы і чацвёрты аўторак — з экспедыцыі прыходзіў артылерыйскі цягач. Прывозілі свежы хлеб, пошту. Вывозілі на аналіз пробы з разведачных канаў.

У канцы лютага раптам рэзка пацяплела. Снег на схілах сопак пачаў асядаць. Але хвалю цёплага паветра зноў змяніў холад, прыціснулі маразы — і ўтварылася ледзяная скарынка — наст. А неўзабаве пайшоў снег. Ён ішоў бесперапынна цэлы тыдзень. Па некалькі разоў на дзень чысцілі праход да дроў. На работу, канечне, не хадзілі — не прайсці. Ды і рабіць там у такі снегапад няма чаго…

Сяргей прачнуўся ад цяжару, што наваліўся на яго. Паспрабаваў скінуць з сябе невядомы цяжар, але не змог. Адчуў холад. З намаганнем выцягнуў з-пад коўдры правую руку. Далонь утыркнулася ў снег. Мільганула думка: «Дах праваліўся!» Пачуў нечы стогн і канчаткова прачнуўся. Паспрабаваў сесці — і балюча стукнуўся галавой аб бервяно. Пачаў вобмацкам

> **Няхай не праз пяць, а праз сем, праз дзесяць дзён прыйдзе дапамога. Іх знойдуць і адкапаюць. Але як дажыць да таго? Калі не засталося ніводнай, хаця б маленькай шчыліны на паверхню, хутка наступіць канец ад удушша**

шукаць выйсце, але рукі ўсюды натыкаліся на шчыльны снег. Пасля неаднаразовых спробаў усё ж здолеў, скурчыўшыся, сесці. Крыкнуў у цемру:

— Нікога не прыціснула?

Данеслася прыглушанае:

— Памажыце!

Голас ішоў з кутка, дзе спаў падрыўнік Віктар Літоўчанка.

Узрадаваўся жывому голасу, спытаў:

— Гэта ты, Віктар? Што з табой?

— Ногі прыціснула бервяном, не магу выцягнуць. І снег усюды…

— Пацярпі крыху. Паспрабую дапамагчы.

У поўнай цемры пачаў рукамі рабіць праход, але снег быў настолькі шчыльным, што заломваліся пазногці. Успомніў, што, распранаючыся на ноч, паклаў штаны на цурбан побач з нарамі, а там на рэмені паляўнічы нож у ножнах.

Працягнуў руку, але яна ўтыркнулася ў снег. Пачаў абмацваць кругом сябе, ды пальцы нязменна адчувалі холад спрасаванага снегу. «Гэта канец!» Зрабілася страшна. Уткнуўся лбом у снег, паўтараючы ў думках: «Спакойна, спакойна…» Хутчэй ад холаду, чым ад гэтага заклінання, супакоіўся і пачаў паслядоўна абмацваць усё навокал сябе.

…Прайшла гадзіна ці дзве, пакуль нарэшце ўдалося выцягнуць са снежнага цэменту востры зломак дошкі. Але калі ў руцэ апынуўся гэты прымітыўны інструмент, стала весялей.

Урэшце атрымалася расчысціць снег вакол сябе і нармальна сесці. Закрыў спіну коўдрай і пачаў расчышчаць кут, дзе павінны былі ляжаць штаны, а значыць і нож.

Цяпер ён лічыў удары, якія наносіў кавалкам дошкі — адзін, два, тры… дзесяць… дваццаць пяць — можна адпачыць. Адпачываў пару хвілін і зноў лічыў удары. Нечакана рука праваліліся ў пустэчу. Намацаў там нешта з тканіны. «Штаны!» — узрадаваўся Сяргей.

З нажом справа пайшла спарней. Перагаворваючыся з Віктарам, працягваў расчышчаць лаз у бок да яго, адграбаючы снег у пустэчу, з якой выцягнуў штаны.

У чарговы раз, адграбаючы сколаты снег, намацаў свечку. Знаходка вельмі ўзрадавала Сяргея, і ён спытаў:

— Віктар, у цябе запалкі ёсць?

— Ёсць! — глуха пачулася ў адказ.

— Я свечку знайшоў. Дабяруся да цябе — будзем са святлом. Слухай, запалі адну. Можа, дзе якая шчыліна ёсць.

Ён угледзаўся, але нічога не ўбачыў.

— Ты запальваў?

— Запальваў.

— Добра. Больш не трэба. Беражы запалкі. Яшчэ спатрэбяцца.

Больш за ўсё Сяргей баяўся, што надыдзе момант, калі сілы пакінуць яго, ён засне і… не прачнецца. Не было магчымасці нават прыблізна вызначыць, колькі прайшло часу з моманту, калі здарылася бяда, — пяць, дзесяць гадзін ці суткі. Невядома і рэальная пагроза небяспекі. У тым, што, акрамя іх дваіх, усе астатнія загінулі, не было сумнення, бо ніхто болей не падаваў голасу. Спакой змяняўся раптоўнай хваляй страху, амаль адчаем безнадзейнасці свайго становішча. Як геолаг, ён добра ведаў, што такое лавіна. А ў тым, што сыйшла лавіна і накрыла іх, — не сумняваўся. Такой шчыльнасці снег бывае толькі ў лавіне. Магчыма, іх накрыла слоем у некалькі метраў, і барак (ці тое, што ад яго засталося) адсунула ўбок і на паверхні ад яго ніякага следу.

Іх будуць шукаць — у гэтым Сяргей не сумняваўся. Яны не выйшлі на сувязь. І ў экспедыцыі зробяць захады, каб даведацца прычыну. Учора быў чацвер. Цягач будзе ў аўторак — на пятыя суткі…

І ўсё ж не ў гэтым была галоўная небяспека. Няхай не праз пяць, а праз сем, праз дзесяць дзён прыйдзе дапамога. Іх знойдуць і адкапаюць. Але як дажыць да таго? Калі не засталося ніводнай, хаця б маленькай шчыліны на паверхню, хутка наступіць канец ад удушша.

У чарговы раз, адпачываючы, Сяргей вырашыў змерацць адлегласць, на якую ён прасунуўся наперад. Так можна вызначыць, колькі засталося да месца, дзе ляжыць Літоўчанка.

Выявілася, што ён прасунуўся прыблізна на палову адлегласці.

— Віктар, запалі запалку.

У першае імгненне Сяргей падумаў, што гэта яму толькі прымроілася. Спытаў:

— Ты запальваў?

— Запальваў. Толькі што дагарэла.

— Запалі яшчэ адну. Толькі калі яна не апошняя.

— Амаль поўны карабок яшчэ.

Цяпер Сяргей быў упэўнены, што злева ўверсе бачыць слабенькае святло.

— Віктар, бачу святло. Болей не палі. Хутка дабяруся да цябе. Як ногі? Варушы імі, абавязкова варушы. Зразумеў?

— Крыху магу варушыць. Калі б было куды адсунуцца, магчыма, сам вылез бы. Спінай у снег упіраюся.

— Трымайся, Віктар! Засталося няшмат, зусім няшмат. Ты толькі не спі. Зразумеў мяне — не спі!

Сяргей адчуваў: калі не будзе размаўляць, дык засне сам. І таму болей дзеля сябе пачаў бесперапынна гаварыць.

— Спаць нельга — гэта я па сабе ведаю. У сорак трэцім, у лютым, акружылі немцы нас, чатырох… Ты слухаеш? Ты слухай, слухай… Хутка ўжо. Пратрымаліся мы да ночы. А як сцямнела, з-пад носа ў фрыцаў зніклі. Параніла мяне тады ў нагу, крыві страціў шмат. Думаў — усё… Ты не спіш, Віктар? Не спі! Вось тады я замярзаць пачаў. У сон мяне пацягнула жах як. Дзякаваць сябруку, Пашку Мазуронку, — валачэ ён мяне па снезе і ўсё размаўляе са мной напаўголаса. Пытае хоць што, абы я адказваў. У цябе коўдра ёсць? Чуеш, Віктар, коўдра ёсць?

— Ёсць коўдра.

— Гэта добра. Значыць, будзе дзве. Дзве коўдры лепей, чым адна… Ты не спі. Каб не Пашка — хана мне б. Гэта як піць даць… Калі ўдвох, дык з самім нячысцікам паспрачацца можна… Хутка ўжо. Зусім мала засталося. Вось дабяруся да цябе, тады і паспім…

Калі Сяргей урэшце дабраўся да Літоўчанкі, першае, што ён зрабіў, — запаліў свечку. Адвыклыя ад святла вочы самі прымружваліся. Прыкрываючы далонёй агеньчык свечкі, Сяргей агледзеўся. Віктар паўсядзеў, упіраючыся спінай у бервяно, што наўскос тырчэла са снегу. Ногі яго былі пад снегам. Сяргей пачаў адкідваць снег і хутка ўбачыў, што ўпоперак, якраз на ўзроўні каленяў, ляжыць бервяно, выбітае з перагародкі барака.

— Як адчуваеш, ногі цэлыя?

— Ды быццам бы цэлыя. Болю няма, калі рухаю. Але выцягнуць не магу, бервяно не дае.

— Трымай свечку, а я паспрабую падкапаць. Табе пашанцавала, ды яшчэ як! Магло б і прыбіць ці ператтрушчыць косткі…

Віктар з палёгкай уздыхнуў, выцягнуўшы з-пад бервяна ногі. Сяргей, перш чым патушыць свечку, узняў яе вышэй, каб лепей агледзецца. Полымя рэзка выгнулася, як бы на яго дзьмухнулі. Сяргей аднёс свечку, полымя выраўнялася, выцягнуўшыся доўгім языком угору. Ён паспрабаваў яшчэ раз, усё паўтарылася. Гэта магло азначаць толькі адно: ёсць канал, па якім паступае свежае паветра.

— Ну, Віцёк, калі ў сне не памрэм, дык жыць будзем. Бачыў, як полымя свечкі выгіналася? Значыць, свежае паветра да нас даходзіць.

Пералічылі запалкі. Іх засталося трыццаць сем. Вырашылі эканоміць свечку і запальваць яе пры патрэбе на дзве-тры хвіліны. Свечка была даўжынёй у два запалкавыя карабкі.

У сваёй снежнай нары пачалі рыхтаваць месца для адпачынку. Адчысцілі матрасы ад снегу. Цяпер было на чым спаць і дзве коўдры, каб накрыцца. Леглі, прыціснуўшыся спінамі. Стала цяплей.

Віктар раптам спытаў:

— А далей як было?

— Ты гэта пра што? — не зразумеў Сяргей.

— Ну калі сябрук твой цябе параненага цягнуў…

—А-а! Дацягнуў ён мяне да лесу. Там перавязаў мне нагу, а потым кажа: «Сярога, руку мне зачапіла, зможаш перавязаць?» Ты разумееш — сам паранены, а цягнуў, ратаваў мяне. Толькі на трэція суткі да сваіх выйшлі. Удвох — гэта не адзін…

— Ты ж казаў, што вас чацвёра было?

— Двое загінулі, калі мы прарываліся…

Прачнуліся адначасова, не зразумеўшы, што іх разбудзіла. Віктар сціснуў Сяргею руку і дрогкім шэптам спытаў:

— Т-ты чу-еш… што гэта?

— Чую, — таксама шэптам адказаў Сяргей.

Аднекуль знізу, прыглушаныя снегам, даносіліся гукі, вельмі падобныя на плач малога дзіцяці, калі яно, ужо наплакаўшыся, яшчэ працягвае жалобнае: «А-а-я-яй-я-я-я…».

— Ды гэта ж шчаняты Альмы! — прыслухаўшыся, узрадаваўся Сяргей. — Альма! Альма! Альма! — паклікаў ён. У адказ чуўся толькі жаласлівы віск шчанят.

— Напэўна, Альма не жывая. Прыдушыла снегам… Трэба дастаць шчанюкоў. Зусім малыя, без маці загінуць.

— Канечне, трэба! — пагадзіўся Сяргей.

Запалілі свечку і пачалі прабіваць лаз у напрамку, дзе ў скрыні з-пад аманіту было зроблена месца для Альмы. Працавалі па чарзе. Свечку беераглі і, пакуль не траплялася чарговая перашкода, не запальвалі, высякалі снег у поўнай цемры. Атрымліваўся вузкі лаз, у які можна было залезці паўзком, не паднімаючы галавы — уверсе быў завал з бярвенняў.

Прабілі метры з два ці болей, і тут нож натыркнуўся на нешта металічнае. Як-ніяк выцягнулі. Гэта была каструля, у якую клалі ежу для Альмы. Запалілі свечку і з радасцю ўбачылі, што ў каструлі грачаная каша з тушонкай, якой чамусьці шмат засталося ад апошняй вячэры, і некалькі кавалкаў хлеба. Відаць, і Альма не была галоднай, таму ў каструлі амаль усё і засталося.

Але каша змерзлася. Адкалупнулі па кавалку і з'елі, успамінаючы добрым словам Альму.

— Ніколі б не паверыў, што марожаная каша з сабачага посуду такая смачная! — уздыхнуў Віктар. — Шкада, што мала яе...

Шчаняты, мабыць, пачулі чалавечыя галасы і цяпер скуголілі настойліва, гучна. У лаз палез Віктар. Прайшоў яшчэ нейкі час, пакуль урэшце выцягнуў першае шчаня, за ім яшчэ трох.

Адчуўшы чалавечае цяпло, шчаняты жаласна павісквалі, тыркаліся пыскамі ў далоні, з прагнасцю ссалі пальцы. Сяргей адкалупнуў кашы, разагрэў яе ў далонях і пачаў карміць малятак, якім не было яшчэ й месяца. Яны быццам разумелі, што іншай ежы не будзе, і, заціхаючы, елі з далоняў тое, што было.

Паклалі малявак паміж сабой і леглі спаць. Шчаняты таксама ўлегліся клубком і паснулі. Хлопцы ляжалі моўчкі, пагладжвалі мяккую шаўкавістую поўсць шчанят і раз-пораз уздыхалі, думаючы пра тых, хто ляжаў у першай палове барака, зусім побач. Перад вачыма ў іх паўставаў той апошні вечар, чуўся стукат касцяшак даміно, вясёлы смех над «казламі». Раз-пораз агортваў незразумелы страх, халадзіў спіны. Колькі часу прайшло — не ўяўлялі, гадзіннікі былі недзе ў снезе. Зноў з'елі крыху марожанай кашы.

Некалькі разоў прымаліся шукаць выйсце, але ўсюды натыкаліся на сцэментаваны шчыльным снегам бярвёны. Стала зразумела, што ім самім не выратавацца са снегавой пасткі. Віктар цяжка ўздыхнуў.

— Ты чаго, Віктар?

— Хана нам.

— Ды ты што? Якая хана? Пра што ты гаворыш?

— Пра тое. Калі ад голаду не памром, дык замерзнем ці задыхнемся, калі замяце снегам тую шчыліну, праз якую паветра праходзіць... Мне ў красавіку водпуск, маці чакаць будзе, а я...

— І паедзеш у красавіку. Абавязкова паедзеш! Нам трэба зараз болей спаць і чакаць. А спаць — усяго і сіл трэба, каб з боку на бок павярнуцца. З голаду не памрэм. Нам будуць смачныя сны сніцца. Будзем расказваць, хто што еў у сне. Так і падманім страўнік! — імкнуўся жартам адцягнуць увагу Віктара ад цяжкіх дум Сяргей.

— Гэта што! Мы ведаем, што нас абавязкова выратуюць. А вось у сорак другім пад Лепелем, калі фашысты блакаду зрабілі, — вось дзе страху было! Параненых схавалі ў лесе ў добра замаскіраванай зямлянцы. Зверху ніякіх слядоў не засталося. Карнікі ішлі ланцугом. І трэба ж было так здарыцца, што якраз на зямлянцы паставілі мінамёт. І вялі агонь. Трое сутак стаялі. У зямлянцы дыхаць няма чым, вада заканчвалася. Вось там сапраўды «хана» побач была, але вытрымалі. Хто болю ўжо не мог трымаць, вусны зубамі заціскалі да крыві, але маўчалі. А ў нас усёй справы, што крыху пачакаць трэба, а за гэта яшчэ й сярэдні заробак захоўваецца, і палявыя ідуць. Давай паспім.




У пятніцу зранку «Надзея» на сувязь не выйшла. Радыст Барыс Хенкін, мяркуючы, што на ўчастку праспалі час сувязі, — такое здаралася, — не стаў дакладваць начальніку экспедыцыі, разлічваючы, што ў час вячэрняй сувязі «Надзея» падасць голас. Але і ўвечары водгуку не было.

Склаўшы ў папку прынятыя з іншых участкаў радыёграмы, Барыс накіраваўся да начальніка экспедыцыі.

Выслухаўшы паведамленне радыста, Анатоль Раманавіч спытаў:

— Калі ў цябе рэзервовы час?

— А дзевятнаццатай па мясцовым часе.

— Калі «Надзея» не адгукнецца, паведаміш мне. І ўвогуле пабудзь на сувязі, паслухай, сам пазаві...

Адпусціўшы радыста, Анатоль Раманавіч устаў і падышоў да акна. Снегапад не спыняўся. Пастаяў, вярнуўся да стала, зняў трубку тэлефона, крыху памарудзіў і набраў нумар.

— Метэастанцыя? Добры дзень, Мікалай Іванавіч! Ермакоў турбуе... Гэта ў вас вечар, а ў мяне яшчэ працоўны дзень. Скажы, які прагноз на бліжэйшыя два-тры дні... Так, абрадаваў ты мяне, нічога не скажаш! Разумею, што не ты надвор'е робіш, а то знайшоў бы на цябе ўправу... Так, з адным участкам суткі няма сувязі... У тым жа й справа, што верталёт не накіруеш... Будзь здароў!

Паклаўшы тэлефонную трубку, закінуў рукі за галаву і задумаўся, гайдаючыся ў крэсле. Рашуча выпрастаўся, падцягнуў да сябе ўнутраны тэлефон.

— Сяргей Пятровіч? «Надзея» суткі не выходзіць на сувязь... Калі б не такі снегапад, інакш бы і не думаў... Не трэба. З гэтым не гарыць, пачакаюць. У нас па графіку цягач да іх у аўторак? Справа ў тым, што метэа дае снегапад яшчэ на двое сутак, таму рыхтуй на заўтра, на сем гадзін раніцы... Паедзе пяць чалавек. Усё зразумеў? Вазьмі пад свой асабісты кантроль.

...Частку дарогі па тундры артылерыйскі цягач ішоў на максімальна магчымай хуткасці, уздымаючы снежны віхор. Калі дарога завярнула ў сопкі і пайшла на пад'ём, вадзіцель пераключыўся на паніжаную перадачу.

На зыходзе дня даехалі да вусця ручая, за тры кіламетры ад якога жылі разведчыкі. З-за моцнага снегападу бачнасць была вельмі абмежаваная, і вадзіцель павёў цягач асцярожна — дарога круцілася між дрэў.

Старшы групы геолаг Аляксей Кароцін, які сядзеў побач з вадзіцелем, занепакоена заўважыў:

— Ніякіх слядоў, быццам усё вымерла...

— А хто ў такое надвор'е куды пойдзе? А хоць і пойдзе, дык праз пяць хвілін сляды занясе. Сядзяць сабе ў бараку, спяць ці «казла» забіваюць, — упэўнена адказаў вадзіцель. — Хутка будзе паварот, а за ім барак.

Нечакана кабіна цягача прыўзнялася, як быццам дарога пайшла на пад'ём. Але ніякага пад'ёма не было бачна.

— Спыніся, Валодзя, — папрасіў Кароцін.

Вадзіцель праехаў крыху на раўнейшае месца і спыніў цягач. Кароцін вылез з машыны і ўбачыў, што дарогу перакрыў снежны вал шырынёй больш за дзесяць метраў. Снег, які толькі нападаў, быў рыхлы, а пад ім быў настолькі шчыльны, што нават гусеніцы не праціскалі яго.

— Што гэта? — здзівіўся вадзіцель. Кароцін нічога не адказаў, прайшоўся ўздоўж вала, вярнуўся і толькі тады ўпэўнена адказаў:

— Лавіна.

Уважліва прыгледзеўшыся, можна было ўбачыць ланцужок з глыбаў снегу, які працягнуўся да супрацьлеглага схілу, быццам яго нехта наўмысна раскідаў.

— А дзе ж барак? — азіраючыся навокал, здзіўлена прамовіў вадзіцель. — Вось тут ён быў! Вунь і засечка на дрэве...

— І раптам змоўк ад страшнай здагадкі.

Моўчкі стаялі, не ведаючы, што рабіць. У канцы лавіны ўбачылі два бервяны, што тырчэлі з-пад снегу, кавалак рубероіду ды абломак жардзіны з медным дротам антэны.

З месца, дзе стаяў цягач, было добра бачна, што лавіна сыйшла са схілу, перасекла даліну ручая і спынілася на лясістым супрацьлеглым схіле, знішчыўшы ўсё на сваім шляху. Не заставалася сумненняў, што барак разам з людзьмі пахаваны пад лавінай.

Кароцін спытаў у вадзіцеля:

— Валодзя, ты можаш дакладна паказаць, дзе стаяў барак?

— Вось тут ён і быў, дзе мы зараз стаім, — упэўнена адказаў вадзіцель, паказаўшы рукой сабе пад ногі.

— Хлопцы, трэба ўважліва агледзець усё навокал. Пайшлі ланцужком.

Агляд нічога не даў. У розных месцах клаліся на снег, прыслухоўваліся, крычалі і зноў слухалі ў надзеі пачуць голас у адказ. Але дарэмна, ніякіх прыкметаў жыцця там, пад тоўшчай снегу, не было.

Пачало цямнець. Не марудзячы, пабралі рыдлёўкі і пачалі капаць траншэю ад таго месца, дзе стаяў барак, наўскос па ходзе лавіны. Рыдлёўкі ў шчыльны снег уразаліся з цяжкасцю. Толькі цяпер выявілася памылка пры зборах на выезд — не ўзялі доўгія металічныя шчупы, з дапамогай якіх можна было вызначыць месца, дзе пахаваны барак ці тое, што ад яго засталося.

Бліжэй да раніцы снегапад прыкметна зменшыўся. Кароцін яшчэ раз абышоў навокал, каб супакоіцца. Зрабілі перапынак. Сабраліся каля вогнішча, папілі гарбаты і, калі зусім развіднела, зноў узяліся за працу.

Кароцін адышоў крыху ўбок, прытуліўся спіной да лістоўніцы, дастаў з кішэні цыгарэты, стаў прыкурваць. Чыркануў запалкай, і разам з полымем кавалачак гарачай серы балюча ўпіўся пад левае вока. Ад нечаканасці рэзка махнуў рукой, і карабок з запалкамі адляцеў далёка ўбок. Падымаючы яго, Кароцін заўважыў нешта шэрае на свежым снезе. Гэта яго зацікавіла. Ён апусціўся на калена, каб лепей разгледзець незвычайную плямку. У сярэдзіне яе была добра бачная шчыліна. «Як над мядзвежай бярлогай, калі ў ёй мядзведзь спіць». І раптам мільганула думка: «Там ёсць жывыя!» Ускочыў на ногі і закрычаў:

— Ідзіце сюды! Хутчэй!!

Калі ўсе падбеглі, ён паказаў на шэрую плямку і сказаў:

— Бачыце? Там ёсць жывыя, магчыма, яны параненыя, але жывыя, бо інакш адкуль гэтая плямка...

Працавалі моўчкі з усіх сілаў. У канцы дня дакапаліся да першага бервяна на глыбіні амаль у пяць метраў. Калі расчысцілі ад снегу вугал, убачылі, што дах, столь і тры верхнія вянцы цалкам знесены лавінай, а ўнутраная частка барака ўся напрасаваная снегам. Пачалі крычаць,з хваляваннем прыслухоўваліся ў спадзяванні, што іх пачуюць і адгукнуцца. Нехта пастукаў сякерай па бервяне. І ў адказ данёсся ледзь чутны чалавечы голас. Слоў нельга было разабраць, але не было сумненняў, што гэта голас чалавека.

Поспех дадаў сілы. Двое пайшлі нарыхтоўваць дровы, каб можна было працаваць і ўначы, адаграваючыся каля вогнішча, а чацвёра прадоўжылі раскоп.

Падагналі цягач і накіравалі святло фараў на раскоп. Працавалі моўчкі, асцярожна адбівалі кавалкі шчыльнага снегу. Вось-вось павінны былі дайсці да ўзроўню нар.

Усе, здавалася, былі гатовыя да таго, што, мажліва, прыйдзецца ўбачыць. Але калі з-пад снегу паказалася сагнутая ў калене ненатуральна белая нага, тэхнік Сапрыкін войкнуў і кінуў рыдлёўку.

Кароцін асцярожна ачысціў ад снегу твар нябожчыка. Смерць напаткала яго сонным, не прычыніўшы пакутаў. Ён ляжаў на спіне з заплюшчанымі вачыма, крыху падагнуўшы левую нагу паверх коўдры.

Адкапалі і паднялі наверх яшчэ траіх, накрылі брызентам. З-пад завалу пачуўся глухі голас. Кароцін гучна сказаў:

— Мы ўжо падыходзім да вас, пацярпіце яшчэ крыху. Колькі вас?

— Двое. Ягораў і Літоўчанка, — пачулася ў адказ.

Але прайшло яшчэ больш чым дзве гадзіны, пакуль удалося прабіць дзірку да жывых. Адтуль адразу прасунулася рука. Да яе пацягнуліся рукі выратавальнікаў. Кожны паціскаў гэтую руку, перадаючы ёй часцінку сваёй цеплыні.

Адсеклі кавалак бервяна, які загарадзіў выхад, і крыкнулі:

— Калі самі можаце — вылазьце!

— Трымайце! — пачулася ў адказ, і з лаза падалі аднаго за другім чацвёра шчанят, якія жаласліва павісквалі. І толькі тады вылез Літоўчанка, а за ім Ягораў. Іх адразу падхапілі пад рукі, накінулі на плечы бушлаты і адвялі да вогнішча.

Яны пілі гарачую гарбату, і слёзы цяклі па іх бледных тварах. Сядзелі моўчкі, ніхто не выказваў гучнай радасці, бо побач пад брызентам ляжалі чацвёра сяброў.

Кароцін на ўсякі выпадак спытаў:

— Болей нікога там не засталося?

Віктар глянуў на Сяргея і нечакана засмяяўся нервовым смехам:

— Хана там засталася. Нас не перачакала.

Быў аўторак, дзясятая гадзіна раніцы...

**3 красавіка 2014 г.**

«ЛІТАРАТУРНАЯ БЕЛАРУСЬ» | № 11 (99) | 28 лістапада 2014 | № 45 (414) Новы час

# Літара і дух Дзмітра Шчарбіны



Дзмітро Шчарбіна жыве ў Крывым Рогу ва Украіне. Ніколі, нават транзітным падарожнікам, не быў у Беларусі.

Мову беларускую вывучыў, чытаючы «Вожык» і слухаючы радыё «Свабода». Перакладаць з беларускай мовы на ўкраінскую і наадварот пачаў гадоў сем таму – пунктам адліку тут прыпавесць Быкава «Тры словы нямых», надрукаваная ў кіеўскім часопісе «Всесвіт». Летась у Луганску, дзе сёння ідзе вайна, выйшла кніжка-малышка Васіля Быкава «Байки світові» ў ягоным перакладзе.

Адны перакладчыкі пільнуюцца літары, другія – стараюцца захаваць дух твора. Дзмітро Шчарбіна ў сваіх перакладах дапільноўвае і літару, і дух. У працэсе перакладу да кожнага сумнеўнага слова ён падбірае цэлы ружанец сінонімаў, і гэта так нязвыкла ў нашым паспешлівым свеце…

Пазнаёміліся мы з Дзмітром завочна, праз фэйсбук, год таму. І з тае пары я не перастаю захапляцца яго перакладчыцкім талентам, яго літаратурным густам, яго фенаменальным адчуваннем і вычуваннем нашай мовы (асабліва калі ўзяць на ўвагу адсутнасць спецыяльнай адукацыі).

Дзмітро з маленства мае сур'ёзныя праблемы са зрокам, лекары забараняюць яму праседжваць за кнігай ці кампутарам, а ён усё роўна чытае, перакладае і папулярызуе ва Украіне беларускую літаратуру, увядомлівае ў байнэце ўкраінскую. Самаахвярнік, якія цяпер сустракаюцца надзвычай рэдка.

Хачу пажадаць пабраціму высокага палёту ў беларуска-ўкраінскім паэтычным небе.

**Міхась СКОБЛА**

## Ліна КАСТЭНКА

### Пакрыўджаны Тарквемада

*Я інквізітар. Ну, дык што ж такога?*
*Няўжо недаравальнае ў тым зло?*
*Я не хвалюся. Веку залатога,*
*вядома ж, і за мною не было.*
*Ну, катаваў. Ну, навяртаў у лона.*
*Паліў кругом высокія кастры.*
*Я іх забіў, ну, можа, паўмільёна…*
*А колькіх вы забілі, спадары?*

### Прыпавесць пра раку

*Даўным-даўно была рака Дыяла.*
*І жыў персідскі цар, што зваўся Кір.*
*І лотасы бялелі, як піялы.*
*Гуляў агнямі бераг, як факір.*
*То рацэ цара ішла на пераправу.*
*Святарны конь прапаў там пад вадой.*
*І Кір пачаў супроць Дыялы справу.*
*Наладзіў нечуваны суд над ёй.*
*Ён прысудзіў, каб не было Дыялы.*
*Смяротны вырак ёй агаласіў.*
*Ён у пясках сказаў капаць каналы,*
*І дрэвы ссек, і травы пакасіў.*
*І — у пустыню воды тыя зрушыў.*
*Рака памерла. Не было ракі.*
*Прайшло па ёй ваярства, як па сушы.*
*Прайшло ваярства… І прайшлі вякі…*
*Засыпала пяскамі ўсе каналы.*
*Рака ізноў цячэ ў сваім ручве.*
*Цара няма. Ды ёсць рака Дыяла.*
*Загінуў Кір. Але рака жыве.*

* * *

*Сайгак, тарпан… О як мы лёгка звыклі,*
*Што гэтыя жывёліны ўжо зніклі!*

*Знікаюць і зубры, звяліся коні,*
*Знікаюць паплавы і абалоні.*

*Рудая качка і над лугам каня, —*
*І тыя пад пагрозаю знікання.*
*І тыя пад пагрозаю знікання!*

*А мы адно звыкаем да звыкання.*

### Крылы

*І праўда, навошта крылатым глеба?*
*Зямлі не будзе, дык будзе неба.*
*Не будзе поля, дык будзе воля,*
*Не будзе пары, дык будуць хмары.*
*Мусіць, здаецца так птушкам адвеку.*
*А што ж чалавеку? А як чалавеку?*
*Жыве на зямлі. І сам не лятае.*
*А крылы мае. А крылы мае!*
*Людскія крылы не з пуху-пер'я,*
*А з праўды, сумлення і давер'я.*
*Бывае, з вернасці у каханні.*
*Бывае, з вечнага парывання.*
*Бывае, з прагнасці да работы.*
*Бывае, з рупнасці і турботы.*
*Бывае, з мары ці са спадзеву,*
*Нават з паэзіі або са спеву.*
*Нібыта сам чалавек не лятае…*
*А крылы мае. А крылы мае!*

* * *

*Сплывае год стары за небакрай.*
*А Новы вунь трасе здалёк чупрынай.*
*Налета новым будзе ўсё няхай,*
*Старымі ж — віны, ісціны, сябрына!*

* * *

*Ці не ўсё роўна, хто куды пайшоў?*
*Хто што сказаў — і верш ужо гатовы.*
*Паэзія — то свята, як любоў.*
*О, то не кожнадзённыя размовы!*
*І то не галасны асартымент*
*Метафар — на карысць ці на дагоду.*
*Не ведаю. Я толькі інструмент,*
*Дзе плачуць мроі-сны майго народу.*

* * *

*Страшыся слоў, калі яны маўчаць*
*Ці ў нейкім затаіліся прадвесці,*
*Калі няўцям, з чаго іх распачаць,*
*Бо ўсе яны раней былі чыесьці.*

*Хтось нарадзіўся з імі і сышоў,*
*Хтось імі плакаў, трызніў у пакутах.*
*Людзей мільярды, і мільярды слоў,*
*А ад цябе чакаюць шчэ нячутых.*

*Усё было ўжо: шчырасць і прытворнасць,*
*Краса і бруд, асфальты й спарышы.*
*Паэзія — заўсёды непаўторнасць*
*І неўміручы дотык да душы.*

* * *

*Відаць, былі мы вельмі маладыя, —*
*Час трацілі са шчодрасцю бяссмертных.*
*Згубілі долю. Вось перада мною*
*Даўгая панарама нашых жыццяў.*
*Узносяцца адныя, бы тополі,*
*Па-над усім сваім жыццёвым шляхам.*
*А некага вятрамі ўжо зламіла.*
*А некаму і свет ужо намілы.*
*А нехта ўжо з'ялчэў і стаў як горыч.*
*А з некім ты ўжо і не сядзеш поруч.*

### Дзяржава Кугель-Мугель

*Жалезны конік заіржаў,*
*На ножцы рыпнуў флюгер.*
*Найпрыгажэйшая з дзяржаў —*
*Дзяржава Кугель-Мугель.*

*Трымаў над ёю ўвесь кантроль*
*Адзін самавыгнанец,*
*Што быў і сам сабе кароль,*
*І сам сабе падданец.*

*І з цэлым светам тэт-а-тэт,*
*Падняўшы піва кухаль,*
*Ён піў за су-ве-рэ-ні-тэт*
*Дзяржавы Кугель-Мугель.*

*Ён быў філосаф і стратэг,*
*Амбітныя меў планы.*
*І нават Гінэса пазбег,*
*Бо не любіў рэкламы.*

*Меў на мяжы шлагбаум свой,*
*Ласкавы да акругі.*
*Наперадзе планеты ўсёй —*
*Дзяржава Кугель-Мугель!*

### Боль адзінай зброі

*Слова, мая ты адзіная зброя,*
*Мы не павінны загінуць абое.*
*Леся Украінка*

*У мегафонах мальваў — пеўняў спеў,*
*Ажно дрыжыць паліваю світанак…*
*Мой родны краю, зроду ты не меў*
*Нейтральных барваў — прэсных пурытанак.*

*Чырвона-чорны догмат рукава.*
*Пшанічны прынцып сонечнае нівы.*
*О, колькі слоў смарагдавых сяйва*
*Было ў табе і выбухала жнівам.*

*З зямлі ўзрасталі словы, як жыты.*
*Налітым зернем выплывала мова.*
*Яна — як хлеб мне шчодры і святы.*
*Крывёю прадкаў зззяла пурпурова.*

*А хтось у ёй капаў за ровам роў.*
*Таптаў найдаражэйшае нам поле.*
*І сніцца сон: пасецца гурт кароў —*
*Сем тлустых, ды худых паболей.*

*Азіміну скубуць і ярыну,*
*І брудзяць, брыдзяць, капытамі садзяць.*
*Трагічная мая! Табе труну*
*Не толькі ворагі — сыны твае ўжо ладзяць.*

*Бяссмертная мая! Смяешся церпка.*
*Ты ў той труне не змесцішся, дарэчы.*
*Яны ж бо ёлупы, яны ж знімалі мерку*
*З тваёй няслаўы й ганьбы, а не з велічы!*

*Твой дух ад тых зняваг не стаўся пусткай,*
*Хоць лёс нам слаў кілімы чарнаты*
*То ад Вілюйска да Халуйска,*
*То з Кіева да Варкуты.*

*З усіх трыбун — аж дым над дэмагогам,*
*Які кладзе ў аснову ленінізм.*
*Бо ж так ніхто не прысягае богам,*
*Як сатана — той самы шавінізм.*

*Як ты з тугою звыклася палыннаю!*
*Як часта крывадушнічаў Парнас!..*
*Абшар зямлі, завешся ты Ўкраінаю.*
*Ты быў да нас. І будзеш пасля нас.*

*Мой пракаветны, мой умыты росамі,*
*Сусветны, кветны, зорысты,*
*з жывінкаю…*
*Калі ты нават зваўся Маларосіяй,*
*Твая паэтэса была Украінкаю.*

## Уладзімір САСЮРА

* * *

*Так ніхто не кахаў. Праз вякі ды гады*
*Саспявае такое каханне.*
*І вясна на зямлі расцвітае тады,*
*і буяе зямля спазарання…*

*Лёгка дыхае ў сіняе неба яна,*
*узнімае да зор свае рукі…*
*І тады на зямлі расцвітае вясна*
*і трымціць ад салодкае мукі…*

*Млее сэрца маё ад шчаслівых вачэй,*
*што ў тумане гарэць нада мною…*
*Разліваецца кроў і па жылах цячэ,*
*Быццам пахне яна лебядою…*

*Гэй, зіхоткія зоркі!.. Мой месяц святы!..*
*Ці ж бывае ярчэйшым каханне?..*
*Для яе я сарву Арыён залаты,*
*Я — з паэтаў рабочага рання…*

*Так ніхто не кахаў. Праз вякі ды гады*
*Саспявае такое каханне.*
*І вясна на зямлі расцвітае тады,*
*і буяе зямля спазарання…*

*Лёгка дыхае ў сіняе неба яна,*
*узнімае да зор свае рукі…*
*І тады на зямлі расцвітае вясна*
*і трымціць ад салодкае мукі…*

## Дзмітро ПАЎЛЫЧКА

### Калі памёр крывавы Тарквемада

*Калі памёр крывавы Тарквемада,*
*Пайшлі іспанскім краем чарняцы,*
*Як старцы, апранутыя ў рубцы,*
*Вышукваючы скрозь людскую здраду.*

*О, як святыя трэсліся айцы,*
*Ці іхняя не пахіснецца ўлада!*
*Душа ерэтыка той смерці рада —*
*Ці ўсмешкаю заззяюць малайцы?*

*Яны нястомна ўсім апавядалі,*
*Што інквізітара забраў быў Бог.*
*А людзі, слухаючы іх, рыдалі…*

*Ніхто ўсміхацца і крадком не мог;*
*Напэўна, усе шчэ добра памяталі,*
*Што здох тыран, але стаіць астрог!*

### То ўнутраны клопат Расеі

*Не спяць прэзідэнты шчаслівых краін,*
*Начамі галосяць, шаленцы,*
*Іх мучыць хандра, надакучлівы сплін —*
*Пад танкамі гінуць чачэнцы.*
*Панове, засніце ўжо! То не бяда —*
*Змыкайце стамлёныя веі.*
*Струменіцца з гусеніц кроў, як вада? —*
*То ўнутраны клопат Расеі.*

*Міністрам шыкоўным на сэрцы цяжэй,*
*Журбота у іхнім паглядзе,*
*Бо дзесь там катуюць чачэнскіх людзей,*
*А панства? — На маскарадзе.*
*Не плачце! Не трэба! Салодкіх вам він!*
*Звівайцеся ў танцы, як змеі.*
*Дзяцей забіваюць і гвалцяць жанчын? —*
*То ўнутраны клопат Расеі.*

*Звярнуў да Чачэніі вочы Гасподзь,*
*Дзе кроў, быццам нафта, агніцца,*
*Палае, і ўладу ўжо страціла плоць,*
*І ззяе душа-зараніца!*
*Але патрыярх, выхавальнік арды,*
*Што ерась крамлёўскую сее,*
*Загадвае Богу: «Глядзіш не туды —*
*То ўнутраны клопат Расеі».*

*Маліцеся шчыра, народы Зямлі,*
*У сэрцах запальнікі ўзводзьце,*
*Прасіце усе, каб прыйшлі маскалі,*
*Спазнаць вам далі бессмяроцце.*
*Бо ваша свабода, і мова, і сцяг,*
*Святое Раство, і надзеі,*
*І права на мір, на жыццё і свой шлях —*
*То ўнутраны клопат Расеі!*

**Пераклад з украінскай Дзмітра Шчарбіны**

# Мамскім вокам



Маргарыта АЛЯШКЕВІЧ

***

…суперчалавек са звышздольнасцямі.

Магу не спаць соднямі.

Магу з'есці ўтрая больш, чым нармальны чалавек маіх габарытаў.

Маю абвостраныя нюх і слых, а майму індыкатару небяспекі пазайздросціць кожны чалавек-павук.

Магу доўга-доўга насіць цяжкія прадметы. Ну ладна, пакуль не вельмі цяжкія, але мужыкі ўжо дзівяцца.

Магу засынаць у любых месцах, позах і гадзінах.

Магу праходзіць вялізныя адлегласці ў любое надвор'е.

Мая энергія невычэрпная.

Мая суперсіла расце. І пасопвае ў калысцы.

***

Вы заўважалі, што кажуць «поўны нуль», а не «пусты». Поўны нуль. Адасабляе сваім колам унутранае ад знешняга і поўніцца гэтым унутраным. Поўны, самадастатковы, а таму можа каціцца лесам, полем, куды Макар цялят не ганяў. Бо калі поўны, хто ж спыніць, каб нешта ў яго дадаць — нічагуткі ў тую поўніцу не ўлезе.

Іншая рэч, каб адняць, тут ахвотнікаў спыніць багата знойдзецца, — ды што ты ў нуля аднімеш, нуль і ёсць. Нуль без рысачкі, яшчэ кажуць. Ото ж, а ўявіце нуль з рысачкай: у ім адразу нейкі дысбаланс, рыска дзеліць поўнасць на дзве паловы, ну натуральна, паміж імі нейкая дыялектыка мусіць пачацца, тым больш рыску гэтую мы звычайна ўяўляем «па касой», адразу ж надзяляючы большай увагай верхні левы кут нуля з рысачкай, ну так, па звычцы, і гэты кут пачынае ціснуць на ўсю іншую прастору сваёй, створанай намі, значнасцю. Левы ніжні кут мізарнее, ціснецца да рысачкі, правы ніжні нібыта і рассеўся, а ўсё падскоквае, наверх заглядае. Карацей, суцэльны рух і ніякай гармоніі, ну куды такі нуль можа закаціцца?.. А поўны нуль, нуль без рысачкі, спраўны, гладкі, дасканалы, нуль варты пашаны і ўсялякае славы.

Вось яшчэ кажуць: пустое месца. Тут зусім іншае зычэнне. Пустое месца — гэта новы пачатак. Усё пустое так і цягне да сябе энергію, рыхтык чорная дзірка. Згустак энергіі, з якой проста павінна нешта адбыцца, адкрыцца, сфармавацца: партал у іншасвет, напрыклад. Яшчэ дом на пустым месцы можна збудаваць, ці храм, ці там слана прыпаркаваць баявога. Ото ж, у горадзе сапраўды ліха з паркоўкамі, а тут — пустое месца. Але пустое месца чым блага: на яго хтосьці так і мкнецца прыбіцца, запоўніць. А само яно тады знікае. Нядоўгі лёс пустога месца…

Таму поўны нуль прывабнейшы. Коціцца сабе ў вечнасць, як поўня па небе. Свеціць нам, круглым дурням.

***

Маладыя спадары і спадарыні раз'язджаюць па горадзе ў брычках, запрэжаных мамкамі. Коні ў мыле, але з бразготкамі.

***

Учора няма — яго з'елі маленькія пачваркі лангальеры. Заўтра месціцца ў маленькім куточку маёй галавы. Але галава так шчыльна нашпігаваная клопатам сёння, што месца на паслязаўтра проста не застаецца. Хлеб наш штодзённы дай нам сёння.

Калі аглядацца ў мінулае, лангальеры паказваюць зубы. Калі спрабаваць будаваць планы, нябёсы ціхенька смяюцца, крыштালёвым такім смехам, мілажальным, хрумсткім, як першы лёд на лужыне, як ледзяшы ўвесну, як бязлітаснае ўсёведанне.

Існаваць у плыні — гэта не тое самае, што ўвайсці ў раку. У рацэ можна стаяць, плысці ўверх ці ўніз, супраціўляцца, рыбу лавіць. Быць трэскай на хвалях ці, урэшце, боўтацца, як самі ведаеце што. Не, існаванне ў плыні крыху іншае: робішся яе часткай, самой хваляй. Ты ёсць, і цябе няма…

Энергіі неверагодная колькасць, па сутнасці, уся плыня — чыстая энергія. Але яе нельга выхапіць, расфасаваць па пакецiках і рассоўваць па шафах, да запатрабавання, –фігушкі. Энергія выдаткоўваецца раўнютка на канкрэтную задачу, а ўсе спробы захамячыць жорстка караюцца поўным энергетычным спустошаннем. Часам жа — пры нявысветленых пакуль абставінах — энергіі накачваецца так многа, што цела як балонік. Ба-бах! Адчуванне, быццам усе часткі мяне бегаюць у маіх межах, гэткія шалёныя кванты, якія запрасілі да сябе сяброў. Ну тых, ведаеце, якія могуць быць адначасова ў некалькіх месцах. І вось унутры тусня са сваіх і яшчэ чыіхсьці, запрошаных, квантаў. Панаехала. І ўсе бегаюць, туды-сюды, туды-сюды. Тупаюць. Спаць замінаюць.

Ну што вам яшчэ сказаць?

Гэта клёва.

***

Пастаўлю помнік слоіку з гарохам.

У зацяжныя дажджы, калі не выведзеш малятаў на двор, каб самі сябе займалі, ля помніка будуць збірацца завалы з папяровых букетаў, вязаных завушніц, хатняй выпечкі і іншых знакаў глыбокай мамскай удзячнасці.

За дробную маторыку.

За рэфлексы кораня языка.

За вольную хвілінку. За вольную хвілінку. За воль…

***

Час засноўваць могілкі хатніх айфонаў.

Адзін утапіўся, адзін малюлька выбіла з маіх аслабелых лапаў, і вось — яшчэ адзін забіла сама, з дапамогай крокамералкі і двайных дзвярэй крамы тканіны. Ведаеце, такія дзверы, якія ляпаюць мамак з вазкамі па спіне, маўляў, ну як жывеш, старая? Троху кеўляеш? А па хрыбце?!

Пра шырокія дзверы ў крамавае пекла; пра рэдкія ліфты з іх раптоўнымі жалезнымі абдымкамі; пра пандусы, якія ставяць вазочак у ступар пасярод праезджай часткі; пра многія дробныя радасці маламабільных грамадзян вялікага гораду калі-небудзь іншым разам…

***

Трэцяе лета мая бібліятэка праводзіць спакаваная ў скрынках, трэцяе! Скрынкі мерзлі на балконе, іх даймала залева пры пераездах з аднаго здыму на іншы, некаторыя асобнікі нават снегу пакаштавалі, шанцукі.

А кіндл ляжыць, закінуты ў шуфляду, глядзіць углыб сябе маўклівымі электроннымі вачыма і думае: «Во дурніца». Ну не магу, чалавекі вы мае, не магу чытаць электронку. Да таго ж, кіндл як айфон: натуру мае далікатную, скуру тонкую. Не выжыве. Мы жэст шырокі любім і ўсяляк паважаем, і часцяком ужываем.

За рознымі нагодамі павыцягвала сабе самых-самых: патрэбных, улюбёных, каштоўных — яшчэ чарвяк які паточыць! Для маіх скарбаў ёсць толькі адзін кніжны чарвяк, я! І цяпер кнігі паўсюль, паўсюль. Сцягваю іх па куточках, а лялё рассейвае наўкол, закопвае ў неверагодных месцах: хоча вырасціць кніжнае дрэва, бадай. Каб з прыгожымі карцінкамі, ма.

Ідзі-ідзі, дожджыку, звару табе боршчыку. Ідзі-ідзі, сваячок, дам табе вазок. А сама хутка ляплю сабе цёплы пярэсты камяк (нечасаныя думкі, урыўкі вершаў, жж-допісы для мамскага натхнення, кнігі, кнігі, кнігі), — і да вясны не кантавацца. Сплю я.

Ды дзе там :)

# Дзедава рэліквія

## З цыкла «Правінцыйныя казкі»



Алесь БЫЧКОЎСКІ

«На вайне не бывае атэістаў», — шчыра казаў дзед Пятро.

І ведаў, што казаў! Адваяваўшы ў гвардзейскім батальёне, дзед скончыў вайну з некалькімі раненнямі і кантузіяй. Калі вярнуўся на радзіму, зразумеў, што развучыўся размаўляць ціха, — толькі гучна і, нібы млын, размахваючы рукамі з такой моцай, што суразмоўцы адсоўваліся на пару крокаў. Аднак набытая на вайне манера размаўляць не перашкаджала дзеду працаваць у гаспадарцы брыгадзірам і штогод атрымліваць граматы і падзячныя лісты ад кіраўніцтва.

Дзед жыў на Палессі, у Гомельскай вобласці. Непадалёк — украінская мяжа, побач — Прыпяць, і калі я прыязджаў у госці, падабалася гуляць уздоўж ракі або хадзіць разам з дзедам у тамтэйшыя лясы па грыбы. А на Палессі лясы дай Божа! Не тое, што на Бярэзіншчыне. Можна тры крокі зрабіць і не ведаць, куды занесла, заблукаць.

Дзядуля лічыўся адмысловым майстрам пячы дранікі. Ды і ўвогуле не слабы быў мужчына, якога і паўлітрай не напалохаеш. Вядомая рэч — ваенны мужчына. Ён меў асабістую грамату ад самаго Сталіна за ўдзел у вызваленні шаснаццаці еўрапейскіх гарадоў. Праўда, выпіваў дзед толькі па вялікіх святах. Вып'е і выварочвае душу, загартаваную ў цяжкіх баях, часам выцiраючы вільготныя вочы. Ён расказваў, як бралі некалі стратэгічна важныя вышыні ды адначасова біла некалькі тысяч гармат з абодвух бакоў; як з-за мноства выбухаў вогненныя шары качаліся па полі і ўскалыхвалася зямля; як з сотні чалавек да варожых акопаў дабягала палова; як уласнавоч бачыў пасля атакі звар'яцелых гітлераўцаў («Гляджу і дзіўлюся: немец дуркавата гыгыча і сыпле пясочак на галаву забітага фрыца!»); як падчас вызвалення Беларусі іх батальён праходзіў у дзесяці кіламетрах ад роднай вёскі, і ён прабег гэты дзясятак, ускочыў у бацькоўскую хату, кінуў толькі два словы «Я жывы!», развярнуўся і хутчэй да сваіх; як потым іх батальён перакіравалі ваяваць з Японіяй, і дадому давялося вярнуцца толькі ў сорак сёмым. Шмат чаго распавядаў стары…

Дзед быў двойчы кавалерам ордэна Вялікай Айчыннай вайны і да ўзнагарод ставіўся своеасабліва. Юбілейныя медалі на святы не прызнаваў. Чаму?

— Як прыгадаю, унучак, тыя вогненныя віхуры, гудзенне і трус зямлі, ды мноства чалавечых знявечаных целаў, млосна робіцца, у грудзях цяжка. Не да медалёў тады… Я і ўцалеў, што праз усю вайну пранёс крыжык, які дала маці. Калі задумацца, то мая самая важная ўзнагарода — што застаўся жывым.

Дзед Пятро лез у шафу, выцягваў адтуль невялікі срэбны крыжык на звычайнай суровай нітцы і дэманстраваў яго нібы найвялікшую ў свеце рэліквію. Ён разглядаў крыжык, і стары твар у тыя хвіліны набываў неперадавальны выраз, быццам зазірнуў стары за ўскраек жыцця і вечнасці, куды не кожнаму дадзена зазірнуць, каб не звар'яцець.

Што ён бачыў там? Толькі дзеду і вядома… Мноства смерцяў, людскі боль і пакуты, спадзяванні паўшых баявых таварышаў, з якімі поруч ішоў у бой, еў з аднаго кацялка. Ён бачыў тых, хто навекі застаўся там, у далёкіх саракавых гадах, каму падстаўляў плячо, з кім бег у атаку.

— Вось дзякуючы гэтаму, Божаму крыжыку, што дала маці, я і ўцалеў, — упэўнена паўтараў дзед і хаваў сваю рэліквію да наступнага дня Перамогі.

І нічога тут не скажаш. Вера, прынесеная праз вайну, дапамагла захаваць жыццё.

І мае рацыю дзед. Хіба жыццё нельга лічыць найбольшай узнагародай?

Што ж тычыцца веры ўвогуле, яна ў дзеда набыла своеасаблівыя рысы. «Дзядуля, бывае, вып'е шклянку самагонкі і следам абавязкова зап'е свянцонай вадой», — прыгадваў бацька…

***

Малілася бабка так: кладзе крыж і прыгаворвае: «Войменцай…» і далей звыклае «і Сына, і Святога Духа». Я пытаюся, хто такі «Войменцай», або што значыць?

— Малы ты ўсё ведаць! — Гарэзліва бурчэла старая. — Як вырасцеш, тады растлумачу.

Расказаць значэнне малітвы «У імя Айца…» бабка не магла не праз тое, што бачыла тэму размовы вельмі сур'ёзнай: хутчэй за ўсё проста не ведала тлумачэнняў. Аднак бабуля любіла мне ў дзяцінстве расказваць казкі.

— Жылі-былі дзед з бабай. Знайшоў аднойчы дзед бабінку. Пакруціў яе ў далоні ды пасадзіў у зямлю. Бабка паліла вадой. І пачала бабінка расці-ўзыходзіць. Расла бабінка, расла. Цэлае лета расла. Вымахала вялізнае кустоўе, цырубалле ў неба ўпінаецца. Струкі тырчаць з усіх бакоў, бобу нарасло, як таго ліха. Села баба, нашыла дзеду некалькі вялікіх торбаў, нібыта мяхоў. Узяў дзед лескі, прыставіў іх да цырубалля і, увесь абвешаны торбамі, пакараскаўся ўвышыню. Збірае сабе боб, пхне струкі ў торбу. А пачаў жа стары дурань не зверху абіраць, а знізу. Каб зверху, яно дармо, паступова спусціўся б уніз — і гора б не было. Дык не, пачаў знізу, і ўсё цяжэй і цяжэй яму з поўнымі торбамі караскацца па лесках. Ды і цырубаллю цяжэй і цяжэй трымаць дзеда з урадждаем. Пачало ўсё павалі хіліцца долу. І раптоўна зламалася кустоўе, дзед і паляцеў уніз з-пад аблокаў разам са сваімі торбамі і лескамі. Карацей, забіўся.

Тут казка заканчвалася.

— А што было далей? — пытаў я ў бабулі.

— Што было, што было… Пагаравала баба, паплакала. Потым наварыла чыгун бобу, напарыла, нажавала, наплявала дзеду ў гудло, — дзед і ажыўся!

# «Мае сны не падобны да вашых»

Галактыён ТАБІДЗЭ



Галактыён Табідзэ (1892–1959) — адзін з найвыдатнейшых грузінскіх паэтаў XX стагоддзя. Яшчэ пры жыцці быў прызнаны царом грузінскай паэзіі. Нарадзіўся ў вёсцы Чквішы, недалёка ад Кутаісі, у сям'і вясковага настаўніка і святара. Скончыў Тбіліскую духоўную семінарыю. Пачаў публікавацца ў 1908 годзе, у 1914-м выдаў свой першы паэтычны зборнік. З 1916 г. друкаваўся ў часопісе грузінскіх сімвалістаў «Блакітныя рогі». У 1919 г. апублікаваў кнігу «Артыстычныя вершы». У 1924-м стаў адным са стваральнікаў часопіса «Мнатобі» («Светач»). Народны паэт Грузіі (1933). Акадэмік Акадэміі навук Грузінскай ССР (1944). Не змог уратаваць сваю жонку Вольгу Акуджава (дарэчы, родную цётку барда Булата Акуджавы) ні ад арышту, ні ад расстрэлу ў 1941 годзе. Перажыўшы сталінскія «чысткі», апынуўся пад савецкім прэсам у паслясталінскі час. 17 сакавіка 1959 г. скончыў жыццё самагубствам у псіхіятрычнай клініцы, выкінуўшыся з акна.



**Магіла Галактыёна Табідзэ ў Пантэоне Мтацмінда**

### Сіні карабель

*Закалыхала гайданка марская.*
*Сіняя стома села на ветразі.*
*Прывідаў войска ў трох мачтах блукае.*
*Ветах у латах вартуе на беразе.*

*Мой карабель адплывае, як храм...*
*Не, гэта прывіды, вечны спакой ім!*
*Сціхні, шаленства мар, што між хмар*
*робіцца ветрам, ліловым прыбоем,*

*стомленым душам дарыць спагаду,*
*першыя дрыжыкі Дафнісу й Хлоі,*
*водар забытага даўняга саду,*
*дзе ажывае наша былое...*

*Трэба спяшацца, спяшацца, спяшацца.*
*Змрок на ліловых крылах зніжаецца.*

### Адзінота

*Калі мне паэты*
*вянок уручылі лаўровы,*
*У дом белы снег з адзінотай*
*пагрукалі двойчы.*
*Калі адчыніў,*
*белы снег апусціўся на бровы.*
*Калі зачыніў,*
*адзінота глядзела мне ў вочы.*

### І. А.

*На брукаванку ўпала дзіця.*
*Вочы аленя, косы з мімозы.*
*Нібы на хвілю не стала жыцця,*
*Сініх анёлаў падалі слёзы.*

*Вуліцы беглі, вьючы ў гневе,*
*І заглушалі ўсё, апрача*
*Вёскі, дзе сёстры свецяцца ў спеве*
*Й сонца салодкае, як алыча.*

### Табе трынаццаць

*Табе трынаццаць, а ў тваім палоне*
*Сівога сэрца роспач і агонь.*
*Трынаццаць куляў пакладзі ля скроні –*
*Трынаццаць стрэлаў разарвуць*
*мне скронь.*

*І праміне яшчэ трынаццаць вёсен,*
*І дваццаць шостым летам пад касой*
*Загінуць касачы й заплача восень,*
*А з ёю верш мой выпадзе расой.*

*Як хутка пакідае нас употай*
*Пара ільвінай жарсці маладой,*
*А сонца свеціць з гэткаю пяшчотай,*
*Знікаючы пад восеньскай вадой!*

### Хваля цягне хвалю

*На галінах вісну*ць*
*восені ашмёткі.*
*А казалі, што вясна*
*будзе вечна... Плёткі.*

*Хваля цягне хвалю.*
*Ціснуць абавязкі.*
*Нешта ў свеце памяняць*
*спадзяваўся... Казкі.*

*Поўнач. Роспач. Вось і ўсё.*
*Плач зімы надрыўны.*
*А хацеў навесці лад*
*у жыцці... Наіўны.*

### Я заснуў

*З іранічнаю ўсмешкай на твары,*
*Пад спеў калыханак,*
*Я заснуў, свае песцячы мары...*
*Цішэй, не зняваж іх!*

*Бо ад болю*
*Абуджуся — і ваш скаланецца світанак!*
*Лепш ніколі*
*Іх не сніць... Мае сны не падобны да вашых.*

### Снег

*Сіняй віхурай з неба, як з моста,*
*нібы дзяўчына ў вір, у журбе, –*
*снег, што люблю я горка і моцна...*
*Больш, дарагая, — толькі цябе.*

*Сэрца пад снегам плача і стыне.*
*Дні прамінаюць, хутка нябыт.*
*Зведаў паўсвету — толькі пустыня:*
*сінія выдмы, снег-аксаміт.*

*Ох, як на шыі вісне мне замець!*
*Студзень абдыме і адпяе...*
*Будуць бялютка падаць у памяць*
*сёстры завеі, рукі твае.*

*Любыя рукі возьмуць у танец*
*і завіруе ўсё на зямлі.*
*Я не самотны, я іх абранец,*
*рукі вянок мне снежны сплялі.*

*Падае снег мой з неба ў самоту,*
*з нашага моста ў нетры начы,*
*дзе патанае радасць палёту,*
*нібы завялі ўсе касачы.*

*Снег, што прыходзіць, як дабравесце,*
*і накрывае бездань мяне.*
*Вецер, калі ты сціхнеш, урэшце?*
*Студзень, калі ён, урэшце, міне?*

*Вецер у вочы й вецер у спіну.*
*Крочу самотна цераз снягі,*
*што размаўляюць бесперапынна*
*голасам любай з нотай тугі.*

*Шэпты кахання лепш ад малітваў*
*нас ратавалі ў тыя часы.*
*Вецер сняжынкі срэбныя ўблытваў,*
*быццам пялёсткі, у валасы.*

*Я вар'яцею — так цябе прагну,*
*так валацугу сніцца начлег...*
*Белая зграя гоніць у багну*
*праз адзіноту, роспач і снег.*

*Снег, што прыходзіць, як дабравесце,*
*і накрывае бессань мяне.*
*Вецер, калі ты сціхнеш, урэшце?*
*Студзень, калі ён, урэшце, міне?*

**Пераклаў з грузінскай мовы**
**Андрэй Хадановіч**



# Беларускі драматург у Парыжы: Аўген Кавалеўскі

Ён з'явіўся на свет у свята праваслаўнага Раства — 7 студзеня — у 1921 годзе ў Маскве. Бацькі неўзабаве вярнуліся ў Менск, дзе Аўген стаў выхаванцам дзіцячага садка, якім апекавалася Уладзіслава Францаўна Луцэвіч (жонка Янкі Купалы).

Затым А. Калубовіч скончыў сярэднюю школу і стаў сіратой. У тым «паспрыяла» савецкая ўлада: знішчыла — як нацдэма — бацьку, выхадца з Заходняй Беларусі.

Таленавітага юнака падтрымаў вядомы на той час акцёр і рэжысёр Еўсцігней Міровіч і накіраваў у тэатральную школу пры Беларускім дзяржаўным драматычным тэатры.

Вайна зблытала ўсе планы і спадзяванні. «Падчас вайны наш дом згарэў, — успамінаў (у лісце да аўтара гэтага артыкула. — Рэд.) яго малодшы брат Раман Кавалеўскі. — Аўгена тады дома не было... усё згарэла. Мы з мамаю выскачылі на вуліцу і не пасьпелі што-колечы ўратаваць. Пасьля пажару мы перабраліся на Кастрычніцкую вуліцу. У нас зьбіраліся артысты, пісьменьнікі... У Аўгена была мэта барацьбы за незалежную Беларусь».

У 1944 годзе А. Кавалеўскі падаўся ў паязджанства. У Нямеччыне арганізаваў Тэатр эстрады, апантана працаваў, пісаў п'есы, апавяданні, аповесці, публіцыстычныя артыкулы, склаў падручнік для Тэатральнай студыі. Друкаваўся ў эміграцыйных часопісах «Сакавік», «Наперад!», «Напагатове», «Моладзь» і інш.

«Калі немцы адступалі, Аўгена з намі не было, — згадваў яго брат Раман. — Ён быў высланы ў паездку і апынуўся ў Нямеччыне. І мы яго спаткалі ўжо ў Баварыі. Калі мы з мамаю апынуліся ў Нямеччыне, мы Аўгена не бачылі і спаткалі ў канцы вайны... Ён быў з артыстамі. Яны разьязджалі па ўсёй Нямеччыне: па лагерох, дзе знаходзіліся нашы землякі, пад уладаю амерыканцаў, якія многа дапамагалі... І так прадаўжалася аж да 1948 году... Прыйшоў час, калі амерыканцы зачалі прапаноўваць (Чырвоны Крыж) выязджаць па іншых краінах. Аўген вырашыў выехаць у Францыю».

А. Кавалеўскі быў актывістам Беларускай незалежнай арганізацыі моладзі (на яе другім з'ездзе абраны сакратаром), працаваў у парыжскай кравецкай майстэрні. І... пісаў.

Ён спрабаваў сябе ў розных літаратурных жанрах і актыўна друкаваўся ў розных эміграцкіх выданнях. У 1946 годзе ў часопісе «Напагатове» з працягам публікавалася яго прыгодніцкая аповесць для падлеткаў «Таямніцы замчышча».

Як драматург ён дэбютаваў у друку трагедыяй «Ліхадзейка» (1948), калі ўваходзіў у склад літаратурнага згуртавання «Шыпшына». «Ліхадзейка» ўзнаўляе адзін з тыповых эпізодаў гісторыі Беларусі пачатку XIX стагоддзя. У цэнтры сюжэтных калізій трагедыі — лёс прыгоннага селяніна, самавука-паэта Рыгора і сям'і памешчыцы Уладзіслаўскай. Яе дачка Канстанцыя, якой падрыхтаваны багаты жаніх Галінскі, закаханая ў Рыгора. Рыгор, у сваю чаргу, любіць сялянскую дзяўчыну Марысю. А. Кавалеўскі імкнецца выпісаць характары сваіх герояў на фоне бурлівых і трагічных падзей: сялянскага бунту супраць дэспатыі Уладзіслаўскай, які ачоліў Рыгор. У фінале трагічна гінуць і Рыгор, і Марыся, і Канстанцыя...

У часопісе «Шыпшына» (1948, №2) было апублікавана апавяданне А. Кавалеўскага «Алеся» — лірычна-ўзнёслы эцюд-згадка пра страчанае каханне, напісаны, відавочна, пад уплывам вядомай «Олеси» А. Купрына. Апавяданне вызначаецца жывапіснай, каларытнай мовай, імпульсіўнасцю празаічнага (часам метрычна згарманізаванага) радка. Напрыканцы, як падрахаванне, што выбіваецца з агульнага летуценна-мройнага аповеду, уведзена аўтабіяграфічная згадка: «Нечакана, раптоўна, як тая навальніца, грымнула вайна. Захлынула мяне, закруціла ў сваім жудасным віры, доўга насіла з аднаго мейсца на другое <...> і ўрэшце выкінула на далёкую чужыну як нікому непатрэбную трэску на хвалях».

У №19 часопіса «Наперад!» (1949) была змешчана яго навела «Першы подых», у №21 (1940) — апавяданне для дзяцей «Калека».

Адзін з першых апублікаваных драматургічных твораў А. Кавалеўскага — «драматычны этуд» «Навагодні госьць» («Сакавік», 1948, №1 (2)). Гэта сентыментальны расповед пра адзін эпізод з жыцця так званых дэпістых. Маладая жанчына Галіна Сьвірская засталася адна з малой дачкой. На сустрэчы Новага года прымае прапанову Алеся Зеляновіча «ісьці разам у туман», сустракае параненага мужа — і напачатку не пазнае яго, зноў страчвае.

«Навагодні госьць» А. Кавалеўскага стаў адным з узораў «актуальнай» драматургіі, якая, аператыўна вывучыўшы «попыт» суполкі беларускіх уцекачоў-паязджанаў, імкнулася найперш раскрываць іх надзённыя праблемы, адлюстроўваць тыповае і характэрнае ў іхнім жыцці. Падобныя задачы напрыканцы 40-х гадоў вырашала і проза нашай эміграцыі (эпізод нечаканай сустрэчы з мужам — ці яго чаканне — беларускай-паязджанкай апісаны ў апавяданнях Аляксандры Саковіч «Петрыкаў тата», «Асірочаная», «Сама»).

А. Кавалеўскі актыўна ствараў і невялікія камедыйныя вадэвілі, якія ставіліся на эміграцыйных сцэнах Нямеччыны і Францыі. Эпізод з жыцця ў лагеры ДП асветлены ў гратэскава-камічным вадэвілі «Госці з Тунісу». Два кемлівыя хлопцы-беларусы, якія атрымалі «матуру», пераапрануліся ў вярбоўшчыкаў-тунісцаў і насміхаюцца са скваплівасці ўдавы Зосі, цёткі сваёй сяброўкі.

Сцэны перадвясельных залётаў і сватання сталі традыцыйнымі і тыповымі ў беларускай драматургіі (творы В. Дуніна-Марцінкевіча, К. Каганца, Я. Купалы). Яны адгукаліся і ў камедыяграфіі А. Кавалеўскага. Яскравы прыклад — вадэвіль «Нечаканыя заручыны», жартоўнае дзейства якога пабудавана на аснове «любоўнага трохкутніка» Васіль — Насця — Халімон Падцярушкін. Арганічна ў тэкст уплятаюцца «песенныя партыі» герояў вадэвіля...


Падчас рэпетыцыі

Спакваля малады пісьменнік падыходзіў да ўвасаблення ваярска-гістарычнай тэматыкі — асноўнай у яго прозе. Як накід да нечага больш маштабнага ўспрымаецца яго абразок «Паміраючы сокал» («Баявая ўскалось», 1949, №1), дзе ў рамантычным арэоле апісана смерць беларускага жаўнера. Названай тэматыцы прысвечаны і «драматычны абраз з часоў Слуцкага паўстання» «Случчакі», апублікаваны ў часопісе «Моладзь» (1949, № 9).

У аснове «Случчакоў» — вядомая гістарычная падзея нацыянальна-вызвольнага руху, якая на эміграцыі ўважалася найбольш яскравым выяўленнем народнай сілы, мужнасці, імкнення да незалежнасці. А. Кавалеўскі паказвае адзін эпізод змагання: сутычку партызанскага аддзела з чырвонаармейскім палком. Кульмінацыя — сустрэча родных братоў Багуноў, адзін з якіх — паліткамісар, другі — партызанскі камандзір. У выніку брат забівае брата.

Больш самабытна, чым у «Случчаках», у якіх аўтар не змог пазбегнуць ілюстрацыйнасці, зместавай зададзенасці, пісьменніцкія здольнасці А. Кавалеўскага адлюстраваліся ў аповесці «Людзі ў полымі», якую на працягу трох гадоў друкаваў часопіс «Моладзь» (з №4 за 1948 год па №18 за 1950-ы). Аповесць, якая сваёй назвай асацыятыўна лучыцца з Мележаўскімі «Людзьмі на балоце» (як два архетыпічныя хранатопы: «людзі ў агні» і «людзі ў вадзе»), мае дзве асноўныя сюжэтныя лініі: жыццё свядомай беларускай моладзі ў часе панавання бальшавіцка-сталінскай ідэалогіі (найбольш каларытныя персанажы — Пятрусь Турэвіч, Мікола і Вера Сіняўскія) і «дзейнасць» уладнага актыву (сакратара райкама ВЛКСМ Максіма Івашчыка, сына папа, які пасля сутычкі з прадстаўніком ЦК партыі гіне ў дрыгве; начальніка раённага НКУС Сямючэнкі і інш.). Аповесць А. Кавалеўскага запамінаецца энергічным разгортваннем падзейных калізій, займальна-прыгодніцкім характарам, добра распрацаванымі ў псіхалагічным плане паасобнымі сцэнамі, — як, да прыкладу, эпізод пра спробу самагубства Максіма Івашчыка, калі той разглядвае сваё адлюстраванне:

«Ён падышоў да вялікага, мала не на палову сьцяны люстэрка ў пазалочанай раме, што стаяла за канапаю, і, любуючыся сваім выглядам, з «браўнінгам» у руках, прагаварыў яшчэ раз і галасьней:

— Я на ўсё здольны!

Але праз якую хвіліну, калі добра прыглядзеўся да свайго адлюстраваньня, ён ужо ня мог гэтага сказаць — рашучасьць пакінула яго, і заміж яе ў люстэрку пацямнеў спалоханы твар, ізноў апусьціліся бязвольна рукі<...>.

Ён глядзеў на сваё адлюстраваньне доўга, уважна, быццам бы ніколі перад гэтым ня бачыў сябе ў люстэрку. <...> і шырокі, заплыўшы тлушчам твар з падвойным падбародкам, і вузкія прарэзы вачэй, <...> і нос, маленькі, як бы сплясканы, і вусны таўстыя, чырвоныя, як у якой маладухі, і пасмы рэдкіх валасоў, апаўшых на вузкі лоб. Але, адначасна з гэтым, Івашчык пабачыў на сваім твары нешта новае, чаго раней не заўважаў: яму здалося, што ён на свае маладыя гады ўжо занадта стары, бо павялічліся мяхі пад вачыма, закругліліся зморшчыны ля вуснаў, парадзелі валасы — і ад гэтага жаль да самога сябе, жаль да свайго маладога жыцьця <...> гэтак расчуліў ягонае сэрца, што ў ягоных вачох міжвольна зьявіліся сьлёзы<...>».

Празаічныя спробы А. Кавалеўскага станавіліся сведчаннямі зацікаўленасці маладой беларускай літаратурай 40-х — пачатку 50-х гадоў гістарычнай праблематыкай, прычым праблематыка тая мела «прыкладны» характар: высвечвала і канцэптуалізавала найперш яе ваярскі зрэз, праз такі зместавы аспект актуалізуючы нацыянальную ідэю і заклікаючы да самаахвярнага служэння Бацькаўшчыне, не бачачы па-за гэтым перспектывы свайго і дзяржаўнага існавання.

Сёння ў тое і не верыцца: названыя і незгаданыя п'есы А. Кавалеўскага ставіліся на сцэнах Парыжа! Вось як аб тым успамінала (у лісце да аўтара гэтага артыкула. — Рэд.) удава драматурга спадарыня Валянціна Міцура-Кавалеўская (яны пазнаёміліся «перапісваючыся» — у снежні 1948 года):

«...у Парыжы, у 1949 годзе, канцэрт прайшоў з вялікім посьпехам. Зала была перапоўненая. Граліся таксама скечы і вадэвілі, часта Аўген арганізоўваў беларускія вечары.

Так прадаўжалася некалькі год. Пазнаёміўся ён з расейскімі акторамі, удзельнічаў у іх спектаклях. Па іхняй просьбе напісаў повесьць пра эміграцыю «Обреченные» і «Встреча».

Калі мы паслалі нашых дзяцей да скаўтаў «Норс», яго там прасілі заняцца маладымі дзяўчатамі і хлопцамі. Там ён і памёр трагічна, пад мейсцам Royan, і ён пахаваны там.

Аўген марыў і верыў, што ён вернецца на Бацькаўшчыну, каб прадоўжыць сваю працу. На жаль, для яго жыцьцё скончылася ў 42 гады...»

Руайян — цяпер камуна ў рэгіёне Пуату-Шарант на захадзе Францыі. Яна размешчана ў вусці эстуарыя Жыронды, што ўпадае ў Атлантычны акіян. Узбярэжжа Руайяна ўпрыгожваюць пясчаныя бухты, пляжы, невялікая гавань і рачны порт. А таксама — і памяць па творчага беларуса-паязджаніна...

У наш час рыхтуецца да друку том выбраных твораў Аўгена Кавалеўскага, якія доўгі час захоўвала ў Парыжы ягоная жонка Валянціна Міцура-Кавалеўская (і якія ў большасці не былі апублікаваныя). Хочацца верыць, што з выхадам «Выбранага» па-новаму — цэльна, адметна і годна — у беларускай літаратуры раскрыецца яшчэ адно імя невядомага на Бацькаўшчыне празаіка і драматурга.

А. П.

# Беларус з Варшавы: Дзмітры Шатыловіч

**Упершыню з арыгінальнымі ўспамінамі беларускага паэта і публіцыста Дзмітры Шатыловіча я пазнаёміўся, чытаючы беластоцкі «Czasopis». З нумара ў нумар на працягу пяці гадоў яны там друкаваліся, аўтар занатаваў сваё асабістае жыццё, а таксама падзеі ў Польшчы, былым СССР і, наогул, у свеце, пачынаючы з 1955 года.**




Гэтыя ўспаміны працягваюць друкавацца і цяпер. А ранейшыя жыццёвыя згадкі 1955–1988 гадоў Дзмітры Шытыловіча выйшлі асобнай кнігай у Беластоку. Яна так і называецца: «Успаміны 1955–1988».

На 326 старонках старэйшы беларускі літаратар з Варшавы, якому 8 лістапада споўнілася 88 гадоў, дасканала распавёў пра падзеі другой паловы XX стагоддзя.

Успаміны ранейшых гадоў Дзмітры Шатыловіча друкаваліся ў беларускім тыднёвіку «Ніва» (Беласток), у альманахах «Беларус» (Ньё-Ёрк, 2012, 2013) і ў кнігах «У новай айчыне» (Беласток, 2001), «Пакаленне вайны» (Беласток, 2003), «Час трывогі і надзеі» (Беласток, 2007). У іх Дзмітры Шатыловіч прыгадаў родную вёску Чаромху на Бельшчыне (цяпер Польшча) у міжваенны перыяд, дзе ён нарадзіўся; распавёў пра свае юнацкія гады і вайну; успомніў пасляваенны час (магчыма, усё тое некалі з'явіцца ў адным томе, і гэта будзе вельмі важны, цікавы і сур'ёзны аўтабіяграфічны жыццёвы дакумент беларуса з Беласточчыны). А цяпер у адной кнізе Дзмітры Шатыловіч вынес на суд чытачоў успаміны пасляваеннага перыяду. Аўтара гэтых успамінаў рэдактар «Czasopisu» Юры Хмялеўскі ў прадмове да кнігі назваў летапісцам, які з Падляшша родам.

Сапраўды, Дзмітры Шатыловіч — летапісец. Прытым вельмі змястоўны, дасканалы, «шырокі» ў геаграфічных развагах і гістарычных фактах.

На вокладку кнігі ўспамінаў аўтар вынес здымак Варшаўскага палаца культуры і навукі, на які заўсёды звяртаюць увагу турысты. «Гэта Сталін падараваў будынак Варшаве», — кажуць палякі. Дзмітры Шатыловіч распавядае, што гмах савецкія працаўнікі здалі 28 кастрычніка 1955 года. У ім адкрыліся новыя кінатэатры, тэатры, рэстараны і залы; людзі сталі катацца на хуткім ліфце наверх, каб аглядаць Варшаву. Палац гэты будавалі з 1952 года. Далей літаратар апісвае, што на праваслаўных могілках на Волі знаходзяцца магілы савецкіх працаўнікоў, якія загінулі ці памерлі ў час пабудовы палаца. Загінулі, як сцвярджае аўтар успамінаў, 14 працаўнікоў і двое дзяцей. «Я сам калісьці здалёк бачыў, як адзін рабочы адарваўся і ляцеў уніз з высокага паверху. Тады я не чуў, каб нехта сказаў, што палац трэба разбураць, хаця і не ўсім ён падабаўся», — піша спадар Шатыловіч.

Успаміны варшаўскага беларуса можна падзяліць на ўмоўныя раздзелы: сямейнае жыццё, літаратурная справа, Беларускае грамадска-культурнае таварыства ў Польшчы (БГКТ), палітыка, СССР, Польшча і іншыя краіны свету, здарэнні і падзеі. Каго што цікавіць — той і зможа знайсці для сябе розныя факты. Але дзеля гэтага неабходна прачытаць усю кнігу. Мяне, напрыклад, зацікавіў наступны факт: у 1955 годзе ў Польшчы нарадзілася 793,8 тысячы дзяцей. «Гэта быў год самага высокага прыросту насельніцтва на ўсёй гісторыі краіны», — піша Дзмітры Шатыловіч.

На старонцы 20 аўтар прыгадвае той час, калі ў Савецкім Саюзе ў 1934 годзе забілі палітычнага дзеяча Сяргея Кірава. Людзі пра гэта гаварылі нават у 1940-х–1950-х гадах. Размаўлялі пра тое здарэнне і нават спявалі прыпеўкі:

*Эх, огурчики, помидорчики,*
*Сталин Кирова пришил*
*в коридорчике.*

А Дзмітры Шатыловіч прыгадвае, што яму ў 1940 годзе адзін савецкі салдат нават заспяваў і такую прыпеўку:

*Семёновна, да юбка свалена,*
*Убили Кирова, убьют и Сталина.*

Сотні палітыкаў розных краін і эпох праходзяць праз успаміны пісьменніка. Праўда, чамусьці Ягоду аўтар называе Ягада, хаця ён далёка не быў ягадай і ягадкай, а сапраўднае яго прозвішча Ягода. А кітайскага палітыка Мао Цзэдуна аўтар называе Мао Дзедунгам (с. 34)...

Спадабалася мне і згадка ў кнізе аб тым, што былы камуністычны дзеяч Польшчы Уладзіслаў Гамулка кінуў заклік пабудаваць тысячу школ да 1000-годдзя Польшчы. Дзіўныя людзі часам траплялі і трапляюць у палітыку!..

Дзмітры Шатыловіч — ветэран беларускага руху ў Польшчы. Вельмі добра, што ў сваіх успамінах ён занатаваў і беларускія справы. Вось аўтар паведамляе, што 30 сакавіка 1958 года ў Беластоку адбыўся другі з'езд БГКТ, на якім заклікалі, каб у кожнай вёсцы на Беласточчыне быў гурток БГКТ, каб БГКТ усю сваю дзейнасць скіравала на ўмацаванне народна-дэмакратычнай улады ў Польшчы і каб у кожнай беларускай вёсцы была беларуская школа. А тады на Беласточчыне было ўжо 57 школ з беларускай мовай навучання і 116 школ, дзе беларуская мова вывучалася як прадмет. У пачатковых школах 8861 дзіця вучылася па-беларуску і былі два беларускія ліцэі. Старшынёй БГКТ у той час быў абраны Уладзімір Станкевіч, былы дзеяч КПЗБ. А яго намеснікамі былі Аляксандр Давідзюк і Піліп Кізевіч, сакратаром — Віктар Швед. Хацелася б, каб аўтар успамінаў трохі пра Станкевіча, Давідзюка і Кізевіча прыгадаў... (А калі такіх згадак няма, я пару слоў скажу пра Піліпа Кізевіча. Таго самага Кізевіча, які ў 1930-х гадах быў сябрам Галоўнай Управы ТБШ, дзе ён арганізаваў і кіраваў курсамі для дарослых на Беласточчыне. Пра сваю прапанову і пра курсы ён напісаў нават артыкул і апублікаваў у 1933 годзе ў часопісе «Летапіс ТБШ». Дзякуючы Піліпу Кізевічу, Беластоцкай Акруговай Управаю ТБШ быў наладжаны ў 1930-х гадах цыкл лекцый па ўсёй акрузе, кожны гурток ТБШ ставіў спектаклі ў сваёй і суседняй вёсках, праводзіліся заняткі з няграматнымі і малаграматнымі сялянамі. Напрыклад, у Пяшчаніцкім гуртку ТБШ былі арганізаваны курсы для дарослых, якія складаліся з дзвюх груп: непісьменнай і малапісьменнай. У першай групе выкладалася беларуская мова, вучыліся чытаць і пісаць, а таксама складаць і рашаць. Вывучалася і геаграфія Беларусі. У сваім артыкуле «Курсы для дарослых» (Летапіс ТБШ, 1933, №3-4) Піліп Кізевіч пісаў: «Недалёка тая хвіліна, калі і наша старонка падымецца, вырвецца з ланцугоў цемры».)

Але вернемся да ўспамінаў Дзмітры Шатыловіча. Добра, што ў іх аўтар вельмі шмат адвёў месца згадкам пра БГКТ, літаратурнае аб'яднанне «Белавежа», «Ніву». Хораша згадвае ён прамысловае прадпрыемства «Бэтэска», якое фінансавала БГКТ і дырэктарам якога быў Пятро Ластаўка.

Мне спадабаўся момант ва ўспамінах, калі Шатыловічы ў Рабку на адпачынку сустрэлі бацьку, маці і цётку архітэктара і прафесара Аляксандра Грыгаровіча, які праектаваў царкву ў Ялоўцы, сабор св. Тройцы ў Гайнаўцы і царкву св. Міхаіла ў Бельску-Падляшскім. Жонка Ніна Дзмітры Шатыловіча Грыгаровічу ведала яшчэ да вайны.

Аўтар на працягу 33 гадоў зафіксаў розныя зямныя катаклізмы, здарэнні, катастрофы: калі і дзе яны адбыліся, з чым гэта было звязана, якія людскія ахвяры яны прынеслі і г.д. Сам Дзмітры Шатыловіч шмат аб'ездзіў краін, бо ў вольны час працаваў гідам замежных экскурсій у польскім турыстычным бюро «Орбіс». Пра вандроўкі па свеце ён таксама з захапленнем распавядае ў сваёй кнізе.

І крыху пра самога Дзмітры Шатыловіча. Ён нарадзіўся 8 лістапада 1926 года ў вёсцы Чаромха на Беласточчыне ў беларускай сям'і. У сакавіку 1943 года быў вывезены на прымусовую працу ва Усходнюю Прусію. Пасля прыходу туды Чырвонай Арміі ў лютым 1945 года быў залічаны ў яе рады і накіраваны на фронт. Напрыканцы снежня 1945 года яго дэмабілізавалі. Вярнуўся дамоў. Вучыўся ў беларускай гімназіі, а потым скончыў Ленінградскі электратэхнічны інстытут, атрымаўшы ў Польшчы дыплом магістра інжынера электрыка-аўтаматыкі. Працаваў у праектным бюро «Энергапраект» у Варшаве. Цяпер на пенсіі. Аўтар зборнікаў паэзіі «Эцюды падарожжа», «Маё Падляшша», «Хвалі часу», «Вясёлка над імглою», «Струмені лёсу» і многіх іншых. З'яўляецца сябрам Саюза польскіх літаратараў і Саюза беларускіх пісьменнікаў. Узнагароджаны Крыжам Кавалерскім Ордэна Адраджэння Польшчы, Сярэбраным Крыжам Заслугі і медалямі.

**Сяргей ЧЫГРЫН**

# Палігон для цімураўцаў

**Пабачыла свет аповесць маладога аўтара Андрэя Лазуткіна «Палігон».**

Твор мае дзве сюжэтныя лініі: жыццё Беларусі пасля заканчэння II Сусветнай вайны перамогай III Рэйху (альтэрнатыўны погляд), а таксама прыгоды маладых студэнтаў сталічнай ВНУ ў Беларусі нашага часу.

Аўтар у сваёй альтэрнатыўнай гісторыі пайшоў простым шляхам, пратаптаным яшчэ класікам беларускай савецкай літаратуры Макарам Паслядовічам: абагуліў усё беларускае з нямецкім нацыянал-сацыялізмам і выдаў нам рэмэйк «Па воўчых сцежках» — з п'янымі паліцаямі, злачынный Радай Астроўскага, бандыцкай «Самааховай». Негатыў распаўсюджваецца і на БЦР, і на ўсё, што неяк звязана з ёй («Зачем нам связываться с Радой? Эти люди хуже фашистов»). Апафеозам такога прыроўнівання беларускасці да фашызму ёсць вось гэты фрагмент: «Колючие глазки следователя чуть теплеют: // — Хайль Гитлер! // — Жыве! — сгибаю руку в вялом приветствии». Дастаецца нават уніяцкай царкве — якая ў альтэрнатыўнай гісторыі Лазуткіна прылічвала да святых Кубэ.

Адначасова аўтар прызнаецца, што «не был историком, не знал деталей о войне и оккупации, мне была не интересна зажёванная советской прозой тема партизан и полицаев». І адзначае, што чытаў пра вайну з савецкай літаратуры, з якой «вовсю перли штампы». Аднак ка і ў выданні XXI ст. — пра тое ж: пра брудных, п'яных, прадажных ворагаў савецкай Беларусі (нацыяналістаў і паліцаяў).

Другая лінія аповесці не менш цікавая: п'янкі кампаніі гопнікаў па здымных кватэрках ды іхняе бадзянне па краіне і недалёкім замежжы — з адной відавочнай мэтай: пакрытыкаваць і пакпываць «гнилой народ — немчиков», «скучный Вильнюс, где можно умереть от скуки» і «бандеровский Львов». Дастаецца ад знаўцы грамадска-палітычнага жыцця і беларускай апазіцыі: наведаны ім мітынг з нагоды дня Волі выглядае «довольно уныло», а «бабы в любых политических тусовках, как правило, страшные». Паступова робіцца відавочным, што магістральнай мэтай бадзянняў галоўнага героя ёсць не класічны пошук свайго месца ў свеце, а просты пошук скандалаў і крыніцаў для самапіяру. Ну і, канечне ж, п'янкі...

Пра мову. Такая колькасць вульгарызмаў і жаргонных слоў сустракаецца бадай толькі ў расійскіх серыялах пра мянтоў і бандзюкоў. Блатны жаргон перанасычае дыялогі герояў і словы аўтара без аніякай эстэтычнай матываванасці. Прычым гэта не гутарковыя абароты, а менавіта зонаўскі слэнг («мусарнуться», «харя», «мурло», «порожняк», «взять за жабры»). Некаторыя дзеясловы ніводнага разу не выкарыстоўваюцца ў нармальнай форме, а толькі і выключна ў жаргоннай. Усё гэтае моўнае панкаўскае крамоўства дадаецца ўсялякімі «ваще» и «чё», якія канчаткова ахутваюць чытача чадам дызельных выхлапаў...

Пра Беларусь, беларусаў і суседзяў. Беларуская мова ў аповесці ёсць, але на ёй гавораць толькі і выключна адмоўныя персанажы (ці скончаныя паскуды, ці вартыя жалю недарэкі). Гэтыя асобныя рэплікі становяцца своеасаблівай разынкай, якая падкрэслівае дэфініцыю «свае-чужыя». Свае — рускамоўныя (чытай разумныя, з крытычным мысленнем і наборам джэнтэльменскіх якасцяў), а беларускамоўныя — нягеглыя месцічы, зладзеюкаватыя паліцаі, вясковыя дурні, выжылыя з розуму бабулькі («В белорусском фольклоре полешуки — это что-то вроде чукчей»).

Дастаецца і літоўцам ды іх найноўшай гісторыі: «Вдалеке здание телебашни. На заре литовской независимости там были непонятные пострелушки...».

Перад заканчэннем аповесці ў тэксце ўсплывае і «Белоруссия», і Курская дуга, і Ракасоўскі, і Яруэзльскі («в принципе, неплохой мужик, если подумать»)... Калейдаскоп блытаных фактаў пачынае круціцца ўсё хутчэй. Аўтар, відавочна, стамляецца ад тэксту і шукае варыянты хутчэйшага яго заканчэння: стараецца напоўніцу насыціць чытача паасобнымі фактамі, паказкамі, байкамі з уласнага стракатага досведу...

**У. С.**

# «Прыдумай сабе Айчыну»

**У «Вопросах літературы» (№ 5, 2014) амерыканскі даследчык Э. Лаўнсберы ў артыкуле «Сусветная літаратура і Расія» піша пра кнігу Паскаль Казановы «Сусветная рэспубліка літаратуры» як пра адно з найбольш аўтарытэтных даследаванняў, прысвечаных феномену сусветнай літаратуры, і вельмі здзіўляецца, што ў кніжцы зусім адсутнічае расійская літаратура.**




Як жа так, такія імёны, такі розгалас на дзесяцігоддзі, столькі папярэднікаў Рушдзі, — што за недарэчнасць? Выпадковая памылка, аўтарскі промах?!. Пакуль урэшце не прыходзіць да высновы: «Магчыма, тлумачэнне палягае ў наступным: тэрытарыяльная сімволіка Расіі грунтуецца на бінарнай апазіцыі сталіца/правінцыя, якая здаўна фарміравала спецыфічную вобразнасць расійская прасторы. Казанова выбудоўвае сістэму, якая ставіць пісьменнікаў і нацыянальныя літаратурныя традыцыі перад выбарам — патрапіць у касмапаліты альбо ў правінцыялы».

Цікава, а ці хоць упамінаецца там беларуская літаратура? І калі так, у што мала верыцца, то ў якім ракурсе? Ці не бачымся мы заходнім літаратуразнаўцам гэткім адкінутым і скукожаным ценем расійскай літаратуры ў перыяд зімовага сонцастаяння? Спецыяльна падкладаю гэтую шпільку чытацкай публіцы для палемічнага распалу, а ўрэшце і цвярозых разваг над лёсам нашай нацыянальнай літаратуры...

Ну і загадзя, яшчэ не пачынаючы гаворкі пра публікацыі часопіса, падвяду рысу для няўрымслівых: у 72-м нумары «Дзеяслова», на маё меркаванне, чытачам неабходна звярнуць увагу на чатыры публікацыі: нізку арыгінальных вершаў Ярыны Дашынай «Пакой чакання», аповед Сяргея Рублеўскага «Адыходнікі», эсэ Аляксандра Лукашука «Людзі без ценю» і сямейныя згадкі Разаліі Александровіч «Яе люблю Алах».

Ну і пойдзем у парадку надрукавання.

Незадоўга да 60-годдзя пісьменніка А. Асташонка давялося перачытваць яго некаторыя тэксты і ў тым ліку кароткую навелу «Чарга». Цяпер, чытаючы пачатак аповеда Галіны Каржанеўскай «Дзень добры, будучыня!», я ажно страпянуўся, — так стылістычна і сюжэтна сіметрычна накладаўся пачатак яе тэксту на прачытаны ў Асташонка. Праўда, нічога дзіўнага ў тым няма, бо па сутнасці чалавечае жыццё не мяняецца, апроч розных вектараў яго індывідуальнай мэтавай скіраванасці... Асташонкава «чарга» турбавалася зямным выбарам чалавека паміж дабром і злом, а «будучыня» Каржанеўскай — гэта ўжо як бы вынікі таго выбару ў іншым — па-за зямным — вымярэнні...

А вось пазнаёміўшыся з вершамі Андрэя Хадановіча, разумееш, што паэт шмат дзе бывае і ў яго дастаткова прычын для супрацьпастаўленняў і параўнанняў розных культур і ладу жыцця... Але ці трэба выстаўляць у іранічным плане мараль і этыку, як, скажам, у гэтым фрагменце аднаго з верлібраў:

*Цяпер прыдалася б пуэнта,*
*патаснае заканчэнне без ідыёцкіх жартаў,*
*але ў вершах маёй краіны*
*шмат вядзецца пра хлеб і пра матчыны рукі,*
*і пра бацькавы рукі, таксама пра дзедавы рукі,*
*што мужна трымалі зброю,*
*толькі пра хер там няма ні хера,*
*быццам бы нас рабілі пальцамі рук...*

Магчыма, аўтару трэба было шукаць тэксты на турбуючую яго праблематыку не ў вершаваных зборніках? Мне думаецца, што праз пэўны час можа з'явіцца новы творца, які напіша, што ў сучаснай паэзіі ўжо ўдосталь нарыфмавана пра фаласы і айфоны (прычым «херова і дахера»), то ці не прыйшла пара ўспомніць пра надзённы і духоўны хлеб, матчыны рукі і бацькоўскі пот? У чаканні гэтага? ці хаця б роздуму пра гэта? я пакуль гатовы чытаць тое, што ёсць, у тым ліку і шмат якія цудоўныя вершы А. Хадановіча...

Апавяданне «Адыходнікі» Сяргея Рублеўскага па сваёй ідэйнай скіраванасці вельмі набліжана да надзённага нацыянальнага факта. Да сітуацыі змушанага выбару, калі беларуская інтэлігента ўсё часцей «терзают грани меж городом и селом» (М. Рубцоў)...

«Адыходніцтва! Як жыццёвая пазіцыя, светапогляд, кішэнная філасофія браткоў-беларусаў. Вучыцца там і так, каб лаўчэй было выбіцца ў людзі (прыдумалі ж: не стаць чалавекам, не людзьмі звацца, а выбіцца ў людзі!) — зрабіцца шляхціцам, «дворянином», начальнікам, у рэшце рэшт хоць якім, але гараджанінам. А тое, што душа дзіцяткі, як неапёранае птушаня, выпіхваецца з улоння беларускасці, што заўчасна адрываецца пупавіна, якая нібы шланг, падведзены да скафандра касманаўта ад «сістэмы жыццязабеспячэння», сілкуе яе нязводнай энергіяй роднага этнасу, — каго гэта хвалюе, хто гэта ўсведамляе». Чамусьці без пытальніка напрыканцы. Мо таму, што адказ відавочны? І ўсё ж, калі беларускасць робіцца грамадзянскай пазіцыяй у самой Беларусі, то, як кажуць, тут нешта не так... І той, хто такую пазіцыю займае, ведае, што...

Апошнім часам мяне зацікавіла паэзія Фелікса Баторына, але, буду шчырым, гэтым разам у пераважнай большасці яго вершы мяне не вельмі ўразілі. Нейкі ўнутрана пафасны і занадта нервовы душэўны ўсплёск... Побач з глыбокай філасофіяй суседнічаюць даволі статычныя просталінейныя вершаваныя радкі. Такія перыяды ў паэтаў здараюцца. Буду чакаць новай публікацыі і чарговай кніжкі аўтара. У мяне чамусьці больш аптымістычныя спадзяванні, чым падобныя (магчыма, больш рэалістычныя):

*У сэрцы рэшткі веры*
*У вышні патранаж,*
*Ды супрацьлеглы бераг*
*Такі ж пусты, як наш.*

Аповесць Віктара Супрунчука «Дачнікі» — гэта чарада бясконцых трывіяльных дачных гісторый, якія паступова схіляюць чытача да «серыяльнай мыльнай меланхоліі»... Тэкст можна аднесці да «чытва для жанчын за пяцьдзясят». Стыль дабротнай традыцыйнай вясковай прозы: заўважныя дэталі, улоўныя характары, мімаходныя вобразы... Усё, як кажуць, на месцы, але... стамляе і схіляе да сну...

Паэма Аляксея Саламахі «Касцюшкава прысяга» — нацыянальны па духу вершаваны твор, аднак стылістычна каструбаваты, недарэшты выштукаваны...

Проза паэта Васіля Жуковіча пазнавальная (асабліва героі яго першага аповеда «Арабінавая ноч...») і выкрывальна-памятлівая — з праявамі беларускай натуральнай ментальнасці. Душэўная цеплыня і павага да людзей і ўсяго перажытага — асноўны пасыл гэтых апавяданняў. Агулам такія тэксты (з запаснікаў памяці), балазе, кароткія, таму прачытваюцца, не паспеўшы стаміць...

Вершы Ярыны Дашынай — лепшае, што выдрукавана ў часопісе з паэзіі. Думаю, тыя, хто прачытае, пагодзяцца з маімі высновамі. Зрэшты, у кожнага свае ўяўленні і вычуванні прыгожага і мастацкага. А мастацкі свет Ярыны — гэта своеасаблівы праобраз штодзённага раю і пекла ў адной чалавечай душы... Тут усё асабіста-адметнае і гарманічна спалучанае: форма, стыль, мысленча-метафарычны пласт, алітэрацыя, музычнае гучанне, падтэкставыя сігналы ў міжрадкоўях, і пры ўсім тым — гэта менавіта сучасная беларуская паэзія па духу: арыгінальная, непадробная, пазнавальная і адрозная ад іншых. Так, як мы беспамылкова пазнаём паэзію А. Разанава, Н. Артымовіч, Т. Сапач, А. Мінкіна, А. Сыса, так цяпер мы беспамылкова вызначаем і паэзію таленавітай паэткі з берасцейшчыны Я. Дашынай.

*Калі ўжо немагчыма быць нічыёй —*
*прыдумай сабе Айчыну, жыві ў ёй.*
*У ёй нараджай дзяцей,*
*у ёй памірай...*
*Калі ўжо немагчыма, то абірай,*
*кім быць, кім здавацца, кім*
*звацца...*

Такое жыццё вымагае пакут, дык жа і вечнасць паэзіі — па-за часам прозы...

Цяпер модна, не спадзеючыся на не заўсёды ўдзячных нашчадкаў, самому загадзя пісаць сваю жыццёвую і творчую біяграфію. Найлепш у мастацкім стылі, але з больш ці менш канкрэтнымі сведчаннямі часу і яго героямі. Што і робіць Алесь Аркуш, урывак «з амаль дакументальнага рамана» якога, «Мясцовы час», друкуецца ў гэтым нумары часопіса. Агулам як мемуар чытанне даволі цікавае: гістарычная беларуская правінцыя, перабудова і яе «пена», першыя свабодалюбівыя памкненні і дэмакратычныя пажады... Аднак скаламбурыўшы ў перафразіроўцы жанра, нададзенага твору самім аўтарам, я ўсё ж назваў бы яго «амаль раманам»...

Вершы Дзмітрыя Шылы — з адчувальным лірычным лёсам, можа, апроч апошняга, у якім не зусім зразумеў аўтара. Адным словам, прага душэўнага ўзрушэння і магчымасць мастацкага выяўлення аўтара спрабуюць дацягнуцца адно да другога...

Шчыра кажучы, было б сумнавата ў гэтым аб'ёмным тэкставым нумары часопіса, каб не падборка іранічна-забаўных жыццёвых показак Уладзіміра Сіўчыкава з ужо вядомых яго «Уладзевых гісторый». Думаю, з гэтых фрывольных і дасціпных тэкстаў магла б атрымацца ёмкая і лёгка чытэльная кніжачка, скажам, як умоўнае супрацьпастаўленне даволі жорсткім «сУчаснікам» Адама Глобуса.

Я прачытаў усе выдрукаваныя вершы Паўла Хадзінскага і лічу, што ўжо за гэта ён павінен мне быць удзячным. Калі казаць наўпрост, то найлепш засцерагачыся словамі аўтара: «свярбіць бессаромная думка»... Ну надта ўжо адзінокія і неўладкаваныя словы ў хаатычнай прасторы яго вершаў.

А вось пераклады вершаў украінскага паэта Юры Іздрыка і палячкі Эвы Ліпскі ў сваёй пераважнасці цікавыя, можна сказаць, адмысловыя, вартыя чытацкай увагі і ўзгадвання добрым словам перакладчыкаў (Наталлі Русецкай і Андрэя Хадановіча). Напраўду, нельга не пагадзіцца з Э. Ліпскі, што

*Варта памерці*
*дзеля такога верша*
*якому*
*не паверыць смерць.*

Фелікс Баторын выступае ў гэтым нумары не толькі як паэт, але і як перакладчык з ідыш (ці не адзіны на сёння ў Беларусі?!) драматычнай паэмы Мойшы Кульбака «Бойтра». Уласна мяне больш зацікавіла грунтоўная прадмова перакладчыка, а вам раю набрацца цярпення і прачытаць адметную п'есу замучанага насмерць пісьменніка. Вядома, лепш было б, пры магчымасці, прапанаваць такую аб'ёмную драматургію не часопісу, а талковаму тэатральнаму рэжысёру. Зрэшты, будзем спадзявацца, што нехта з іх прачытае тэкст і зацікавіцца пастаноўкай, адзіная з якіх адбылася ў далёкім 1936 годзе ў Дзяржаўным габрэйскім драматычным тэатры Мінска, але неўзабаве была забаронена як твор «ворага народа».

Працягваецца публікацыя «студэнцкага дзённіка» Рыгора Барадуліна за 1956 год. На гэты раз — пераважна «цалінная» тэма. Аказваецца, вялікі паэт вырастаў з пшанічнага пылу, табольскай цёмнай вады, віннага настрою і надакучлівай жамяры...

Друкуецца спадчына Мікалая Улашчыка, яго мемуарныя запісы пра сваю малую бацькаўшчыну. Прадмову напісаў А. Ліс, якому перад сваім сыходам з жыцця аўтар і пакінуў гэтыя свае арыгінальныя і каштоўныя, як нацыянальна-гістарычныя сведчанні часу, літаратурныя тэксты.

Вершы нядаўна памерлага мастака Віктара Маркаўца таксама ўзятыя з яго спадчыны. Чытаючы іх, разумееш, што арыгінальны творца ў паэтычнай адстароненасці, у адрозненне ад станкавага жывапісу, шукаў не адкрыццяў, а супакаення сваёй душэўнай узрушанасці...

Вельмі своеасаблівыя, арыгінальна-нечаканыя партрэты вядомых і неадназначных асоб найноўшай беларускай гісторыі (З. Пазьняка, С. Шушкевіча, А. Бембеля...) — у «заўчасных успамінах» Аляксандра Лукашука «Людзі без ценю». Гэта даволі прыцягальнае чытво, якое ўражвае сваёй смелай падачай і беззаганным стылем. Адчуваецца, што нізкі тэкстаў А. Лукашука («Людзі без ценю» і «Зкімбы-зымбы») як бы з адной плоскасці, з двума разнароднымі, але прыцягальнымі полюсамі — pro і kontra...

Літаратурныя калейдаскапічна-пераборлівыя «пацеры» Алены Сямёнавай у яе эсэ «Homo homini» важкія ў сваёй жыццёвай і лёсавызначальнай сутнасці.

Гісторык і архівіст Наталля Гардзіенка друкуе згадкі і эпісталярый малавядомага беларускага эмігранта, літаратара і выдаўца Юры Попкі.

А пра гістарычныя пастаноўкі на беларускай тэатральнай сцэне, прынамсі, балет «Вітаўт» у Нацыянальным акадэмічным Вялікім тэатры оперы і балета і мюзікл «Соф'я Гальчанская» ў Беларускім дзяржаўным акадэмічным музычным тэатры, крытычна разважае журналіст Зоя Матусевіч.

Досведны і размаіты па сэнсавых вектарах артыкул да 60-годдзя пісьменніка Алеся Асташонка «Праектаванне будучыні ў немагчымай рэальнасці» прапануе чытачу вядомы крытык Ірына Шаўлякова.

Нязмушаны, але глыбокі і займальны, і пры тым дасціпны і дасведчаны расповед пра татарскі сямейны род беларусаў — яго духоўны лад і жыццёвы ўклад — піша філолаг і гісторык Разалія Александровіч.

Напрыканцы нумара змешчаны ўспаміны Сяргея Чыгрына пра беластоцкага літаратара Сакрата Яновіча, рэцэнзія Леаніда Галубовіча на зборнік вершаў Марыі Вайцяшонак ды кароткія анатацыі новых кніжак у рубрыцы «Дзеяпіс».

Прыемнага ўсім чытання.

**ЛеГАЛ**

# Рукапіс Артура Конан Дойля

**На выставе ў Лондане паказалі першую старонку арыгінала твора Артура Конан Дойля «Знак чатырох», якая больш за сто гадоў знаходзілася за межамі Англіі – у ЗША.**




Алекс Вернер, куратар выставы, сказаў: «Шэрлак Холмс, безумоўна, звязаны з Лонданам. Як даніна 125-годдзю сэра Артура Конан Дойля, мы прывезлі першую рукапісную старонку твора «Знак чатырох» назад у горад, дзе нарадзілася гісторыя пра Холмса».

30 жніўня 1889 Артур Конан Дойл вячэраў з выдаўцом і Оскарам Уайльдам у адным з гатэляў Лондана. Тады абодва пісьменнікі падпісалі пагадненні аб публікацыі сваіх твораў. «Партрэт Дарыяна Грэя» Уайльда выйшаў у друк праз год пасля гэтага. Артур Конан Дойл напісаў аповед пра прыгоды Шэрлака Холмса і Доктара Ўатсана праз месяц пасля вячэры. І ўжо ў лютым «Знак чатырох» быў выдадзены.

Да гэтага часу першая старонка рукапісу захоўвалася ў Каліфарнійскім універсітэце (ЗША).

# Грошы псуюць літаратуру?

**Шведскі пісьменнік і крытык Хорас Энгдаль, які ўваходзіць у камітэт Нобелеўскай прэміі па літаратуры, напярэдадні ўручэння ўзнагароды ў інтэрв'ю «La Croix» паскардзіўся на сучасны стан заходняй літаратуры.**



Энгдаль лічыць, што пісьменніцкія школы і курсы прывязалі ў літаратуру Еўропы і ЗША занадта шмат людзей. Таксама, мяркуе ён, пісьменнікам не на карысць буйныя грашовыя гранты. «Разумею, спакуса вялікая. Але гэтыя грошы адразаюць пісьменніка ад грамадства, ствараюць нездаровую залежнасць ад уладаў. Раней пісьменнікі працавалі таксістамі, клеркамі, афіцыянтамі. Сэмюэл Бекет і многія іншыя жылі так. Было цяжка, але яны карміліся самастойна», — падзяліўся разважаннямі Энгдаль.

На думку пісьменніка, літаратурнага ўздыму варта чакаць ад краінаў Азіі і Афрыкі. «Спадзяюся, літаратурныя багацці Азіі і Афрыкі не зменшацца ад асіміляцыі і «азаходнівання» гэтых аўтараў», — адзначыў Энгдаль.

Сёлетнім набелістам, як вядома, стаў французскі пісьменнік і сцэнарыст Патрык Мадыяно.

Ён нарадзіўся ў 1945 годзе. Вучыўся ў парыжскім ліцэі Генрыха IV, дзе геаметрыю яму выкладаў Рэмон Кено, які сябраваў з яго маці і пазней дапамог юнаку ўвайсці ў літаратурные кола выдавецтва «Галімар», а затым у ліцэі і ў каледжы ў Ансі. Першы раман П. Мадыяно —«Плошча Зоркі» —быў апублікаваны ў 1968 годзе і адразу прынёс аўтару вядомасць.

Практычна ўсе творы пісьменніка аўтабіяграфічныя і (або) звязаны з тэмай акупацыі Францыі падчас Другой сусветнай вайны. У сваім інтэрв'ю ў кастрычніку 1975 года П. Мадыяно прызнаўся, што ён «апантаны перадгісторыяй, мінулым», а «мінулае —ганебная эпоха акупацыі». «Мой сюжэт —час», —дадаў ён у інтэрв'ю газеце «Монд» (ад 24 мая 1973 года).

Многія творы пісьменніка былі экранізаваныя, перакладзеныя на шматлікія мовы свету.

Акрамя Нобелеўскай, П. Мадыяно —лаўрэат Ганкураўскай прэміі (1978), Літаратурнай прэміі князя Манакскага (1984) і Міжнароднай прэміі Чына дэль Дука (2010).

# «Вялікая прэмія» па літаратуры Французскай акадэміі

**28-гадовы пісьменнік Адрыен Боск стаў лаўрэатам Вялікай прэміі па літаратуры Французскай акадэміі.**

Ён быў уганараваны за раман «Сузор'е». У кнізе распавядаецца пра людзей, якія загінулі ў авіякатастрофе. Раман заснаваны на рэальных падзеях (у авіякатастрофе самалёта «Сузор'е» загінуў вядомы французскі баксёр Марсэль Сердан).

«Сузор'е» — раман, пабудаваны як даследаванне акалічнасцяў авіякатастрофы. Боск распавядае пра драбнюткія дэталі ў жыцці пасажыраў і пра акалічнасці, якія прывялі іх на борт самалёта французскай авіякампаніі Air France, які ўрэзаўся ў гару Рэдонда на Азорскіх выспах у Партугаліі ноччу з 27 кастрычніка 1949 года.

Марсэль Сердан быў вядомы не толькі як баксёр, але і як палюбоўнік Эдзіт Піяф. Па яе просьбе спартовец сеў на самалёт, каб як мага хутчэй дабрацца да Нью-Ёрка. Разам з ім ляцелі вядомая скрыпачка Жынет Няве. Не абыйшоў увагай аўтар і простых людзей — рабочых фабрык, заводаў, клеркаў і службоўцаў — усіх 48 пасажыраў. Ніхто з іх, роўна як і з 11 членаў экіпажа, у авіякатастрофе не выжыў...

# Дні культуры Украіны ў Вільні

**У кастрычніку прайшлі Дні культуры Украіны ў Летуве.**

Адбылося шэраг мерапрыемстваў: Шаўчэнкаўскія літаратурныя чытанні ў Віленскім універсітэце з удзелам украінскіх літаратараў, паказ Нацыянальным акадэмічным украінскім драматычным тэатрам імя Марыі Занькавецкай спектакля «Кацярына» па творах Тараса Шаўчэнкі, кінапаказы, прысвечаныя жыццю і творчасці Тараса Шаўчэнкі ды інш.

Урачыстае адкрыццё Дзён культуры Украіны пачалося Шаўчэнкаўскімі чытаннямі ў Віленскім універсітэце. Мерапрыемства адкрылі міністр культуры Украіны Яўген Нішчук, міністр культуры Летутвы Шарунас Біруціс, пасол Украіны ў Летутве Валерый Жоўтэнка. У Шаўчэнкаўскіх чытаннях прынялі ўдзел украінскія пісьменнікі і паэт, лаўрэат Нацыянальнай прэміі Летувы Владас Бразюнас. Яны чыталі вершы вялікага Кабзара на ўкраінскай і летувіскай мовах.

# Прэмія Гутэнберга

**Культавы італьянскі пісьменнік Умбэрта Эка атрымаў прэмію Іягана Гутэнберга.**



Урачыстая цырымонія ўзнагароджання 82-гадовага пісьменніка адбылася 2 кастрычніка ў горадзе Майнц.

Пісьменнік, філосаф, гісторык-медыявіст, спецыяліст па семіётыцы і літаратурнай крытыцы атрымаў прэмію за яго літаратурныя публікацыі. Якія, як гаворыцца ў абгрунтаванні журы, «захопліваюць мільёны чытачоў ва ўсім свеце культурай кнігі і гісторыяй кнігі».

Аўтар знакамітых раманаў «Імя Ружы» і «Ківач Фуко» апублікаваў таксама «Мастацтва любові да кнігі», якую заснавальнікі прэміі назвалі «прызнаннем у любові да бібліяфіла».

Таварыства Іягана Гутэнберга займаецца вывучэннем гісторыі і развіцця друкаванай тэхнікі. Яно складаецца з больш за тысячу спецыялістаў адпаведнага профілю з 35 краінаў свету. Прызавы фонд складае 10 тысячаў еўра.

# Літаратурны фестываль «Пакрова»

**У Івана-Франкоўску і Каламыі адбыўся VI Літаратурны фестываль «Пакрова» імя Тараса Мельнічука.**

Сярод удзельнікаў фестывалю быў украінскі навеліст Васіль Парцяк. Ён прадставіў новыя тэксты, а таксама абвесціў пераможцу конкурсу прозы пра УПА. Такі конкурс праводзіла Літаратурнае агенцтва «Discursus». Плануецца, што конкурс будзе традыцыйным. На гэты раз паступілі працы ад сарака аўтараў. Лепшыя з іх увойдуць у кнігу, якая выйдзе ў «Discursus». Таксама Васіль Парцяк прыняў удзел у дыскусіі з Пятром Шкуцяком аб украінскіх ваенных добраахвотніцкіх фарміраваннях.

Сярод удзельнікаў фестывалю былі пісьменнікі Васіль Задарожны, Сцяпан Працюк, Вольга Дзяркачова, Яўген Баран, Раман Кісялюк, Васіль Андрушко, Мікалай Блізнюк, Багдан Аслаўскі, Крысціна Казлоўская і іншыя.




# Лаўрэат Букера

**Аўстралійскі пісьменнік Рычард Флэнаган стаў лаўрэатам Букераўскай прэміі за 2014 год за раман «Вузкая дарога на далёкую поўнач» (The Narrow Road To The Deep North).**

Пра гэта было абвешчана ў лонданскай ратушы Гілдхол.

53-гадовы Р. Флэнаган атрымаў узнагароду з рук жонкі прынца Чарльза герцагіні Карнуольскай Камілы.

Ён таксама стаў уладальнікам чэка на 50 тысячаў фунтаў (80 тысячаў даляраў ЗША). Іншыя пяць прэтэндэнтаў на адну з самых прэстыжных прэмій у галіне літаратуры на англійскай мове атрымалі па 4 тысячы даляраў ЗША.

# Памятная шыльда ў гонар Валянціна Пікуля

**У Рызе на вуліцы Цербатас на фасадзе дома 95, у якім з 1962 па 1978 гады жыў і працаваў знакаміты пісьменнік Валянцін Пікуль, усталявана мемарыяльная шыльда.**

На ўрачыстасці прысутнічалі дзеячы культуры Латвіі і Расіі, сярод іх – і расійскі міністр культуры Уладзімір Мядзінскі.

Вырабам шыльды займалася Расійскае ваенна-гістарычнае таварыства.

Валянцін Пікуль нарадзіўся ў Ленінградзе 13 ліпеня 1928 года. Ён стаў адным з самых папулярных у Расіі ды, наогул, на прасторах колішняга Савецкага Саюза аўтараў твораў на гістарычную тэматыку.

**Старонка падрыхтавана паводле матэрыялаў (тэксты і фота) The Guardian, Радыё Свабода, Espreso.tv, gazeta.ru, Українська правда, Радіо24, Галицький Кореспондент, Newsru.ua**

Літаратурная Беларусь
Кіраўнік праекта «ЛІТАРАТУРНАЯ БЕЛАРУСЬ» Алесь ПАШКЕВІЧ. Рэдактар Барыс САЧАНКА.
Тэлефон для даведак: (8-017) 200-80-91. Адрас электроннай пошты: sbp@tut.by

TV

## 7 СНЕЖНЯ, НЯДЗЕЛЯ

### Беларусь 1

**07.20** Камедыйная меладрама «Выпадковыя знаёмыя» (Расія).
**09.00** Навіны.
**09.10** Арсенал.
**09.40** Камедыйны серыял «Байкі Міцяя» (Украіна). Заключныя серыі.
**10.50** «Пра ежу!» Кулінарны майстар-клас.
**11.25** XXL WOMAN TV. Жаночы часопіс.
**12.00** Навіны.
**12.10** Навіны. Цэнтральны рэгіён.
**12.35** «Зона Х». Вынікі тыдня.
**13.10** Таямніцы следства.
**13.50** Каробка перадач.
**14.30** Eurovision. Вынікі тыдня.
**14.50** Вялікае тэлебачанне.
**15.00** Навіны.
**15.15** Твой горад.
**15.30** Вакол планеты.
**16.20** Тэлефільм АТН цыклу «Вялікі рэпартаж».
**16.55** Я магу!
**17.15** Камедыйная меладрама «12 месяцаў» (Расія).
**19.05** Меладрама «Тэрмінова! Шукаю мужа» (Расія).
**21.00** Галоўны эфір.
**21.55** Навіны надвор'я.
**22.15** Вялікае тэлебачанне.
**22.25** Камедыя «Палёт фантазіі» (Расія).
**00.25** Камедыйны серыял «Байкі Міцяя» (Украіна). Заключныя серыі.

### АНТ

**07.00** АНТ прадстаўляе. «Нядзельная раніца».
**08.00, 09.00** Нашы навіны.
**09.05** Нядзельная пропаведзь (з субтытрамі).
**09.20** «Смешарыкі. Пін-код».
**09.35** «Шалапутныя нататкі».
**09.55** «Пакуль усе дома».
**10.40** «Фазэнда».
**11.10** АНТ прадстаўляе: Шоу-гульня «ТБ-таксі».
**11.35** «Брэйн-рынг».
**12.40** «Легенды Live».
**13.25** «Тэорыя змовы».
**14.20** Я люблю Беларусь.
**15.30** «Здабытак Рэспублікі».
**16.00** Нашы навіны.
**16.15** Навіны спорту.
**16.20** «Здабытак Рэспублікі».
**18.00** «Артыст». Драма.
**20.00** Контуры.
**21.05** «Ледніковы перыяд».
**23.50** «Паляўнічыя за галовамі». Мастацкі фільм.

### СТВ

**06.30** «Студэнты-2». Серыял.
**07.20** Тэлечасопіс «Аўтапанарама».
**07.50** Фільм «Канстанцін» (ЗША - Германія, 2005 г.).
**10.00** «Вялікі сняданак».
**10.40** «Тэрыторыя памылак».
**12.30** «Добры дзень, доктар».
**13.05** «Таямніцы свету з Ганнай Чапман».
**14.05** Фільм «Зорка чароўнага шчасця» (СССР, 1975 г.). 2-я серыя.
**15.40** «Глядзець усім!».
**16.00** «Цэнтральны рэгіён».
**16.30** «24 гадзіны».
**16.50** Канцэрт Міхаіла Задорнава.
**17.45** Тэлечасопіс «Аўтапанарама».
**18.15** СТБ прадстаўляе: вячэрняе шоў «На тым жа месцы ў той жа час».
**19.30** «Тыдзень». Інфармацыйна-аналітычная праграма.
**20.40** Фільм «Трусіная нара» (ЗША, 2010 г.).
**22.30** «Пякельная кухня-2».
**23.55** Фільм «Калыханкі» (Германія, 2009 г.).
**01.20** «Вялікія таямніцы».

### Беларусь 2

**07.05** Вышэй за дах.
**07.30** Фантастычны фільм «Стэлс» (ЗША).
**09.40** фантастыкі-прыгодніцкі мультсерыял «Аватар. Легенда пра Аангу» (ЗША).
**10.05** «Fitnews». Праграма пра прыгажосць і здароўе.
**10.40** Тэлебарометр.
**10.45** Камедыйны серыял «Універ. Новы інтэрнат» (Расія).
**12.00** «Турыст».
**12.55** Біятлон. Этап кубка свету. Мужчыны Гонка пераследу. Прамая трансляцыя.
**13.50** «Зразумець і абясшкодзіць».
**14.15** Камедыйная-прыгодніцкі серыял «Мама - дэтэктыў» (Расія).
**15.25** Біятлон. Этап кубка свету. Жанчыны. Гонка пераследу. Прамая трансляцыя.
**16.20** Фантастычны баявік «Драпежнік» (ЗША).
**18.20** «Comedy Баттл. Без межаў». Забаўляльная шоу праграма (Расія).
**19.30** Суперлато.
**20.20** Тэлебарометр.
**21.00** Спортлато 5 з 36.
**21.05** КЕНО.
**21.15** Цела чалавека.
**21.50** Камедыйны серыял «Універ. Новы інтэрнат» (Расія).
**23.00** «Перазагрузка». Маладзёжнае ток-шоў.
**23.45** Камедыйны баявік «Разборкі ў стылі кунг-фу» (Гонконг- Кітай).
**01.25** «Сустрэча з...».

### Беларусь 3

**08.00, 11.55, 15.00, 23.20** «Калейдаскоп».
**08.10, 12.10, 15.10** «Музычны скарб Беларусі».
**08.20** Серыял. «Робін з Шэрвуда». 20-я і 21-я серыі (Вялікабрытанія, 1984-1986 гг.).
**10.00** «Подых струн». Музычная праграма. Госць: Зоя Курак.
**10.40** «Наперад у мінулае».
**11.05** Хіт парад. «Сто песень для Беларусі».
**12.20** «Дзелавыя людзі». Гісторыя беларускага купецтва.
**12.35** «Будзе доўгім развітанне...». Фільм-партрэт кінарэжысёра Міхаіла Пташука.
**13.30** «Вядзьмарка». Кароткаметражны фільм (СССР, 1958 г.).
**14.00** Карл Орф. «Карміна Бурана». Вакальна-харэаграфічнае прадстаўленне.
**15.20** «Старыя казкі». Гісторыя стварэння фільма «Пітэр Пэн».
**15.45** «Пітэр Пэн». Музычны фільм. 1-я і 2-я серыі (СССР, 1987 г.).
**18.05, 22.45** «Культпрасвет».
**18.40** «Гарбун». Прыгодніцкая драма (Францыя, Італія, Германія, 1997 г.).
**20.45** Калыханка.
**21.10** Канцэрт Дзяржаўнага ансамбля танца Рэспублікі Беларусь. Мастацкі кіраўнік - народны артыст Беларусі Валянцін Дудкевіч.

### Беларусь 5

**07.00** PRO спорт. Навіны.
**08.00** Футбол. Чэмпіянат Англіі. «Ньюкасл» - «Чэлсі».
**09.15** Біятлон. Этап Кубка свету. Эстэрсунд. Спрынт. Мужчыны.
**10.45** Біятлон. Этап Кубка свету. Эстэрсунд. Спрынт. Жанчыны.
**12.15** Гандбол. Ліга чэмпіёнаў. «Металург» (Македонія) - БГК ім. Мяшкова (Беларусь).
**13.40** Футбол. Чэмпіянат Беларусі. Пераходны матч. Другая гульня. «Дняпро» (Магілёў) - ФК «Віцебск».
**15.30** Біятлон. Этап Кубка свету. Эстэрсунд. Гонка пераследу. Мужчыны.
**16.25** Футбол. Чэмпіянат Англіі. «Вэст Хэм» - «Суёнсі». Прамая трансляцыя.
**18.25** Плаванне. Чэмпіянат свету на кароткай вадзе. Прамая трансляцыя.
**21.45** Баскетбол. Адзіная Ліга ВТБ. «Ніжні Ноўгарад» - «Цмокі-Мінск».
**23.25** Біятлон. Этап Кубка свету. Эстэрсунд. Гонка пераследу. Жанчыны.

### БЕЛСАТ tv BELSAT

**07.00** Аб'ектыў.
**07.10** ПраСвет.
**07.45** «Мядзведзік Фантазік».
**08.15** «Польскія казкі і паданні».
**08.30** «Ажыятаж вакол Басі», серыял.
**08.55** Маю права (юрыдычная праграма).
**09.15** Два на два (тэледыскусія).
**09.45** Беларусы ў Польшчы.
**10.00** Рэпартэр (інфармацыйна-публіцыстычная праграма).
**10.30** «Мядзведзік Фантазік», мультфільм.
**10.55** «Польскія казкі і паданні».
**11.10** «Mad Men. Утрапёныя-2», серыял.
**12.00** «Час гонару», серыял.
**12.50** «Жывы гук», дак. фільм, 2013 г., Сербія.
**13.45** Відзьмо-невідзьмо (інфармацыйна-забаўляльны агляд).
**14.10** Моўнік (лінгвістычная праграма): На якую мову Скарына перакладаў Біблію?.
**14.20** 54 % (публіцыстычная праграма).
**14.40** Два на два (тэледыскусія).
**15.15** «Тэра постсаветыка. Секта Пуціна», дак. фільм, 2012 г., Польшча.
**15.50** «Варажба жарлянкі», маст. фільм, 2005 г., Польшча–Германія.
**17.25** «Людскія справы».
**18.00** «І выберу Радзіму», дак. фільм, 2014 г., Беларусь.
**18.30** «Ранча», серыял.
**19.25** Кулінарныя падарожжы Робэрта Макловіча.
**19.50** Гісторыя пад знакам Пагоні (спазнаваўчая праграма): Іван Луцкевіч.
**20.05** Эксперт (сатырычная праграма).
**20.30** Дакументальная гадзіна: «Бэлля Віста», дак. фільм, 2012 г., Германія–Уругвай.
**21.45** Фільматэка майстроў: «Прывід пяра», маст. фільм, 2010 г., Францыя–Германія–Брытанія.
**23.55** «Новая Польшча», дак. фільм, 2010 г., Польшча–ЗША.
**00.50** «І выберу Радзіму», дак. фільм, 2014 г., Беларусь.

# Шаноўныя чытачы!

**На жаль, газету «Новы час» немагчыма купіць у шапіках або крамах. Няма нас і ў дзяржаўнай сістэме распаўсюду Белпошты. Але можна падпісацца на «Новы час», і кожны тыдзень атрымліваць газету.**

Падпісацца можна на любую колькасць месяцаў, афарміўшы банкаўскі ці паштовы перавод і накіраваўшы копію плацёжнага дакументу на адрас рэдакцыі. (Глядзіце ўзоры квітанцый). **Нашы рэквізіты: рахунак 301274 1108019 у аддзяленні №53 9 ОАО «Белінвестбанка», код банка 153 10073 9. Адрас банка: 22 0004, Мінск, вул. Калектарная, 11. Адрас рэдакцыі: 22 0113, Мінск, вул. Мележа, 1, офіс 1234 .**

**Акрамя таго падпісацца можна ў рэдакцыі і ў нашых рэгіянальных прадстаўнікоў:**
**Магілёў:** (8 029) 930 79 22, Міхась
**Мінск:** (8 029) 178 31 68, Вольга
**Слуцк:** (8 029) 774 94 60 Зінаіда
**Гомель** (8 029) 697 82 75, Аляксандр

БЕЛПОЧТА

ф. ПС 112

**ЭЛЕКТРОННЫЙ ДЕНЕЖНЫЙ ПЕРЕВОД**

№ ______ (вход, по карте отправки)

ВЫРУЧКА ☐ НАЛОЖЕННЫЙ ПЛАТЕЖ ☐

(сумма цифрами) (сумма прописью)

ПОЛУЧАТЕЛЬ Г-та «Новы час», р/с 3012741108019 отд. №539 ОАО «Белинвестбанк», код 153100739, УНН 190790926

КУДА 220004, г. Минск, ул. Коллекторная, 11
(почтовый код, адрес получателя, телефон)

ОТПРАВИТЕЛЬ
(почтовый код, адрес отправителя, телефон)

АДРЕС

Доставка ☐ уведомление ☐ простое ☐ заказное ☐ электронное

(назначение платежа)

(письменное сообщение)

Отметки отделения почтовой связи места приема:
(почтовый код, оттиск контрольно-переводной печати, кол. шт.)
№ перевода по ф. 5 ____________
Время приема ______ ч. _____ мин.
Подпись

# Паважаныя чытачы!

Падпісны кошт аднаго нумара газеты 3000 руб., аднаго месяца — 12000 руб.

**ДЗЯКУЙ ВАМ ЗА ПАДТРЫМКУ!**

«Новы час» запрашае да супрацоўніцтва распаўсюджвальнікаў газеты ва ўсіх рэгіёнах Беларусі. **Даведка па тэл: (8 029) 651-21-12.**



КВИТАНЦИЯ

ЧИУП «Час навінаў»
(получатель платежа)
отд. №539 ОАО «Белинвестбанк»
(наименование банка)

| Счет получателя | 3012741108019 | Лицевой счет | Код 739 |
|---|---|---|---|
| УНП* | 190790926 | | |

(фамилия, имя, отчество, адрес)

| Вид платежа | | | Дата | Сумма |
|---|---|---|---|---|
| | | | | |

Период подписки указывает абонент

Плательщик

Пеня ________
Всего ________

Кассир

# Майдан на Дунаі

Алег НОВІКАЎ

**Венгрыю захліснула новая хваля антыўрадавых пратэстаў. Пра прычыны і наступствы пратэстаў журналіст «Новага часу» размаўляе з венгерскім грамадскім актывістам Маціяшам Бенекам.**



***— Як вядома, пратэсты выклікала ўрадавая ініцыятыва аб падатках на карыстанне інтэрнэтам. Нашто ліберал-кансерватыўнаму ўраду Віктара Орбана спатрэбілася спаганяць грошы з карыстальнікаў інтэрнэту?***

— Неабходнасць новага падатку ў памеры 150 флорынтаў, або каля 50 еўрацэнтаў з гігабайту, чыноўнікі аргументавалі неабходнасцю пашырэння інтэрнэт-сеткі па ўсёй краіне. Раней Орбан агучыў амбіцыйны план — шырокапалосны доступ у інтэрнэт у кожны венгерскі дом да 2020 года. Для гэтага мэты, быццам, і шукалі грошы. Таксама казалі, што грошы патрэбныя, каб паменшыць кошты на званкі са стацыянарных тэлефонаў. Быццам, людзі з-за дарагіх тарыфаў на званкі аддаюць перавагу бясплатным званкам праз Skype, што робіць нерэнтабельнай працу нацыянальнай кампаніі Telekom. Законапраект адразу быў успрыняты вельмі негатыўна, прычым усімі сацыяльнымі групамі грамадства. Як адзначалася ў прэсе, упершыню з 2010 года, калі Орбан прыйшоў да ўлады, удалося разбурыць палітычную апатыю венграў.

***— У адмоўнай рэакцыі на ідэю Орбана няма нічога дзіўнага, паколькі плаціць падаткі, тым больш такія незвычайныя, мала хто захоча. Ці былі яшчэ нейкія падставы пратэставаць супраць закону?***

— Падставы перш за ўсё матэрыяльныя. У Венгрыі 26 працэнтаў насельніцтва жывуць за мяжой беднасці (па мясцовых мерках — менш за 200 еўра). Для параўнання, у суседняй Славакіі такіх толькі 9 працэнтаў. Не дарма апазіцыя казала, што з-за праблемаў доступу да сеціва, новы закон прывядзе ў Венгрыі да масавай непісьменнасці. Апазіцыя таксама баялася, што новая мера зробіць інтэрнэт — асноўны канал яе агітацыі — менш даступным. Для ўсіх было відавочна, што грошы, атрыманыя з падатку на гігабайты, не выратуюць бюджэт і не дапамогуць праграме «інтэрнэтызацыі» Венгрыі. Увогуле, у механізме падрыхтоўкі закона было шмат незразумелага. Напрыклад, стала вядома, што ўрад не праводзіў кансультацый ні з адным з буйных правайдэраў. Узнікла падазрэнне, што гэта нейкая карупцыйная справа. Тым больш, што ў грамадстве не забыўся гучны леташні скандал, калі аднаго з намеснікаў Орбана злавілі на нямэтавым выкарыстанні бюджэтных сродкаў.

***— Лозунгі маніфестантаў выйшлі за патрабаванні адмены гэтага закону?***

— Несумненна. Інакш бы пратэсты не працягваліся і пасля таго, як 17 лістапада Орбан адклікаў законапраект да прызначаных на студзень кансультацый. Акрамя тэмы вольнага інтэрнэту, на вуліцы ўздымаюцца пытанні рэформы сістэмы падаткаў, цэнзуры, а таксама еўраінтэграцыі краіны. Пасля таго, як увесну дэпутаты знялі з будынку парламента сцяг ЕС і замянілі яго сцягам венгерскай меншасці ў Румыніі, сцяг Еўрасаюза стаў сімвалам апазіцыі. Людзі выступалі супраць магчымага геапалітычнага развароту Венгрыі ў бок Масквы. Падчас акцый узнікла ідэя стварэння новай палітычнай сілы, прыхільнікі якой згуртаваліся вакол хлопца, што каардынаваў пратэст праз Facebook. Аднак пакуль цяжка казаць, ці мае шанец гэты праект выйсці на нейкі сур'ёзны ўзровень. Ва ўмовах ізаляцыі СМІ гэта зрабіць няпроста.

***— Ці скарысталася пратэстамі парламенцкая апазіцыя?***

— Парадаксальна, аднак вялікіх гешэфтаў апазіцыі апошнія выступы не прынеслі, хаця шматлікія яе лідары прысутнічалі ў авангардзе маніфестацый. Магчыма, гэта звязана з тым, што якраз напярэдадні пратэстаў сярод апазіцыянераў пачаўся новы раскол: лібералы і сацыялісты вырашылі разарваць пакт, які яны заключылі ўвесну напярэдадні майскіх парламенцкіх выбараў. Акрамя таго, у парламенце прысутнічаюць Зялёныя, аднак іх уплыў на палітыку невялікі. Працу апазіцыі з электаратам ускладняе тое, што вельмі актуальныя антыкапіталістычныя лозунгі ў краіне эксплуатуе правconfigurationрадыкальная партыя «Jobbik», якая негалосна падтрымлівае Орбана.

***— Расійскія СМІ пішуць, што ў Будапешце адбываецца спроба арганізацыі мясцовага Майдану. Быццам, гэта помста Злучаных Штатаў Амерыкі за рашэнне Орбана даць зялёнае святло будаўніцтву праз тэрыторыю Венгрыі газаправода «Паўднёвы паток». Таксама шмат спекуляцый на факце ўвядзення Вашынгтонам санкцый супраць венгерскіх чыноўнікаў, якія, праўда, застаюцца ананімнымі.***

— Мяркую, сітуацыя больш складаная. Як мінімум таму, што адначасова з падтрымкай праекту «Паўднёвы паток» Будапешт падтрымаў пакет санкцый супраць Расіі. Прэса ўсё ж схіляецца да таго, што санкцыі Штатаў выкліканыя тым, што фіскальныя ведамствы пачалі праверку нейкіх амерыканскіх фірм у Венгрыі. Думаю, што Віктара Орбана трэба параўнаць не з Януковічам, а з турэцкім прэзідэнтам Таіпам Эрдаганам. Абодва палітыкі маюць аўтарытарныя памкненні, гуляюць на ксенафобскіх настроях, захапляюцца папулізмам. Але гэта не значыць, што яны збіраюцца прапанаваць нейкую сур'ёзную альтэрнатыву заходняму вектару. Канфрантацыя з не вельмі папулярнымі ў Венгрыі еўраструктурамі патрэбна Орбану выключна, каб выстаўляць сябе абаронцам нацыянальных інтарэсаў. Тым больш, што падтрымка Захаду з'яўляецца для Будапешта вельмі важнай для рэалізацыі прапанаваных урадам маштабных рэформ. Рэч ідзе аб так званай Дзяржаўнай рэформе–2, галоўнымі мэтамі якой абвешчаны стварэнне самага флексібільнага рынку ў ЕС, стабілізацыя падатковай сістэмы, развіццё транспартнай інфраструктуры. Пасля таго, як пералічаныя задачы будуць вырашаны, колькасць беспрацоўных, па словах Орбана, хуткімі тэмпамі пачне скарачацца. Дзеля гэтага шмат хто гатовы прабачыць Обрану яго аўтарытарныя выхадкі. У Венгрыі, паводле сацапытанняў, 72 працэнты людзей кажуць, што жывуць матэрыяльна горш, чым у часы сацыялізму.

***— Дэмакратычная грамадскасць шырока адзначыла 25-годдзе аксамітных рэвалюцый ва Усходняй Еўропе, якія пакончылі з мясцовымі сацыялістычнымі прамаскоўскімі рэжымамі. Як гэты юбілей уплывае на палітычны тонус усходніх еўрапейцаў?***

— Міф пра пратэсты 1989 года — вельмі важны для легітымнасці рэжымаў, якія ўзніклі на рэштках камунізму. Таму прэса надае шмат увагі юбілею. Гэта адраджае былую калектыўную веру ў здольнасць людзей рабіць гісторыю. Настальгія па 1989 годзе, безумоўна, спрыяе росту пратэстных настрояў. Прыклад гэтаму — сінхронныя па часе антыўрадавыя і антыкарупцыйныя пратэсты ў Чэхіі, Албаніі, Венгрыі. Напружаная цяпер сітуацыя ў Польшчы і Румыніі. З улікам таго, што падчас кожнага пратэсту ў сацыяльных медыя фармуецца нейкая сетка, здольная мабілізаваць людзей, мяркую, палітычная актывізацыя насельніцтва працягнецца. Тым больш, што сацыяльна-эканамічных падстаў для незадавальнення хапае.

## ЯНЫ ПРА НАС. ЗАМЕЖНАЯ ПРЭСА ПРА БЕЛАРУСЬ

Рэдакцыя «НьюсБалт» звяртае ўвагу чытачоў, што Літва не лічыць ганебным прымаць у сябе беларускіх апазіцыянераў, якія, абапіраючыся на фінансавую і дыпламатычную дапамогу Захаду, спрабуюць дэстабілізаваць сітуацыю ў Беларусі і пасадзіць у прэзідэнцкае крэсла празаходняга кандыдата. Літва выкарыстоўваецца як пляцоўка для падрыхтоўкі перавароту ў суседняй Беларусі.

**«НьюсБалт» (Расія)**

У Беларусі ў наяўнасці «мяккая беларусізацыя», у аснове якой ляжыць папулярызацыя мовы, а таксама выказванне знакаў павагі да вядомых замежных дзеячаў, у прыватнасці, палякаў і літоўцаў, якіх тут лічаць сваімі. У якасці прыкладу можна прывесці Віцебск. Там улады адмовіліся ад будаўніцтва помніка рускаму князю Аляксандру Неўскаму, якога лічаць сімвалам поспеху расійскай зброі, а наўзамен вырашылі паставіць помнік вялікаму князю літоўскаму Альгерду, якога ўспрымаюць як беларускага князя. Падобным чынам ацэньваюць гэта каментатары і ў Маскве. Яны выказваюць занепакоенасць сітуацыяй у Беларусі. Вядомы расійскі пісьменнік Захар Прылепін лічыць, што гэта пачынае нагадваць тое, што некалькі гадоў таму назад адбывалася на Украіне.

**«Gazeta Wyborcza» (Польшча)**

Занадта шмат сюрпрызаў апошнім часам прыносяць беларускія прадукты расійскім фітасанітарным і ветэрынарным службам. А гэта значыць, што на фоне санкцый беларускім прадпрыемствам з самых вярхоў дазволена гнаць аб'ёмы і не клапаціцца пра якасць, таму што цяпер саюзнік усё схавае, і трэба паспець зарабіць. Саюзніка ж, мяркуючы па ўсім, гэта стала раздражняць, і ён пачынае станавіцца ў позу. Пакуль млява, але ўсе расійска-беларускія гандлёвыя войны пачыналіся менавіта так: спачатку млява, а потым — з маршамі ды лозунгамі.

**«Новая газета» (Расія)**

Як любы шэры пасярэднік, Бацька працуе на два фронты: безыменныя цукеркі з Украіны і крэветкі з ЕС вязуць у РФ з беларускай маркіроўкай. Куды горш тое, што наша зброя можа апынуцца ў Расіі пад беларускім штрых-кодам. «Матор Січ» актыўна развівае сваё даччынае прадпрыемства на тэрыторыі Беларусі — Аршанскі авіярамонтны завод. Не выключана, што таксама з прыцэлам на павялічванне паставак у Расію. (Прадаваць прадукцыю ваеннага прызначэння з Украіны ў РФ зараз забараняе ўказ прэзідэнта Пятра Парашэнкі).

**«Деловая столица» (Украіна)**

Дзіўна, што Міхаіл Жызнеўскі не ўганараваны ад прэзідэнта Пятра Парашэнкі званнем Героя Украіны. Магчыма, ёсць нейкая дамоўленасць паміж Парашэнкам і Лукашэнкам наконт гэтага, паколькі Жызнеўскі — беларус па нацыянальнасці.

**«Багнет» (Украіна)**

Можна спасласца на меркаванне спецыялістаў з Сусветнага банка, які абнародаваў чарговы даклад з аналізам сітуацыі ў беларускай эканоміцы. Рост беларускай эканомікі будзе мінімальным у наступным годзе. У тым ліку і па прычыне крызісу, выкліканага канфліктам паміж Украінай і Расіяй. У 2014 годзе рост беларускага ВУП складзе 1,5%, у 2015-м — на ўзроўні 1,8%. Небяспеку эканоміцы нясе і намер уладаў утрымліваць курс беларускага рубля на фоне дэвальвацыі расійскай і ўкраінскай валюты.

**RFI (Францыя)**

Вельмі прывабнай выглядае сістэма Ўзброеных сіл Беларусі. Яна нагадвае сістэмы нейтральных краін. У іх ёсць армія рэзерву. Пры насельніцтве Беларусі каля 10 мільёнаў, усіх заклікаць на вайсковую службу немагчыма, столькі не трэба. А служба абавязковая. Таму ў іх праходзяць службу ў рэзерве 1–3 гады, у залежнасці ад адукацыі і спецыяльнасці. Гэта азначае, што чалавек застаецца на працы, але на працягу года даволі шмат часу знаходзіцца ў страявых частках, дзе праходзіць тэарэтычную і практычную падрыхтоўку. Для Украіны гэта было б ідэальным варыянтам.

**IBRA (Украіна)**

28 лістапада 2014 | № 45 (414) Новы Час

## МІЖНАРОДНЫЯ НАВІНЫ

### РАСІЯ. Суботнік дзеля Буды

Грамадскасць Калмыкіі вырашыла вярнуць на радзіму збор будысцкіх рэліквій, якія былі згублены ў 1940–1950-я гады. Гаворка пра прыкладна сто артэфактаў з будысцкіх храмаў, якія былі зачыненыя падчас масавай дэпартацыі калмыкаў у Сібір у 1940-я гады. Да шчасця, будысцкія рэліквіі не былі вывезены з краіны і ў выніку апынуліся ў руках аднаго з маскоўскіх калекцыянераў. Пасля яго смерці зборам будысцкіх рэліквій валодае яго дачка. Уладальніца калекцыі будысцкіх рэліквій гатовая прадаць яе за 5 мільёнаў долараў. Такую суму ўсім мірам калмыкі хочуць сабраць за два гады. Улады не выключаюць нават правядзення суботніка для збору сродкаў на выкуп народных каштоўнасцяў. Арганізатары праекта таксама маюць надзею на прыхільнікаў вучэння Буды за мяжой, якіх нямала і сярод зорак Галівуду. Таксама яны адзначаюць, што вяртанне ў Элісту рэліквій не толькі стане важнай падзеяй у жыцці рэспублікі, але і павялічыць яе турыстычную прывабнасць.

**Паводле расійскай прэсы**

### ГЕРМАНІЯ. Вегетарыянцам здрадзілі

У Гамбургу адбыліся партыйныя зборы нямецкіх Зялёных. Найбольшую ўвагу публікі прыцягнула рашэнне эколагаў выключыць са сваёй партыйнай праграмы ідэю дня V. Дзень V расшыфроўваецца як дзень вегетарыянца. На думку Зялёных, такі дзень мусіў прысутнічаць у графіку працы кожнай кулінарнай установы Германіі. За кошт дня V, які мусіў праходзіць кожны чацвер, партыя намагалася часткова вырашыць праблему атлусцення сярод немцаў, прапагандаваць здаровы лад жыцця. Дэбаты вакол дня V сталі адной з цэнтральных тэмаў на выбарах 2013 года. Правыя заявілі, што Зялёныя — крыптакамуністы, паколькі намагаюцца вырашаць за людзей, што і як ім спажываць. Жоўтая прэса ахвотна называла Зялёных «партыяй забароны». Цяжка сказаць, наколькі гэта паўплывала на выніку галасавання, аднак Зялёныя вырашылі адмовіцца ад папярэдняй ідэі, пагадзіўшыся, што адмова ад мяса павінна быць добраахвотным свядомым выбарам. Праўда, на зборах Зялёных прагучалі прапановы зрабіць фішкай партыі барацьбу супраць няякаснай дзіцячай ежы.

**Паводле нямецкай прэсы**

### ВЕНЕСУЭЛА. Уга Чавес стаў героем балету



Напрыканцы лістапада ў Нацыянальным тэатры Каракасу адбылася прэм'ера балетнай пастаноўкі «Гісторыя пра тое, як вулічны гандляр стаў вызваліцелем». У аснове сюжэту балету біяграфія Уга Чавеса. У першых сцэнах, актор, які выконвае ролю Чавеса, увасабляе вулічнага гандляра, у апошніх — лідара нацыі, бацькі народу. Эпічны твор выконваецца не толькі ў жанры балету. Таксама на сцэне ёсць цыркавыя нумары і відэа-арт. Усяго для пастаноўкі балета пра Чавеса прыцягнулі каля 40 артыстаў. Тое, што пастаноўку спансіраваў урад краіны, сведчыць пра намер новага прэзідэнта Мадуры і далей эксплуатаваць вобраз Чавеса. Апошнім часам вакол яго створаны сапраўдны культ, які кампенсуе адсутнасць харызмы і аўтарытэту ў Мадуры.

**Паводле брытанскай прэсы**

### АРМЕНІЯ. Хто паедзе на алімпіяду ў Баку?

Армянскія Алімпійскі камітэт прызнаўся, што армянскія спартсмены не могуць прыняць рашэнне, ці ехаць ім на летнія Еўрапейскія алімпійскія гульні 2015 года, якія прымае Азербайджан. Адносіны паміж Арменіяй і Азербайджанам і так нельга назваць добрымі, а пасля вайсковага інцыдэнту ўлетку яны сталі яшчэ больш напружанымі. 20 лістапада ў Баку па выніках пасяджэння прэзідэнт Еўрапейскага алімпійскага камітэта заявіў, што армянскія спартоўцы абавязкова прымуць удзел у першых Еўрапейскіх гульнях. Улада Баку таксама гарантавала ім поўную бяспеку. Між тым, такія гарантыі не супакоілі армянскіх атлетаў. Як піша прэса, падчас гульняў магчымыя інцыдэнты з фанатамі, якія непадкантрольныя алімпійскім чыноўнікам. Праўда, шэраг спартсменаў гатовыя паехаць толькі дзеля таго, каб узняць у Баку армянскі сцяг. Прэса таксама піша, што падчас алімпіяды азербайджанцы могуць пратэставаць не столькі супраць прысутнасці армян, колькі супраць сваіх уладаў. Кошт бакінскай алімпіяды амаль 8 мільярдаў долараў, што абсалютна не падабаецца мясцовым падаткаплацельшчыкам.

**Паводле армянскай прэсы**

# Ангольцы захапілі Партугалію

*Алег НОВІКАЎ*



(c)Alex Mezhov

**Доўгі час жыхары Анголы лічылі за шчасце трапіць у Партугалію, хаця сама краіна выглядала хутчэй як фінансавая калонія больш развітых еўрапейскіх дзяржаў, а партугальскіх гастарбайтераў яшчэ нядаўна можна было лёгка сустрэць у розных кутках старога кантыненту.**

Для ангольцаў нават такая не вельмі багатая еўрапейская перыферыя падавалася сапраўднай Меккай. Сюды ехалі працаваць, вучыцца, будаваць кар'еры, займацца мастацтвам.

Але цяпер эміграцыя з Анголы мае абсалютна іншы выгляд. Калі раней ангольцы ехалі ў Партугалію зарабляць грошы, то цяпер яны едуць пазбаўляцца ад іх. Заможныя ангольцы становяцца інвестарамі Партугаліі.

Безумоўна, галоўным каталізатарам гэтага працэсу стала заканчэнне ў Анголе ў 2002 годзе 27-гадовай грамадзянскай вайны. Кампраміс паміж ваенна-палітычнымі блокамі дазволіў закласці нейкія асновы прававых адносін, пачаць рэканструкцыю інфраструктуры і, канешне ж, эксплуатацыю карысных выкапняў. Апошняе стала рухавіком першапачатковага накаплення капіталу. У прэсе краіну нават пачалі метафарычна называць Ангола Эль Дарада. Толькі ў сферы здабычы нафты Ангола займае трэцяе месца ў Афрыцы. Яе ВУП дасягае 10 працэнтаў штогод. І гэта яшчэ толькі пачатак — па запасах рэсурсаў Ангола, калі верыць апошнім дадзеным геолагаў, не саступае Бразіліі.

Эканамічны бум імкліва спарадзіў мясцовых алігархаў, якія моцна звязаныя з палітыкумам, што вельмі часта мае за спінай камуністычнае мінулае. Магчыма, выключна з-за павагі да СССР, які ўкладаў грошы ў камуністычную партызанку, тыя палітыкі вядуць адносна сціплы лад жыцця. Затое іх дзеці адрываюцца напоўніцу.

Сімвалам гэтай генерацыі ангольцаў стала Ізабель душ Сантуш — старэйшая дачка цяперашняга прэзідэнта Анголы Жазэ Эдуарду душ Сантуша (дарэчы, яна нарадзілася ў 1973 годзе ў Баку, калі ў яе бацькі быў раман з савецкай грамадзянкай Таццянай Куканавай, ураджэнкай Пензы). Сёння Ізабэль з'яўляецца першай жанчынай-мільярдэрам у Афрыцы. Яе імперыя ахоплівае банкаўскі, фінансавы, будаўнічы і іншыя сектары па ўсім свеце. Аднак, як і ў іншых «новых ангольцаў», у яе ёсць бзік — інвеставаць у Партугалію. Не выпадковы яе інтарэс да партугальскай нацыянальнай тэлекампаніі, за якую Ізабэль гатова выкласці паўтара мільярда еўра.

Можаце лічыць гэта сімвалічнай помстай партугальцам, таму што цяпер усё больш партугальскіх фірмаў атрымліваюць чарнаскурых дырэктараў і ўладальнікаў. Рубежным лічыцца 2008 год, калі адна з ангольскіх кампаній набыла найбольш славуты партугальскі банк «Millennium». Сёння каля 5 працэнтаў партугальскага банкаўскага сектару належаць выхадцам з Анголы.

Экспансіі ангольскага бізнесу спрыяў фінансавы крызіс, які пачаўся прыкладна ў той жа час, калі быў прададзены «Millennium». Партугальскія банкі лопаліся адзін за адным, прымушаючы ўкладчыкаў шукаць бяспечнае месца для дэпазітаў. Такой бяспечнай лагунай аказаўся «Millennium», які лёгка стрымаў калізіі рынкавай стыхіі за кошт рэкапіталізацыі, сродкі на якую былі прыцягнутыя з Анголы. Крызіс дапамог яшчэ шэрагу ангольскіх кампаній лёгка ўвайсці на партугальскі рынак, набыўшы банкі-банкруты.

Калі ангольскія інвестыцыі толькі пачыналіся, партугальскае грамадства і ўлада віталі іх. Паступова, аднак, на гэту з'яву пачалі глядзець больш цвяроза.

Але адразу трэба адкінуць тэзіс мясцовых правых радыкалаў пра тое, што прыход ангольцаў нясе пагрозу беламу чалавеку і яго культурным традыцыям. Як сведчыць статыстыка, аматараў змяніць ангольскую прапіску на партугальскую апошнімі гадамі становіцца ўсё менш. Абыякавасць афрыканцаў да Партугаліі цалкам зразумелая з улікам таго, што краіна па-ранейшаму знаходзіцца ў рэцэсіі, спадарожнікам якой з'яўляецца высокае беспрацоўе (12–13 працэнтаў). Тут хутчэй назіраецца адваротная тэндэнцыя: калі ў 2013-м у Анголе пражывала каля 20 тысяч партугальцаў, то цяпер іх ужо пад 200 тысяч.

Партугальцы, хутчэй за ўсё, заклапочаныя тым, якія наступствы можа мець афрыканская бізнес-экспансія для нормаў мясцовай карпаратыўнай культуры. Арганізацыя «Transparency International» называе Анголу адной з самых карумпаваных краін у свеце. Не дзіўна, што партугальскія банкі з ангольскім капіталам усё часцей падазраюць у махінацыях па адмыванні грошай, якія былі зароблены ў Афрыцы сумнеўным шляхам. Відавочна, што сродкі ў партугальскіх банках — гэта выкрадзеная прыродная рэнта, без справядлівага размеркавання якой Ангола застанецца перыферыйнай, адсталай краінай.

Партугальская Феміда шмат разоў спрабавала капаць пад ангольскія фінансавыя ўстановы, выклікаючы крытыку Луанды. Напрыклад, не так даўно, пасля таго, як пракуратура зацікавілася некаторымі рахункамі ў ангольскіх банках Партугаліі, сам прэзідэнт душ Сантуш даў зразумець, што яго краіна можа перагледзець партнёрскі фармат адносін з Лісабонам на карысць новых партнёраў у Азіі або Бразіліі. У выніку следства спусцілі на тармазах.

Мяркуючы па ўсім, да заканчэння крызісу грамадскасць Партугаліі не жадае канфліктаваць з «новымі ангольцамі». Для шматлікіх партугальскіх фірм замовы ад ураду Анголы — гэта рэальны шанс выжыць у крызісныя часы.

Квінтэсенцыяй стаўлення партугальцаў да «новых ангольцаў» сталі словы партугальца, уладальніка рэстарана ў Луандзе, якога цытуе часопіс «The Economist»: «З улікам таго, што Ангола — галоўны інвестар у Партугалію, я не думаю, што мы павінны пытаца ў кліентаў, дзе яны зарабілі грошы, каб набыць гэты ланч». На цяперашні дзень у розных праграмах ангольскага ўраду працуюць каля 500 фірмаў-падрадчыкаў з Партугаліі. Усяго партугальскі сегмент сярод замежных фірм у Анголе складае каля 34 працэнтаў (на другім месцы кітайцы — 18,8%).

Між тым, некаторыя эканамісты прагназуюць, што падобны сцэнар можа мець месца ў Іспаніі. Іспанцаў у такім выпадку будуць эксплуатаваць перуанцы або калумбійцы.

# Дзень прэзідэнта–3

Алег НОВІКАЎ

**Першага снежня Казахстан у трэці раз на афіцыйным узроўні святкуе Дзень прэзідэнта. Калі ўзгадаць, у што выліліся святочныя мерапрыемствы ў мінулым годзе, можна чакаць новых прарываў у станаўленні культу Назарбаева.**




У мінулым годзе, нагадаем, у Астане больш за 3 тысячы студэнтаў масава прызнаваліся ў любові да кіраўніка дзяржавы, пабудаваўшы сваімі целамі велізарную лічбу «1», якая сімвалізуе Дзень першага прэзідэнта. Флэшмоб арганізавала Упраўленне моладзевай палітыкі горада. Па словах яго прадстаўніка, «чыноўнікі нікога не прымушалі, прызнанне было добраахвотным». Таксама «добраахвотна» амаль кожны сталічны студэнт пакінуў 1 снежня ў сябе на старонцы ў сацыяльных сетках каментар з падзякай прэзідэнту за яго працу.

Але Астану пераплюнула Паўночна-Казахстанская вобласць. Там у адным з адміністрацыйных цэнтраў у гонар Елбасы (афіцыйны тытул Назарбаева, што значыць «лідар нацыі») адкрылі новы ўчастковы пункт паліцыі.

Гэтым разам 1 снежня, мяркуючы па ўсім, чакаюцца не менш маштабныя падзеі. Пакуль кіраўнік дзяржавы, паводле яго прэс-службы, атрымлівае вялікую колькасць віншаванняў (у тых віншаваннях падкрэсліваецца роля Першага прэзідэнта ў міжнароднай палітыцы і дынамічным развіцці Казахстана, дзякуючы чаму рэспубліка рэалізавала свой патэнцыял, стала квітнеючай краінай) чыноўнікі ламаюць галаву, думаючы, як лепш зрабіць залікоўы «заліз».

Напрыклад, дэпутат парламенту Розакул Халмуразаў агучыў запыт на імя прэм'ер-міністра краіны Карыма Масімава, у якім адзначаў, што з пачаткам снежня ў краіне пачынаецца маштабная падрыхтоўка да святкавання Новага года: на будынкі вывешваюцца віншавальныя плакаты, усталёўваюцца ўпрыгожаныя елкі, уздоўж дарог іскрацца святочныя агеньчыкі. «Але да першага студзеня наша краіна адзначае іншае вялікае свята — Дзень першага прэзідэнта, пра які інфармацыю ўбачыць практычна немагчыма. Дзень першага прэзідэнта застаецца ў цені Новага года. Калі мы — народ, то ў першую чаргу павінны надаць увагу гэтаму вялікаму святу», — падкрэсліў дэпутат і прапанаваў Карыму Масімаву ўвесці разумнае абмежаванне на падрыхтоўку да Новага года і на ўрадавым узроўні праводзіць поўнамаштабную падрыхтоўку да Дня першага прэзідэнта.

Відаць, у апараце ўраду зрабілі высновы з ліста Халмуразава. 1 снежня ў рамках святочных мерапрыемстваў, прысвечаных Дню першага прэзідэнта, чакаецца ўдзел прэзідэнта Казахстана ў цырымоніі запальвання галоўнай навагодняй ялінкі.

**Большасць казахаў задаволеныя тым, што ў календары 1 снежня пазначанае чырвоным колерам — людзі атрымліваюць шанец адпачыць**

Праўда, большасць казахстанскіх чыноўнікаў не прыдумляюць веласіпед. У ход ідуць старыя прыёмы культу савецкіх правадыроў. Напрыклад, вельмі папулярны пошук людзей, якія па жыцці хоць неяк перасякаліся з Нурсултанам. Такіх людзей знаходзяць, каб 1 снежня калектыўна выслухаць іх успаміны пра сустрэчы з будучым гарантам, падчас якіх Назарбаеў дэманстраваў выбітныя якасці геніяльнай асобы. Вось тыповы фрагмент мемуараў аднаго з аднакласнікаў Елбасы: «Мы з дзяцінства дапамагалі бацькам касіць сена, капаць бульбу. І калі хто-небудзь з нас нядобрасумленна збіраў бульбу, шмат пакідаў, Нурсултан разграбаў зямлю рукамі, выцягваў адтуль пакінутую бульбу і казаў: «Ты чаму не да канца збіраеш?».

Звычайна ў выніку такіх успамінаў адкрываюцца невядомыя старонкі біяграфіі Елбасы. Напрыклад, цяпер высветлілася, што ў піянеры маленькага Нурсултана прынялі не ў трэцім класе, як усіх савецкіх школьнікаў, а ў другім за экстрадобрыя паводзіны.

Асацыяцыі з савецкімі часамі яшчэ больш відавочныя, калі пачытаць тэматычныя матэрыялы на сайце казахскага Міндукацыі, якія рэкамендаваныя для арганізацыі класных гадзінаў (такія класныя гадзіны мусяць адбыцца ў кожнай казахскай школе напярэдадні 1 снежня). Акрамя ўсяго дзеці павінны засубрыць наступныя звесткі: «Ён выйшаў з народа. Нурсултан Назарбаеў вырас у простай сельскай сям'і і добра знаёмы з патрэбамі простых людзей. Усе сацыяльна-эканамічныя рэформы ў краіне праводзяцца ў інтарэсах народа. У кожнай працоўнай паездцы па рэгіёнах Нурсултан Назарбаеў знаходзіць час для кантактаў з простымі грамадзянамі краіны».

Аднак ёсць у працы з моладдзю і ноў-хаў. Адной з галоўных падзей 1 снежня будзе ўдзел гаранта ў адкрыцці чэмпіянату свету па варкауту — адной з разнавіднасцяў масавых фізкультурных заняткаў, якая складаецца з выканання розных практыкаванняў на вулічных спортпляцоўках. Калі верыць пастам у сацыяльных сетках, арганізацыя турніру займаецца асабіста прэм'ер, а маштабы акцыі ўражваюць. Напрыклад, урад аплачвае ўсім удзельнікам пералёт туды і назад, хоць некаторыя квіткі каштуюць пад 10,000$. Атлеты будуць жыць у элітным гатэлі. Сілкаванне і пражыванне таксама аплачвае дзяржава.

«Усё, што табе засталося, — гэта аформіць візу, сабраць рэчы пацыплей, падрыхтавацца да выступу. Але памятай — гэта чэмпіянат свету, заяўкі падалі 75 краін, і ты будзеш выступаць перад вышэйшым кіраўніцтвам краіны, а гледачоў будзе каля 10 000... Гэта сапраўдны чэмпіянат свету. Ты павінен гэта разумець — гэта вялікая адказнасць. Табе выпаў шанец увайсці ў гісторыю», — гаворыцца ў рэкламнай аб'яве вярбоўкі ўдзельнікаў чэмпіянату, якая гуляе па сецціве.

Трэба прызнаць, што абсалютная большасць казахаў задаволеныя тым, што ў календары 1 снежня пазначанае чырвоным колерам — людзі атрымліваюць шанец адпачыць на дзень больш, а ў гэтым годзе ў Казахстане будуць адпачываць аж тры дні.

На фоне растучай нестабільнасці ў свеце Дзень прэзідэнта агаляе ахілесаву пяту казахскай мадэлі — моцна цэнтралізаваная сістэма ўлады ў Казахстане цалкам арыентаваная на канкрэтную асобу. Чым больш яе ўсхваляюць, тым больш не зразумела, як дзяржаўныя і грамадскія інстытуты будуць здольныя працаваць у выпадку адсутнасці Назарбаева, забяспечыўшы перш за ўсё механізм пераемнасці ўлады. Таму на гэты раз Дзень прэзідэнта ў Казахстане — трошкі сумнае свята.

## ПАЛІТЫКІ ТЫДНЯ

### Фрэнк Стронах



Канадска-аўстрыйскі алігарх, які пару гадоў таму стварыў у Аўстрыі партыю «Team Stronach», днямі вярнуўся ў Вену, каб... прадаць сваю партыю. Аднак фракцыя ў парламенце (партыя атрымала 12 мандатаў) узняла бунт. Тады алігарх вырашыў выключыць кіраўніка фракцыі Катрын Нахбаур са сваёй партыі і адхіліў ад кіраўніцтва сваёй фірмай (амаль усе дэпутаты «Team Stronach» з'яўляюцца менеджэрамі фірмы Фрэнка). Аднак 35-гадовая Катрын аказалася моцным арэшкам і ўсё роўна адмовілася пакідаць пасаду кіраўніка парламенцкай фракцыі. Узнік юрыдычны прэцэдэнт, калі старшыня фракцыі не з'яўляецца сябрам партыі, якую прадстаўляе фракцыя. Цяпер фракцыя намагаецца давесці, што яна — асобны прававы суб'ект і можа не падпарадкоўвацца партыі. Самае цікавае, што Катрын гатовая пайсці з парламенту, калі алігарх выдасць ёй 900 тысяч еўра. Яшчэ больш скандальнасці гэтай гісторыі надае цяжарнасць Катрын, вакол якой шмат спекуляцый. Застаецца дадаць, што рэйтынг «Team Stronach» на фоне гэтага скандалу рэзка знізіўся.

### Клаус Ёханіс



Першае, чым заняўся новы прэзідэнт Румыніі пасля абрання, стала Малдова. Ёханіс накіраваўся ў Кішынёў, каб падтрымаць на выбарах мясцовых ліберал-дэмакратаў — галоўную праеўрапейскую партыю. Візіт можа быць вельмі важным для выніку галасавання, якое вызначыць будучы лёс краіны. Блок праеўрапейскіх партый можа не набраць большасці ў парламенце, што фактычна затармозіць працэс інтэграцыі з ЕС. Дадае пікантнасці і гатоўнасць усіх партый да радыкальных учынкаў. Так, дэмакратычная партыя абяцае новы Майдан у выпадку паразы. Але нават калі гэтага не адбудзецца, эскалацыя забяспечаная, паколькі 1 снежня прарумынскія палітычныя сілы маюць намер шырока адзначыць нацыянальнае свята Румыніі — Дзень аб'яднання з Бесарабіяй. У сваю чаргу, Расія вуснамі Рагозіна заявіла, што можа не прызнаць легітымнасць выбараў з-за парушэння правоў прамаскоўскіх партый. Палітолагі баяцца, што эскалацыя можа выклікаць дэстабілізацыю ва ўсім рэгіёне і можа прывесці нават да абвяшчэння на базе Гагаузіі і Прыднястроўя незалежнай Бесарабскай рэспублікі.

### Андрыс Берзіньш



Прэзідэнт Латвіі прапанаваў палітычную рэформу ў краіне. Пакуль у прапанаваным прэзідэнтам законапраекце агучаны два пункты: павелічэнне мінімальна неабходнай колькасці заснавальнікаў партыі да 500 грамадзян і патрабаванне ўмовы, пры якой падаваць спісы кандыдатаў у дэпутаты Сейма могуць толькі тыя партыі, якія былі заснаваныя за год да парламенцкіх выбараў. У дадзены момант для рэгістрацыі партыі неабходна мінімум 200 грамадзян Латвіі. А ў краіне зарэгістравана 75 палітычных партыяў ці аб'яднанняў. Жаданне прэзідэнта абмежаваць удзел у парламенцкіх выбарах новых партый, зарэгістраваных менш чым за год, цалкам зразумелае. Практычна перад кожнымі выбарамі ў Сейм у Латвіі з'яўлялася новая партыя, якая прываблівае выбаршчыкаў гучнымі папулісцкімі лозунгамі і акцыямі (накшталт раздачы бананаў), і дзякуючы гэтаму трапляе ў парламент. Новая рэформа не пагражае вядучым партыям, а вось рэгіянальным прыйдзецца цяжка.

# Заходнебеларускі паэт



Сяргей ЧЫГРЫН

**На старонках беларускіх віленскіх выданняў 1920–1930-х гадоў шмат друкавалася аўтараў пад рознымі псеўданімамі і крыптанімамі, сапраўдныя прозвішчы якіх да сённяшніх дзён застаюцца нам не вядомымі.**

Гэта дзясяткі паэтаў, празаікаў, простых карэспандэнтаў з розных рэгіёнаў былой Заходняй Беларусі, якія дасылалі навіны са сваіх вёсак, мястэчак, гарадоў.

Але, як кажуць, нішто нікуды не знікае. Не знікла і творчасць заходнебеларускага паэта Язэпа Вількоўскага. Гэта яго дзясяткі лірычных вершаў і розных баек друкаваліся ў віленскіх календарах, калектыўных зборніках, у часопісах «Шлях моладзі», «Нёман» і іншых.

Пад сваімі творамі ён рэдка ставіў уласнае прозвішча — Язэп Вількоўскі. Часцей за ўсё ён падпісваўся Язэп Вількоўшчык, Я. Вількоўшчык, Vilkouscyk J., Vilkoscyk Jazep, J.V., Я.В.

Янка Саламевіч у сваім «Слоўніку беларускіх псеўданімаў і крыптанімаў (XVI–XX стст.)» прыгадвае, што Язэп Вількоўскі друкаваў у часопісе «Шлях моладзі» ў 1933 годзе свае творы пад псеўданімамі Vilkouscyk J., Vilkoscyk Jazep. Дык хто ж такі Язэп Вількоўшчык?

## Сустрэча з Вількоўскімі

Гісторык і журналіст Сяргей Ёрш мне раіў: «Магчыма, ён родам з вёскі Варонічы Слонімскага павета. Пашукай на Слонімшчыне яго сляды, усіх Вількоўскіх апытай». І я наведаў вёску Варонічы, суседнія вёскі, але там Вількоўскіх няма, і ніхто Язэпа Вількоўскага са старэйшых жыхароў не памятае.

А вось у Слоніме на адну сям'ю Вількоўскіх патрапіць удалося. Ірына Аляксееўна Вількоўская нядаўна яшчэ працавала настаўніцай матэматыкі ў СШ № 4 Слоніма, цяпер на пенсіі. На маё пытанне, ці мае якое дачыненне Язэп Вількоўскі да яе сям'і, жанчына ўпэўнена адказала, што гэта бацька яе мужа Андрэя Вількоўскага.

Я, зразумела, завітаў у вялікі дом Вількоўскіх на вуліцы Загараднай. Мы гутарылі некалькі гадзін. «Тое, што бацька пісаў байкі, я ведаў, але што ён актыўна друкаваўся ў даваенных віленскіх выданнях, я нічога не чуў, — расказаў Андрэй Вількоўскі. — Ды і бацька мне пра гэта не казаў. Ён быў маўклівы. У вольны час нешта пісаў. А што пісаў — мы не цікавіліся.

Ён вельмі шмат чытаў: беларускую, рускую, польскую літаратуру, меў вялікую бібліятэку класічнай літаратуры. Ён з мамай жыў побач з нашым домам. Там былі ўсе яго архівы і бібліятэка. А калі бацькі, а потым маці не стала — мы гэты дом прадалі. Сёе-тое забралі сабе, астатнія паперы, здымкі, кнігі не перавозілі, не забіралі — усё засталося там, і гэтым усім распарадзіліся новыя гаспадары», — адразу расчараваў мяне Андрэй Вількоўскі.

Да нашай размовы далучыліся і Ірына Вількоўская, а потым іх дачка Вольга. Жанчыны паказалі некалькі старых пажаўцелых ад часу дакументаў, сярод іх і «Выпіска з працоўнай кніжкі» Язэпа Вількоўскага, пачынаючы з 1944 года, а таксама фотаздымкі і некалькі карцін. «Свёкар быў вельмі адукаваным чалавекам, шчырым, паважаным, — пачала ўспамінаць Ірына Вількоўская. — Андрэй — яго адзіны сын».

«Мой дзядуля яшчэ добра маляваў карціны, перамалёўваў творы іншых мастакоў. Але з часам усё знікла: некалькі карцін яго ўкралі, іншыя ён падараваў сябрам і знаёмым. А яшчэ мне дзед казаў, што ён дзесьці закапаў клад. Але што там ён закапаў і дзе — я не ведаю, і мама з татам таксама не ведаюць», — прызналася Вольга.



Язэп Вількоўскі. Мастак Г. Саўчук. 1940 г.

Магчыма, той клад захоўвае пісьмы ад Янкі Купалы, Якуба Коласа, Гальяша Леўчыка, Наталлі Арсенневай, Янкі Багдановіча, Язэпа Найдзюка.

А магчыма, Язэп Вількоўскі закапаў і сапраўдны скарб манет. Справа ў тым, што ў 1935 годзе ён для Віленскага музея Беларускага інстытута гаспадаркі і культуры падараваў шмат манет, старых выданняў і фотаздымкаў. Нават атрымаў падзяку. Гэта падзяка была апублікавана ў «Беларускай крыніцы» 25 ліпеня 1935 года ў № 29: «Падзяка. Грам-ну Яз. Вількоўскаму ў Слоніме за дараваныя для Музэю Беларускага Інстытуту Гаспадаркі і Культуры: 1. Калекцыю 24-х медзяных і сярэбраных, старадаўных і навейшых манэт. 2. Калекцыю папяровых грошаў. 3. Экзэмпляр «Беларускага Слова» № 16 з дня 22 кастрычніка, 1920 г. Горадня. 4. Экзэмпляр час. «Mlody Literat» і альбом — шчыра дзякуе Цэнтральны Ўрад БІГК». Так што невядома, што і дзе закапаў беларускі паэт і калекцыянер.



Марыя Вількоўская (Галуза) — жонка Язэпа Вількоўскага

Падчас першай сустрэчы я паказаў Вількоўскім старыя часопісы «Шлях моладзі» за 1930-я гады з вершамі іх бацькі і дзядулі. Пад некаторымі вершамі стаяла дата і месца напісання — Слонім. Мы дамовіліся, што Вількоўскія перагледзяць усе свае хатнія архівы, завітаюць да тых людзей, каму прадалі бацькаву хату, а раптам штосьці там засталося з рукапісаў, з пісем, са старых віленскіх выданняў…

## З біяграфіі Язэпа Вількоўшчыка

Язэп Вількоўшчык (Вількоўскі Іосіф Андрэевіч) нарадзіўся 19 лістапада 1898 года ў вёсцы Варонічы Слонімскага павета. У сям'і Вількоўскіх было яшчэ чатыры сястры і брат, але брат загінуў у Першую сусветную вайну. Маці даглядала дзяцей, а таксама дапамагала мужу, які трымаў невялікую краму. Усім адукацыю Вількоўскія даць не маглі, таму найбольш хваляваліся за сына Язэпа, які хацеў вучыцца.

Калі пачалася Першая сусветная вайна, рускія казакі выгналі сям'ю Вількоўскіх, як і тысячы іншых беларусаў, углыб Расіі. Вількоўскія трапілі ў Казанскую губерню. Там Язэп скончыў школу і паступіў у Казанскі медыцынскі інстытут. Сродкаў на вучобу і пражыванне не хапала, таму юнак то падпрацоўваў грузчыкам, то па-мастацку распісваў сувеніры, то пісаў плакаты і афармляў стэнды.

Напачатку 1920-х сям'я Вількоўскіх вырашыла вярнуцца на Бацькаўшчыну. Язэп пакінуў мединстытут і з бацькамі вярнуўся на Слонімшчыну.

Ён шмат чытаў, спрабаваў сам пісаць вершы і байкі на рускай мове. У 1927 годзе адзін з вершаў па-руску ён адправіў у «Беларускую крыніцу». І атрымаў адказ: «Працы Вашай, на жаль, не надрукуем, бо яна напісана па-расейску. Прабуйце пісаць па-беларуску. Пішыце, што ў Вас чуваць? Верш дужа слабы і да друку не падойдзе».

Сядзець склаўшы рукі на Слонімшчыне юнак не хацеў, таму паехаў у Вільню, дзе скончыў бухгалтарскія курсы. Падчас вучобы Язэп пазнаёміўся з беларускімі выданнямі, з творчай беларускай інтэлігенцыяй. Магчыма, пасля курсаў ён пэўны час працаваў бухгалтарам у Вільні. Зноў спрабаваў пісаць, але ўжо на роднай мове.

У пачатку 1930 гадоў Язэп Вількоўскі вярнуўся на Слонімшчыну, дзе пазнаёміўся з творчымі людзьмі — літаратарамі, мастакамі, музыкантамі. Як пісаў мне Сяргей Хмара, у 1937 годзе ў Дзятлаве была створана літаратурная суполка «Маладая Ускалось». На першым з'ездзе прысутнічалі Аляксандр Бяленка, Алена Лябецкая, Алесь Крыга, Язэп Вількоўшчык і іншыя. У кнізе «Рабінавы хмель», выдадзенай у Мінску ў 2009 г., Сяргей Хмара паведамляе, што пасля вайны Язэп Вількоўшчык быў знішчаны супрацоўнікамі КДБ. Аказваецца, не. Язэпа Вількоўшчыка сталінскія рэпрэсіі мінулі.

Перад Другой сусветнай вайной сям'я Вількоўскіх пераехала ў Слонім. Дзе працаваў Язэп Вількоўскі перад вайной і падчас акупацыі — невядома. Але ў кастрычніку 1944 года, згодна «Выпісцы з працоўнай кніжкі», ён уладкаваўся на 9-ю дыстанцыю службовага пуці станцыі Слонім — Брэст-Літоўскі на пасаду бухгалтара канторы. Да гэтай пасады ён меў ужо працоўны стаж 14 гадоў і два месяцы. На чыгуначнай станцыі Слонім Язэп Вількоўскі адпрацаваў 7 гадоў і даслужыўся да намесніка начальніка па кадрах. Потым працаваў бухгалтарам на Слонімскім лесазаводзе, у Слонімскай арцелі «Вторпром», потым зноў на чыгунцы, адкуль і пайшоў на пенсію.

Па ўспамінах Андрэя Вількоўскага, на пенсіі бацька займаўся гаспадаркай. Вельмі любіў гуляць у шахматы са сваім сябрам Ігнатовічам. Выпісваў шмат газет і часопісаў, адгадваў розныя шахматныя камбінацыі і дасылаў у рэдакцыі газет.



Язэп Вількоўскі (злева крайні) з бацькам, маці, сястрой і пляменніцай у Слоніме, 1930 г.

# Язэп Вількоўшчык

Пражыў Язэп Вількоўшчык 86 гадоў, яго не стала 18 сакавіка 1984 года. Пахавалі паэта на слонімскіх гарадскіх могілках.

### Творчасць Язэпа Вількоўшчыка

Свае паэтычныя творы Язэп Вількоўшчык пачаў друкаваць у заходнебеларускіх выданнях у пачатку 1930 гадоў. Асабліва плённымі для яго былі 1932–1934 гады. Напрыклад, часопісы «Нёман» і «Шлях моладзі» не паспявалі ўсё дасланае ім друкаваць.

Слонімскі аўтар нават выказваў у пісьмах сваю крыўду. Рэдакцыі выданняў яго супакойвалі і шчыра адказвалі яму: «За пажаданні для часопісу і прысланыя вершы дзякуем. Прысылайце болей. Талент паэтычны маеце. Працуйце болей над тэхнікай» («Нёман», 1932, № 3). «Пісьмы і матэрыялы атрымалі, шчыра дзякуем, падробнасці будуць у пісьме, якое ў хуткім часе вышлем» («Шлях моладзі», 1933, №2). «Перапрашаем, што з прычыны нястачы месца ў гэтым нумары не змаглі мы нічога даць з Вашых твораў» («Шлях моладзі», 1934, № 2).

Найперш хваляваў паэта Язэпа Вількоўшчыка лёс роднай Бацькаўшчыны, якой ён спяваў «сумныя песні», бо перажываў за матку-Айчыну, якую «сэрцам кахаў». Лёс тых, хто змагаўся за Радзіму, і за гэта «пайшоў у турму». І разам з тым лёс простых людзей, што жылі і працавалі з ім побач. Маладых жа паэтаў заклікаў у «край адраджэння, свабоды для ўсіх».

Пісаў заходнебеларускі паэт і байкі. Мажліва, яны ў яго нават атрымліваліся лепш за лірычныя вершы.

Трэба адзначыць, што амаль кожная байка Язэпа Вількоўшчыка настоена на «зёлках» іншых твораў. За прыклад можна ўзяць байку «Цыган і воўк», якая з’яўляецца кантамінацыяй вядомай беларускай народнай казкі «Лёгкі хлеб» і народнай прыказкі «Галоднаму хлеб толькі ўночы сніцца». Язэп Вількоўшчык замяняе беларускага селяніна цыганом-злодзеем, які прапаноўвае ваўку вырошчваць хлеб і жыць як людзі. Цыган, пералічыўшы ўсе бар’еры, праз якія прыйдзецца прайсці, сам разумее нерэальнасць сваіх парад. Яны разыходзяцца, такім чынам яшчэ раз пацвердзіўшы мараль-прыказку. Гэтая байка магла стаць донарам пазнейшых баек-казак, напрыклад, «Жук і слімак» Максіма Танка.

Язэп Вількоўшчык паказаў сябе таксама як перастваральнік баек іншых пісьменнікаў: яго твор «Воўк і авечкі» мае асновай байку Францішка Багушэвіча «Воўк і авечка», а «Воўк у сяле» — байку Івана Крылова «Волк на псарне». Але ў першай байцы пісьменнік поўнасцю змяняе сюжэт, пры гэтым пакінуўшы мараль амаль сугучную:

Прапала бы і два... і ўсе б яны прапалі
Каб воўка пастухі па скуры не пазналі.
Я. Вількоўшчык

Ды скінь скуру дабрадзею,
Бо зубкі відаць.
А авечка, хоць дурная,
А Воўка ж пазнае.
Ф. Багушэвіч

У другой байцы пісьменнік бярэ сюжэт у Крылова, але дыялогі робіць больш аб’ёмнымі, набліжае да натуральнасці маўлення, жыццёвага вопыту. Асаблівасць байкі «Рэпа і рэдзька» ў тым, што аўтар спалучае неспалучальнае: змяняе сэнс прымаўкі на супрацьлеглае значэнне: «Ложка толькі дзёгцю / Псуе бочку мёду».

Мараль байкі «Хцівасць» перагукваецца з многімі творамі, дзе з пазіцыі жыццёвай мудрасці высмейваецца чалавечая сквапнасць.

Язэпам Вількоўшчыкам было напісана і апублікавана некалькі дзясяткаў баек. Яго творчасць сведчыць, што гэты чалавек валодаў літаратурнымі здольнасцямі, самабытным паэтычным талентам.

### Пытанне

Усё, сказанае пра Язэпа Вількоўшчыка, наводзіць на пытанне: чаму пра яго ніколі не згадвалі ў сваіх кнігах даследчыкі літаратуры Заходняй Беларусі — Уладзімір Калеснік, Арсень Ліс, Аляксей Пяткевіч, Мікола Мікуліч, іншыя даследчыкі?

Чаму Уладзімір Калеснік не ўключыў у складзеныя ім кнігі «Сцягі і паходні» (Мн., 1965) і «Ростані волі» (Мн., 1990) ніводнага верша Язэпа Вількоўшчыка? А Мікола Мікуліч у сваёй кнізе "Паэзія Заходняй Беларусі (1921–1939)" (Мн., 2010. С.116) пра Язэпа Вількоўшчыка згадаў толькі ў адным сказе: «Асаблівасці лірыка-апавядальнай стылявой плыні былі дамінуючымі ў творах многіх іншых заходнебеларускіх аўтараў, таленавітых прадстаўнікоў масавай самадзейнай паэзіі, — Я. Вількоўшчыка, У. Казаровіча, Ф. Каравацкага, С. Новіка-Пеюна».

Нядаўна я патэлефанаваў доктару філалагічных навук Арсеню Лісу і запытаўся: чаму ніхто ніколі, у тым ліку і вы, не згадвалі пра Язэпа Вількоўшчыка? Паважаны літаратуразнавец шчыра адказаў: «Таму што мы мала пра яго што ведалі. Чыталі яго творы ў заходнебеларускіх выданнях, але дзе ён жыў, як склаўся ягоны лёс — ніхто з нас не чуў. Мы даследавалі творчасць больш вядомых літаратараў Заходняй Беларусі — Максіма Танка, Валянціна Таўлая, Алеся Салагуба, Леапольда Родзевіча, Міхася Васілька і іншых».

Арсень Ліс вельмі ўзрадаваўся, калі я сказаў, што адшукаў у Слоніме сына Язэпа Вількоўшчыка Андрэя Вількоўскага.

Дарэчы, калі я развітваўся з Андрэем Іосіфавічам Вількоўскім, ён прынёс бутэльку самаробнага віна і сказаў: «Бацька мой вельмі ўмеў ставіць добрае віно. У яго былі старыя нямецкія і польскія прыгожыя бутэлькі, куды ён віно наліваў, а потым ім частаваў гасцей. Ён і мяне навучыў рабіць такое віно. Хачу вас пачаставаць». Мы прыселі за стол, а спадар Андрэй напоўніў шклянкі чырвоным віном, і мы памянулі яго бацьку — выдатнага беларускага паэта былой Заходняй Беларусі Язэпа Вількоўшчыка.

## Вершы і байкі Язэпа Вількоўшчыка

### Мой шлях

*Аднак маркотна жыць без светлага імкнення,*
*З духоўным холадам для маладых грудзёў.*
*Жыццё кароткае так шэра без тварэння,*
*Нібы без красак луг ці дрэва без пладоў.*
*Прайду жыццёвы шлях ў змаганні і тварэнні,*
*Каб след майго быцця не кончыўся з жыццём,*
*Каб Бацькаўшчыны сын у дзесятым пакаленні*
*Сказаў: «Але, ён быў народным змагаром!».*

**1932 г.**

### Васількі

*Вострым серп хціва жаў*
*Ураджай каласоў —*
*Я ў калысцы ляжаў*
*Сярод жоўтых палёў.*
*У цянёчак з снапкоў*
*Ка мне матка прыйшла.*
*І вянок з васількоў*
*Палявых прынясла.*
*Цалавала мяне,*
*Што я любы сынок,*
*І галоўку маю*
*Укваціла ў вянок...*
*І пайшла зноў да жней,*
*Да вясёлых жанок,*
*Крыж зрабіла на мне,*
*Каб мяне хто не ўрок.*
*Я ў калысцы ляжаў*
*І на неба глядзеў —*
*Васількі, што трымаў,*
*Быццам з неба я меў.*
*Васількі з родных ніў*
*Спадабаліся мне:*
*На яву іх я сніў,*
*Іх я трызніў у сне.*
*Я падрос... я пастух...*
*Я ратай... я жаўнер...*
*Васількоў іншых двух*
*Пакахаў я цяпер.*
*Ўспамінаю пры іх*
*Пра вянок з васількоў,*
*Што мне матка дала*
*З стужкай ласкавых слоў.*
*Люба, глянь на мяне...*
*Векі воч падымі...*
*Можа ў вочках тваіх*
*Васількі расцвілі...*
*Расцвілі?.. Ты маўчыш...*
*Толькі слова скажы —*
*Цалаваць рад я крыж*
*На супольнай мяжы.*

**1933 г.**

### Смерць *(Memento mori)*

*Чаго ты загубная ходзіш за мною,*
*Чаму ты, як вязня, мяне сцеражэш?*
*З касцістым абліччам і вострай касою*
*Чаго ты як цень маім следам ідзеш?*
*На свет паглядаеш ты воўкам з засадкі,*
*Крадзешся, як злодзей, як тыгр ці як леў,*
*Сабою канчаеш бяду і дастаткі,*
*Ты вечна магутна, як пруязнь ці гнеў.*
*Ты тут! І мы бачым, як чын твой вось свежы*
*Ляжыць прыпячатаны штэмплем тваім.*
*Ты там! Перайшоўшы загробныя межы,*
*Аднак дзверы насцеж пакінула ўсім.*
*І вырваўшы іскру з жыцця маладога,*
*Як вуж, прытаілася ў цягу гадзін.*
*Дарэмныя слёзы і жальбы да тога,*
*Твой голас апошні для ўсіх нас адзін.*
*Твой сон так магутны, як п’яныя чары,*
*Як моцна атрута, як грозны праклён.*
*На пожні снапамі кладзеш ты ахвяры,*
*Дарма нам змагацца — хоць нас легіён.*
*Ад ўсходу на захад свайго бытавання*
*Жмут іскраў хапаем, што выдзьмуў каваль,*
*Мы тыя гулякі, што ў час прад сканаennем*
*Спраўляем агульны, апошні свой баль!*

**1933 г.**

### Адказ

*Жыві з ваўкамі так, як ўсе ваўкі жывуць:*
*Калі завые воўк, то воўкам адзывайся...*
*Так часам мне з сялян парадзіць хто-нібудзь:*
*Да роду, значыцца, свайго не прызнавайся.*
*Аднак жа я, глухі на прапазыку іх,*
*Да воўка мовай сваёю абазвуся:*
*Не прамяняю я яе дзеля другіх,*
*З ёю зрадзіўся я, і з ёю застануся.*
*І роднае яе не кіну ў час благі,*
*Хоць бы яна была зварушана трывогай.*
*Да смерці не звярнуць мяне на шлях другі,*
*Я — Бацькаўшчыны сын — іду яе дарогай!*

**1933 г.**

### Цыган і воўк

*Байка*

*Вядомую прыказку ўсякі знае з нас,*
*Што галоднаму хлеб толькі ўноч сніцца.*
*А ваўку з цыганом прыходзіцца не раз*
*Галоднымі ўсцяж па свеце валачыцца.*
*На раду важную, як далей будуць жыць,*
*Сышліся раз яны і так пастанавілі:*
*На полі працаваць — каб хлеб сабе здабыць!*
*Дык прыкладна вось так з сабою гаварылі:*
*— Я розумам багат, а ты дык маеш спрыт, —*
*Так гаварыў цыган да слухаўшага воўка, —*
*Так што не толькі я, а будзеш і ты сыт,*
*Як загарэм зямлю і хораша і лоўка.*
*— І будзем есці ўжо, — спытаўся хутка воўк.*
*— Не, "бацька", пачакай, яшчэ пасеяць трэба...*
*Нат цяжка сам ўздыхнуў і зараз жа замоўк.*
*А воўк пытае зноў, калі здабудуць хлеба.*
*— Ды хай яшчэ узыйдзе! — адказаў цыган, —*
*Ды вырасце, як лес, пасля яшчэ нальецца,*
*Ды толькі колас хай уродзіць як качан...*
*А ваўку ужо ўверху на ёлцы хлеб здаецца.*
*— Дык будзем есці ўжо? — пытае шчыра воўк.*
*— Не, "бацька", пачакай, яшчэ нажаці трэба,*
*Ды сноп абмалаціць, ды каб млынар змалоў,*
*А ўжо з мукі тады мы напячэм шмат хлеба...*
*— Дык будзем есці ўжо? — яго зноў воўк спытаў,*
*Баючыся аднак, каб не дайшло да спрэчкі,*
*— На гэта пройдзе год! — цыган так адказаў...*
*І коні красць пайшоў, а воўк — лавіць авечкі.*

**1933 г.**

### Хцівасць

*Байка*

*Хто хцівы — хоча меці болей,*
*То пэўна ўсякаму вядома,*
*Яму ніколі не даволі,*
*Хоць бы ўсяго меў досыць дома.*
*Задорны Лыска цераз кладку*
*Ў зубах раз костку нёс малую,*
*Калі зірнуў на воду гладку —*
*Убачыў цюцьку там другую.*
*Вось сабачым вокам змерыў*
*Ад пят да галавы і морды —*
*І аж вачам сваім не верыў —*
*Бо той таксама быў задорны.*
*— Яшчэ ён мае мне стаўляцца,*
*Нажму вось карк, — падумаў Лыска, —*
*І косць павінна мне застацца,*
*Як выскалю яму зуб зблізка...*
*Тут з шэрсці хіб узрос, падняўся,*
*Да бойкі Лыска скочыў сузам...*
*Без косткі собскае застаўся,*
*Паддаўшыся благім спакусам,*
*Ды на дадатак пакупаўся*
*І ледзь да берагу дабраўся.*

**1933 г.**




# Унікальны каляндар на 2015 год

**Надыходзіць натхняльны час крохкіх сняжынак і марозных карунак, скрынак з падарункамі і гучных хлапушак, ласункаў і прысмакаў! Новы год — гэта заўсёды новыя спадзяванні, чаканні і, канечне ж, новыя веды!**




І кампанія «Будзьма беларусамі!» гатовая гэтымі ведамі дзяліцца. Ні дня без новага беларускага слова ў 2015 годзе дзякуючы насценнаму календару «Не маўчы па-беларуску!»

Новы год з пазнавальным календаром ад «Будзьма!» — гэта 365 беларускіх словазлучэнняў у вясёлых малюнках мастачкі Дар'і Мандзік, аўтаркі ідэі праекта «Не маўчы па-беларуску!». Дызайнерскае афармленне, як і саму ідэю календара, прапанаваў Анатоль Лазар (студыя «Адліга»). Кожны месяц прысвечаны пэўнай тэме, больш за тое, распрацоўшчыкі парупіліся, каб гэтай тэме адпавядалі і адметныя беларускія прымаўкі на кожнай старонцы календара. Ежа, вопратка, кветкі, жывёлы, вандроўкі і адпачынак — каляндар узбагаціць ваш слоўнікавы запас амаль ва ўсіх сферах жыцця!

«Гэты год адзначыўся ўсплёскам цікаўнасці беларусаў да сваёй мовы! Гэта, як і поспех паштовак з серыі «Не маўчы па-беларуску!», натхніла нас на стварэнне календара, — кажа Алена Макоўская, каардынатарка кампаніі «Будзьма беларусамі!». — Праект з паштоўкамі быў прыязна прыняты як публікай, так і прафесійнай супольнасцю на фестывалі AD.NAK!. Натуральна, што нашай камандзе бачыўся працяг, і ідэя з календаром нам вельмі спадабалася. Мы проста ўявілі, як файна будзе, калі чалавек, што цікавіцца роднай мовай, будзе вучыць кожны дзень новае слова ці словазлучэнне. Перад намі стаяла задача стварыць не толькі прыгожы і пазітыўны прадукт, але і прадэманстраваць адметныя, смачныя словы, якія найцікавей ілюструюць беларускую мову. А паколькі ўкладальнікі календара — людзі творчыя, то не абышлося, безумоўна, без гарачых дыскусій. І тут вельмі дарэчы былі і філагічныя веды каардынаткі кампаніі Ніны Шыдлоўскай, і дапамога эксперта — Уладзіміра Лянкевіча».

Ідэя календара — Анатоль Лазар. Ідэя праекта «Не маўчы па-беларуску!» — Дар'я Мандзік.

Укладальнікі: Дар'я Мандзік, Анатоль Лазар, Уладзімір Лянкевіч, Алена Макоўская, Ніна Шыдлоўская.

Не маўчым разам па-беларуску ў 2015 годзе!

Каляндар «Не маўчы па-беларуску!» ўжо сёння ў мінскіх кнігарнях:

«Акадэмкніга» (пр-т Незалежнасці, 72), кнігарня «логвінаЎ» (пр-т Незалежнасці, 37А), «Кніжны салон» (вул. Калініна, 5), «Кнігарня пісьменніка» (вул. Казлова, 2), «Веды» (вул. К.Маркса, 36), «Светач» (пр-т Пераможцаў, 11), «Цэнтральны кніжны» (пр-т Незалежнасці, 19), «Кнігі & кніжачкі» (пр-т Незалежнасці, 14), Кніжная выстава-кірмаш «Мир книг» (вул. Янкі Купалы, 27), «Эўрыка» (вул. Куйбышава, 75).

Неўзабаве ў рэгіёнах:

г. Віцебск («Веды», вул. Леніна, 54; «Светач», вул. Кірава, 10), г. Гродна («Праметэй», вул. Савецкая, 10), г. Берасце («Іскра», вул. Пушкінская, 4), г. Ліда («Кніжны свет», пр. Перамогі, 33), г. Маладзечна («Спадчына», вул. Прытыцкага, 7), г. Бабруйск («Букініст», вул. Ульянаўская, 49), г. Наваполацк («Дом кнігі», вул. Маладзёжная, 145).

І ў інтэрнэт-крамах knihi.by, prastora.by і imbryk.by

# Музей Януша Паруліса ў Гародні

Ала ПЕТРУШКЕВІЧ

**У самым цэнтры нашага горада, на ціхай вуліцы Лермантава (колішняй Базыльянскай), у доме пад нумарам 25 размясціўся незвычайны музей. Сціпла названы музеем побыту, праўда, з тлумачэннем: гісторыя Гродна. Бо гэта музей і літаратурны, і мастацкі, і спорту, і музей-аптэка, і шмат чаго яшчэ.**







Здзіўляе велізарная колькасць экспанатаў. Яны паўсюль: застаўленая падлога, пакінуты толькі нешырокія пляцоўкі, сцены ўвешаныя ад падлогі да столі. А яшчэ ж двор, прыбудоўкі, у перспектыве — драўляная хатка.

Але самы цікавы «экспанат» — арганізатар музея Януш Паруліс. Мастак, музыка, марак, вандроўнік, антысаветчык... Чалавек незвычайнага лёсу. З кагорты тых знакамітых гарадзенскіх стылягаў канца 1950-х гадоў, што нарабілі такі вэрхал у нашым ціхім абласным горадзе. Ён і сёння, у сваім паважаным веку, выглядае вельмі стыльна. Слухаць яго — задавальненне.

Здагадайцеся, дзе быў Януш Паруліс у лістападзе 1989 года? Аказваецца, у Берліне. Неістотна, што апынуўся там выпадкова. Бо нічога выпадковага не бывае. Аж два тыдні дзёўб берлінскую сцяну. Дадае: «І рабіў гэта з асалодай!» І вельмі няблага зарабіў на гэтым: купіў «мерседэс». Дадае: «Не толькі «мерседэс», але яшчэ шмат якіх рэчаў». Аповед пра тыя падзеі авантурна-прыгодніцкага зместу. Як і многія з ягоных аповедаў. Але разам з тым пан Януш заставаўся чалавекам прагматычным, умеў сваю выгаду не прамінуць. Дзяўбсці мур было цяжка: пухлі рукі, крывавілі мазалі. Тады ён зрабіў амаль тое ж, што і знакаміты герой Марка Твэна: купіў малаток, зубіла і за пэўную плату здаваў гэтыя сродкі працы ў кароткатэрміновую арэнду прагным да экспанатаў турыстам з Амерыкі, Англіі, Францыі: «Бяры і дзяўбі сам». Пасля яшчэ і фотаапарат купіў, каб фатаграфаваць турыстаў каля сцяны, таксама за плату. Таму не дзіўна, што між незлічоных экспанатаў музея — аскепкі таго муру розных памераў.

А хіба нецікава паглядзецца ў люстэрка незвычайнае красы, бо з палацу. Вісіць на сцяне ў выштукаванай пазалочанай рамцы. Гэта мой самы ўлюбёны экспанат. Госці з Санкт-Пецярбурга надумалі пахваліцца: у нас у Эрмітажы такіх поўна! У адказ пачулі: «Не дзіва, што поўна. Вы ж усё наша вывезлі. А ў нас было 118 палацаў. І ў кожным не адно такое. І не толькі гэта. Ці не час вяртаць?..» Сціпла прамаўчым, адкуль такое шыкоўнае люстэрка ў прыватным музеі. А побач яшчэ адно, у чорнай рамцы. Не менш прыгожае. З хаты дзядулі...

На пытанне, які экспанат самы дарагі для гаспадара, паказвае на сямейную экспазіцыю, дзе партрэты, асабістыя рэчы продкаў. Таксама аж да столі. І яшчэ ложак, на якім спаў маленькім пры матулі. Ложку таму больш за сто гадоў. І тая ж самая аксамітная капа-доўгажыхарка.

Не вельмі ўглядайцеся ў партрэт Элізы Ажэшкі ў цэнтры: ён не зусім удалы. Прыглядзіцеся да здымкаў, што вакол яго ў сціплых рамках. Так, гэта сама Вялікая Пані Гародні, так, гэта пісьменніца, прыгажуня Зоф'я Налкоўская, якая пяць гадоў жыла ў нашым горадзе. Здымкі — арыгіналы. З тых часоў! У якіх музеях яшчэ ёсць? Яны віселі на сценах у доме дзядулі пана Януша, гарадзенскага пажарніка Францішка Райко. А побач стаіць кансолька — невялікі столік, хутчэй падстаўка для далікатных рэчаў. На вядомым здымку салоніка, што ў доме Элізы Ажэшкі, дакладна такая ж.

Ды і сам дом № 25 — знакаміты. Тут жыў Станіслаў Жыўна, заснавальнік музея прыроды ў Гародні, экспанаты якога і сёння радуюць наведвальнікаў.

У 1949–1950 гадах гэты дом стаў адным з прытулкаў для нашага вядомага пісьменніка-змагара з усялякаю няпраўдаю Аляксея Карпюка. Цяпер тут жывуць ягоныя кнігі. І тыя, даўнія, з ягоных часоў, і новая, апошняя «Развітанне з ілюзіямі».

Прывяла сюды студэнтаў — сапраўдных, адукаваных і цікаўных да ведаў. Такія заўсёды ёсць на беларускім аддзяленні (праўда, з кожным годам іх усё меней). Затрымаліся надоўга, і ніхто з іх не заікнуўся нават, што час развітвацца.

***Ад рэдактара:***

*Гэтыя нататкі Алы Петрушкевіч настолькі прасякнуты беларускасцю, што не ўзнікае сумнення — тая ж атмасфера пануе і ў музеі. Але чаму ж шыльда толькі па-руску? Спадар Януш, па-беларуску будзе — Музей побыту.*

Новы Час
Агульнапалітычная штотыднёвая газета
novychas.info

Выдаецца з сакавіка 2002 г.

Галоўны рэдактар
**Кароль Аляксей Сцяпанавіч**

**ЗАРЭГІСТРАВАНА** Міністэрствам інфармацыі РБ. Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі № 206 ад 20 ліпеня 2009.

**ЗАСНАВАЛЬНІК** Мінская гарадская арганізацыя ГА ТБМ імя Ф.Скарыны. Адрас. 220005, г. Мінск, вул. Румянцава, 13. Тэл. (+375 17) 284 85 11.

**ВЫДАВЕЦ** Прыватнае выдавецкае ўнітарнае прадпрыемства «Час навінаў». Пасведчанне ад 25.04.2014 г.

**АДРАС РЭДАКЦЫІ І ВЫДАЎЦА** 220113, г. Мінск, вул. Мележа, 1–1234. Тэл. +375 29 986-38-05, +375 17 268-52-81 novychas@gmail.com; novychas.info

**НАДРУКАВАНА** ў друкарні УП «Плутас-Маркет». г. Мінск, вул. Халмагорская, 59 А. Ліц. ЛП №02330/19 от 30.04.2004 №93. Замова № 1603

Падпісана да друку 28.11.2014. 8.00.
Наклад 7000 асобнікаў. Кошт свабодны.